dominus noster, Innocentius papa quartus, personam, regnum et omnia bona nostra iurisdictioni ac protectioni apostolice sedis subiiciens, auctoritate sua nos fecit coronari in regem totius Lettowie ac terrarum omnium, quas divine virtutis auxilio iam eripuimus de infidelium manibus, vel eripere poterimus in futurum, ut fini laudabili valeat consumari, quod in nobis inchoatum est, fideique rebelles et turbatores regni nostri manu potenti reprimere valeamus] [b], necessarium nobis vidimus [magistri et fratrum auxilium predictorum, quod et ipsi nobis ferendum, ut in eorum litteris, super hoc confectis, plenius continetur, sub iureiurando firmiter promiserunt. Quamvis autem militia eorundem fratrum ordinis instituta noscatur contra fidei et ecclesie turbatores, et ipsi nobis plus, quam ceteris christianis, auxilium suum ferre essent parati ad resistendum inimicis fidei, absque obligationis vinculo speciali vitam eternam sufficiens sibi stipendium representarent, tamen ut suam obligationem nobis in hac novitate maxime necessariam efficacius in auxilio nobis ferendo valeant observare] [b], terras inferius nominandas domui eorum de consensu heredum nostrorum contulimus, [libere ac quiete perpetuo possidendas] [b], ea conditione interposita, ut ipsi fratres per se ac suos in expensis propriis maceriali gladio, auxilio et consilio nobis ac regni nostri legitimis successoribus assistant perpetuo contra nostros et fidei inimicos. Econtra nos et successores nostros [c] eodem modo et per omnia fratribus eisdem obligamus. Nomina autem terrarum sunt hec: Rasseyene medietatem, Lukowe medietatem, Betegalle medietatem, Eregalle medietatem, Deynowe medietatem, Kulene totum, Karsowe totum, Crase totum, Nederowe totum, Weyze totum, aliud Weyse totum, Wange [1] totum. In huius rei testimonium presentes litteras sigillo nostro fecimus roborari. Presentes fuerunt, cum hec fierent, dominus Culmensis episcopus [2], magister Andreas [3] fratrum predictorum et fratres sui Andreas, Iohannes pincerna, Sittherus dapifer et Theodericus de Hassendorp, de fratribus predicatoribus Sinderamus, de fratribus minoribus frater Adolfus [4] et sui socii et alii quamplures.

Datum in Lettowia in curia nostra, anno Domini M°CC°LIII°, mense iulio.

---

**2.** [a]) *тэкст, скарочаны Генігам праз* etc., *узноўлены паводле дак. 6 з 1257 г., які мае падобны фармуляр, гэтак як у Kętrzynski. s. 190, і ўзяты ў кв. дуж.* [b]) *часткі дак. у кв. дуж. былі скарочаныя Генігам праз* etc. *і ўзноўленыя паводле [C]? (Seraphim. I.2. s. 39, nr. 39) у публікацыі Бунгэ* [c]) *так у a, c*

[1]) *частку гэтых зямельных уладаньняў лякалізуюць у Жамойці на захад ад г. Коўні (Kaunas), на правым (паўночным) баку Немана, сёньня – у заходняй Летуве. Некаторыя зь іх, відаць, адпавядалі воласьцям Жамойцкай зямлі, згадваным пазьней у кірылічных пісьмовых крыніцах. Дасьледнікі дакумэнтаў Міндава (Sjögren. s. 46 (206), 70 (230); Latkowski. s. 56 (355); Kętrzyński. s. 194–195; Seraphim. I.2. s. 33; Zajączkowski. s. 71–73 ды інш.) зьвязвалі іх назовы зь вядомымі пазьней тапонімамі, адпаведна:* Ergalle – *Ejragoła, Erigola, сёньня – Ariogala, г. Расяйнянскага р-ну;* Betegalle – *Betygoła, Betigola, сёньня – Betygala, м. Расяйнянскага р-ну;* Crase – *Krozy, сёньня – Kraziai, м. Кельмескага р-ну;* Rasseyene – *Rossienie, Rossieny, сёньня – Raseiniai, г., ц. р-ну;* Lukowe – *Ławków над р. Юраю, сёньня – Laukuva, м. Шылальскага р-ну (Kętrzyński падае яшчэ адну магчымую прывязку – Laków над р. Дубісаю);* Kulene – *Kolajne, Colayne, Kolniany на Немане каля г. Юрбарку (Jurbarkas), сёньня – Kalnėnai, в. Юрбарскага р-ну;* Karsowe, *відаць, адпавядала воласьці Коршово, якую зьвязваюць зь сёньняшняй в. Karšuva Таўраскага р-ну. Тры іншыя назовы суадносяць з населенымі пунктамі, разьмешчанымі на поўдні і паўднёвым захадзе ад Коўні:* Weyze – *магчыма, Wizajny ля мяжы Польшчы зь Летувой, сёньня – Wizajny, в. Сувалкаўскага пав. Падляскага в-ва ў Польшчы; Weyse, хутчэй за ўсё Wiejsieje, на поўдзень ад Коўні (Kaunas), сёньня – Veisiejai, г. Лазьдзяйскага р-ну;* Wange – *магчыма, Wangi між Прэнамі (Prienai) і Дарсунішкамі (Darsūniškis) – Kętrzyński. s. 195, сёньня – Vangai, в. Прэнайскага р-ну. Астатнія два уладаньні суадносяць з былымі прускімі землямі на захад ад плыні Нёмана (сёньня тэрыторыя паўднёва-заходняй Летувы і паўночна-ўсходняй Польшчы):* Deynowe *супастаўляюць з тапонімам Dejnowiszki (Latkowski. s. 56 (355)), сёньня – Dainaviškiai, в. Лазьдзяйскага р-ну (Toeppen. s. 33 зьвязвае назоў з тапонімам Danowo), але магчыма, мелася на ўвазе ўся пруская зямля Дайнова ці Судовія, цэнтральныя абшары якой ляжалі на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы ў раёне Сувалак, Элку, Алецка, Аўгустава (Suwałki, Ełk, Olecko, Augustów).* Nederowe – *відаць, трэба*

*суаднесьці з назовам былой прускай зямлі Надровіі, якая займала прыкладна верхнюю і сярэднюю частку басэйну р. Прэголі, сёньня гэта тэрыторыя Калінінградзкай вобл. Расеі* ²) *Гайдэнрык, Кульмскі (Хэлмінскі) біскуп* ³) *Andreas von Felben (Velven), von Stirland – Андрэй фон Вэльбэн (Штырлянд), Лівонскі майстар (1241, 1248 – канец 1253 – Kallmeyer. s. 30; Toll.-Schwartz. s. 15–16; Lutz.-Militzer. s. 221)* ⁴) *гэтую асобу атаесамляюць з графам Адольфам IV фон Шаўэнбург (Гольштайн), які ў 1227 г. удзельнічаў у крыжовай выправе ў Лівонію, а ў 1239 г. згодна з дадзеным на полі бітвы абяцаньнем уступіў у Ордэн меншых братоў (францішканцаў) і як брат гэтага Ордэну фігуруе ў дак. з 1251 г. разам з сваімі сынамі Ёганам і Гергардам (Bunge. I. sp. 286, nr. 227). У 1253 г. ён зноў апынуўся ў Лівоніі, прысутнічаў на каранацыі Міндава, а 20 ліп. 1253 яго імя (Alef) згадваецца ў ліку сьведкаў у акце падзелу курляндзкіх земляў між Курляндзкім біскупам і Нямецкім ордэнам (Bunge. I. sp. 334, nr. 253). Апошняя акалічнасьць дазваляе звузіць храналягічныя рамкі каранацыі Міндава да прамежку прынамсі паміж 1 і 20 ліп. 1253 (Bonnell. s. 83 (Komm.); Latkowski. s. 53 (352), 131 (430); Transehe-Roseneck. s. 80, nr. 63)*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовіі, [усім, хто будзе бачыць гэты ліст, збаўленьне ў імя Езуса Хрыста].

Паколькі з ласкі Божага натхненьня і парады [любых нам у Хрысьце майстра і братоў Нямецкага дому ў Лівоніі] мы былі пакліканыя зь цемры паганства да сьвятла Касьцёлу Езуса Хрыста і адроджаныя праз [ласку хроснай купелі, а найсьвяцейшы айцец і пан наш папа Інацэнт чацьверты, беручы нашую асобу, каралеўства і ўсе ўладаньні пад юрысдыкцыю і абарону апостальскага пасаду, сваёю ўладаю наказаў каранаваць нас на караля ўсяе Летовіі і ўсіх земляў, якія з дапамогаю Божае моцы мы ўжо вырвалі або зможам вырваць у будучыні з рук няверных, то дзеля таго каб хвалебна магло завяршыцца пачатае ў нас і каб моцнай рукою мы маглі стрымліваць бунтаўнікоў веры і парушальнікаў нашага каралеўства], нам неабходная, як мы ўбачылі, [дапамога раней памянёных майстра і братоў, якую яны і самы цьвёрда, пад прысягаю, паабяцалі даваць нам, як больш поўна выкладзена ў іхным лісьце, складзеным дзеля гэтага. І хоць войска Ордэну тых жа братоў, як вядома, створанае супроць парушальнікаў веры і Касьцёлу, дый самы браты гатовыя былі б несьці сваю дапамогу нам больш, чым іншым хрысьціянам, дзеля адпору ворагам веры і, нават ня будучы зьвязаныя пэўным абавязкам, лічылі б вечнае жыцьцё дастатковай платаю для сябе, але дзеля таго каб гэты свой абавязак у дапамозе нам яны маглі выконваць больш дзейсна, што вельмі патрэбна для нас у гэтых новых абставінах], мы з згоды нашых дзедзічаў перадалі іхнаму дому [на вечнае, вольнае і бясьпечнае валоданьне] ніжэй названыя землі. Пры гэтым была пастаўленая ўмова, каб самы браты празь сябе і сваіх [людзей] уласным коштам заўсёды дапамагалі нам і законным наступнікам нашага каралеўства матэрыяльным мечам, падтрымкаю і парадаю супроць нашых ворагаў і непрыяцеляў веры. З свайго боку мы і нашыя наступнікі гэткім жа чынам і ва ўсім абавязваемся дапамагаць тым жа братом. Назовы ж земляў гэткія: Расейнаў палова, Лукава палова, Бетыголы палова, Айраголы палова, Дэйновы палова, Кулені ўсе, Коршава ўсё, Крожы ўсе, Недэрова ўся, Вейжы ўсе, іншыя Вейсі ўсе, Вангі ўсе. На сьведчаньне пра гэтую справу мы далі зацьвердзіць гэты ліст нашай пячацьцю. Былі прысутнымі, калі дзеялася гэта, пан Кульмскі біскуп, Андрэй, майстар памянёных братоў, і яго браты Андрэй, Ян чашнік, Сітэр стольнік і Тэадорык з Гасэндорпу, ад братоў прапаведнікаў Сіндэрам, ад братоў меншых Адольф і яго паплечнікі ды многія іншыя.

Дадзена ў Летовіі, на нашым двары, у год Пана MCCLIII, у месяцы ліпені.

## 3.

**1254 сак. 12**

*Міндаў, кароль Летовіі, уводзіць у дзяржаньне зямельнымі ўладаньнямі ў Жамойці і ўпасажвае біскупа Хрысьціяна.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 31 сак. 1352 у Рызе клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі натарыем Вульфардам фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 8 (B); У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе клерыкам Вармійскай дыяцэзіі натарыем Мікалаем Глецэры на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Робіна фон Эльч, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. 17, nr. 18 (C); У коп. гэтага транс. (ад 26 тр. 1388) у Ordensfoliant з назовам "Grentzbuch und Handlung derselben" (Grenzbuch B), які быў складзены ў XV–XVI стст., з C, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 270a, f. 43v (D)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 352, nr. 243 (з D); b) Raczyński. p. 5, nr. 2 (з B); c) Bunge. I. sp. 345, nr. 263 (з b); d) Narbutt. Pisma. s. 40; e) Maleczyński. tab., kol. 3 (з c)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 101, nr. 394. s. 116, nr. 454; Bunge. I. Reg. s. 75, nr. 298; Strehlke. s. 136; Paszkiewicz. I. p. 57, nr. 285; Joachim.-Hubatsch. II. s. 19, nr. 140* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 84, nr. 136; Philippi.-Woelky. I.1. s. 215, nr. 284; Latkowski. s. 153 (452)–154 (453); Kętrzyński. s. 199; Maleczyński. s. 35–38.*

*Транс. ад 31 сак. 1352 (L.S. Schiebl. XI, nr. 8) зьмяшчае толькі B. Пашкоджаны падцекамі і дзіркамі, адна зь якіх закранула канец акту і знак натарыя на ніжнім левым ражку. У транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. 17, nr. 18) даецца апісаньне пячаці Міндава:* Littera... est sigillata cum sigillo pendente in pressula pergameni et cum cera alba antiqua rotunde figure in cuius circumferencia sculpta sunt hec verba: "Mindowe dei gracia Rex Lettowie" et in medio eiusdem sigilli sculpta est ymago regis sedentis in solio habens coronam in capite et in dextera manu tenens sceptrum regium ac in sinistra manu habens figuram pomi tenentis pedes super scabellum indutus pallio regali et in figura pomi in superficie signum crucis est impressum (Ліст... апячатаны пячацьцю, прывешанай на стужцы пэргаміну, зь белага старажытнага воску круглай формы, па акружыне якой выціснутыя такія словы: "Mindowe dei gracia Rex Lettowie", а ў сярэдзіне той жа пячаці выціснутая выява караля, які сядзіць на пасадзе з каронаю на галаве, каралеўскім жазлом у правай руцэ і выявай яблыка ў левай, ногі ён трымае на падстаўцы і апрануты ў каралеўскі плашч, на выяве яблыка над верхняй яго паверхняй выціснуты знак крыжа). *Фармуляр дак. выяўляе стылёвыя падабенствы з актам біскупа Хрысьціяна ад 6 крас. 1254 (дак. I.11). Аўтэнтычнасьць дак. ня ставілася пад сумнеў.*

Тэкст з *B*

Myndowe [a)], Dei gracia rex Lettowie [b)], omnibus Cristi fidelibus, ad quos presens scriptum pervenerit, salutem in Domino Iesu.

Universitatem vestram scire volumus, quod nos, de maturo consilio nostrorum, recepimus venerabilem patrem, dominum Cristianum [1], quem consecrari postulavimus in episcopum regni nostri, mittentes ipsum in corporalem possessionem, assignantes eciam eidem pro dote Rossegene medietatem, Betegallen medietatem, Lokowe medietatem [2]. In cuius rei perhennem memoriam presentem paginam sigillo nostro fecimus communiri.

Acta sunt hec presentibus et consencientibus filiis nostris Replen [3] et Gerstuthen [4], Parbsen [5], fideli nostro, anno Domini millesimo [c)] CC°LIIII°, quarto ydus [d)] m[arcii] [e)].

---

3. [a)] Mindowe *C* [b)] Lettovie *C* [c)] *наступныя лічбы гадавой даты выпісаныя ў C прапісам і ў большай частцы неразб.* [d)] idus *C* [e)] *дзірка; у кв. дуж. з C*

[1]) *Хрысьціян зь Нямецкага ордэну, біскуп Літовіі (1253–1270), магчыма, паходзіў з роду графаў фон Кірхбэрг (Wojtecki. s. 151). Гл. кам.* [2]) *наконт лякалізацыі гэтых земляў гл. заўв. 1 да дак. I.2* [3]) *несумнеўна, гэта сын Міндава, забіты разам зь ім і згаданы ў Галіцка-Валынскім летапісе пад імем у форме* Репекья *(1263. ПСРЛ. II, стб. 860). Гл. кам.* [4]) *паводле меркаваньня Latkowski. s. 154 (453), гэта вельмі моцнае скажэньне*

*імя другога сына Міндава, згаданага ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1263 г. у форме* Роукля *(ПСРЛ. II, стб. 860), але хутчэй за ўсё тут мы маем дачыненьне зь іншым імем. Гл. кам.* [5]) *Latkowski. s. 154 (453) атаесамляе гэтую асобу з давераным Міндава, які ўзначаліў яго пасольства да папы і які выступае ў Лівонскай рыфмаванай кроніцы пад імем* Parnus *(LR. s. 81, v. 3509). Гл. кам.*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовіі, усім верным Хрыстовым, да якіх дойдзе гэты ліст, збаўленьне ў Пане Езусе.

Жадаем, каб усе вы ведалі, што мы, добра параіўшыся з сваімі, прынялі вялебнага айца пана Хрысьціяна, якога папрасілі высьвяціць на біскупа нашага каралеўства, уводзячы яго ў дзяржаньне, а таксама прызначаючы яму ж у пасаг палову Расейнаў, палову Бетыголы, палову Локава. На вечную памяць пра гэтую справу мы далі зацьвердзіць гэты ліст нашай пячацьцю.

Учынена гэта ў прысутнасьці і з згоды нашых сыноў Рэплі і Герстута ды нашага вернага Парб(у)ся ў год Пана тысяча CCLIIII, у чацьверты [дзень перад] сакавіцкімі ідамі.

## 4.

**1255 каст.**

*Міндаў, кароль Летовіі, даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі Селёнію.*

**Ар.:** *Пэрг. 26,8 × 13,0 + 1,8, круглая пячаць на жоўтым воску, прывешаная на льняных белых і блакітных ніцях, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 9 (A)* — **Коп.:** *У транс. папскага нунцыя Яна Габрыэлі, біскупа Масы, зробленым італійскім натарыем Хрыстафорам Еганіні дэ Манфрэдыніс з Пармы ў Торуні 18 тр. 1393 на запатрабаваньне пракуратараў Нямецкага ордэну ў Лівоніі Мікалая Грапіна і Маркварда фон Суворстэн, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 10 (B); Коп. у Ordensfoliant "Prussie compositio" (1413) транс., зробленага (натарыем Вульфардам фон Бурэн) на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Госвіна фон Герыкэ ў Рызе 7 сак. 1352, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 7, p. 40 (C); Коп. у Ordensfoliant 11b (Aktenstücke betr. den Streit zwischen den Polen und dem DOrden 1339–1420) таго ж транс. (ад 7 сак. 1352), Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 11b, f. 52 (D); У кнізе копіяў (XV ст.?) у Ordensbriefarchiv, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14a (E)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 382, nr. 271 (з E); b) Hennig. VII. s. 138 (з A, у скароце); c) Raczyński. p. 11, nr. 7 (з A); d) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 19 (з b, у скароце); e) Bunge. I. sp. 371, nr. 286 (з c); f) Lites. I.2. p. 39; g) Lites (2). II. p. 111 (з A); h) Kętrzyński. s. 200 (з A); i) Maleczyński. tab., kol. 4 (з фатазд. у h)* — **Факс.:** *Фатазд. у: Kętrzyński. tab. I* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 31, nr. 121. s. 125, nr. 497; Bunge. I. Reg. s. 81, nr. 322. VI. Reg. s. 17; Bonnell. s. 70; Strehlke. s. 138; Paszkiewicz. I. p. 62, nr. 313; Joachim.-Hubatsch. II. s. 19, nr. 145* — **Літ.:** *Philippi. Brief. s. 2; Daniłowicz. I. s. 91, nr. 154; Sjögren. s. 57 (217); Philippi.-Woelky. I.1. s. 236, nr 324; Latkowski. s. 132 (431)–143 (442); Kętrzyński. s. 199–206; Klymenko. s. 212–215; Łowmiański. II. s. 67–69, 325; Maleczyński. s. 7–10, 38–44.*

*A напісаны прыгожым і выразным гатычным курсівам. На адг. пазначка:* Hoc privilegium portavit dominus Syfridus Lander, preceptor Lyvonie, feria quarta ante dominicam Reminiscere anno XXII, *у канцы якой, верагодна іншай рукою, дададзена:* de anno 1255. *Яшчэ іншаю рукою ніжэй напісана:* Ave Maria. *Да сярэдзіны загіну пэргаміну прывешаная круглая аднабаковая маестатычная пячаць. Д – 8,5. Ніці для прывешваньня пячаці ўціснутыя ў жалабок для іх на яе левым баку іншым воскам. На пярэднім баку выява караля, апранутага ў каралеўскія шаты, які сядзіць і трымае ў правай руцэ, абапёртай на правым сьцягне, жазло, увенчанае ліліямі; узьнятая левая рука трымае каралеўскі яблык з крыжам на ім. На галаве караля карона, з-пад якой выбіваюцца кучары. Тло выявы аздобленае лінейным арнамэнтам. Надпіс, які быў па акружыне, абламаны. Літара* M *пасьля крыжыка, якою пачынаўся надпіс і наяўнасьць якой або яе рэштак адзначалася ў: Philippi.-Woelky,*

*Kętrzyński i Maleczyński, ужо не праглядаецца. Захаваўся толькі крыжык перад ёю. Апісаньне A і пячаці падаецца ў: Philippi.-Woelky. I.1. s. 236, nr. 324; Kętrzyński. s. 200–202; Maleczyński. s. 7–10. Фатазд. пячаці ў: Kętrzyński. tab. 2. Транс. ад 18 тр. 1393 (L.S. Schiebl. XI, nr. 10) дае апісаньне пячаці:* privilegium originale… eius sigillo rotundo, ut prima facie apparebat in cera alba et cordula de fillis (!) albis et flaviis (!) lineis impendente sigillatum… in cuius quidem sigilli caractere erat sculpta ymago regis sedentis cum sceptro in manu dextra et in manu sinistra cum pomo et una cruce super dicto pomo et in eius circumferentiis erant scripta verba, que secuntur post quandam crucem videlicet: "Myndouwe dei gra Rex Litowie" (арыгінальны прывілей... апячатаны ягонай круглай, як на першы погляд здавалася, пячацьцю на белым воску і прывешанай на шнурку зь белых і жоўтых (?) ільняных ніцяў... на адбітку гэтай пячаці была выцiснутая выява караля, што сядзіць з жазлом у правай руцэ і зь яблыкам, на якім зьмешчаны адзінарны крыж, а па яе акружыне пасьля крыжа напісаныя словы, а менавіта: "Myndouwe dei gra Rex Litowie". *Як мяркуе Малечыньскі, пячаць пасьля 1393 г. зь невядомых прычынаў была адчэпленая, а затым ізноў прывешаная, прычым бела-жоўтыя ніці былі замененыя на бела-блакітныя (Maleczyński. s. 8). Сумневы ў яе аўтэнтычнасьці паўставалі перадусім у сувязі з абламаным надпісам (Kętrzyński. s. 201). Выказваліся сумневы і наконт аўтэнтычнасьці самога прывілею, але без разгляду яго палеаграфічных і дыпляматычных асаблівасьцяў (Hennig. VII. s. 138; Latkowski. s. 137 (436)–141 (440); Kętrzyński. s. 202–203). Сапраўднасьць акту пацьвердзіў Maleczyński (s. 44) на падставе палеаграфічнага і дыпляматычнага аналізу, супастаўленьня юрыдычных і гістарычных рэаліяў, палітычных падставаў выданьня дакумэнту. Фармуляр прывілею выяўляе шэраг агульных рысаў з дак. 2 з 1253 г. і з прывілеем біскупа Хрысьціяна ад 6 крас. 1254.*

Тэкст з *A*

Myndowe, Dei gracia primus rex Lettowie [a)], universis Christi fidelibus, ad quos presens scriptum pervenerit, salutem in filio Dei vivi.

Cum dilecti nobis in Christo magister, et fratres domus sancte Marie Theutonicorum [b)] in Lyvonia [c)], sua fideli ac diligenti persuasione de tenebris gencium nos vocarint, ut cum ceteris Christi fidelibus veritatis lumen eo levius agnoscere valeamus, et, eorum auxilio mediante, dominus apostolicus [1] nos renasci fecerit per unde graciam baptismalis, et de sua solita clemencia nos in regem tocius Lettowie [a)] fecerit coronari. Cum itaque vigilanti sollicitudine meditaremur, quid ad eiusdem regi [d)] conservationem et protectionem nobis expediret, fide conspeximus oculata, nobis fore valde necessarium, ac proficuum fidei christiane, quatinus circa memoratos magistrum et fratres de Lyvonia [c)] donationes regias faceremus. Licet tamen eorumdem perutilis ordo ad huiusmodi ecclesie singulare subsidium a Domino sit feliciter institutus, ut ipsi in assistendo nobis eo fore valeant forciores, et nos eo liberius ac potencius impugnatoribus regni nostri fidei quoque rebellibus resistere valeamus; et cum eciam nemo cogetur suis stipendiis militare, de consensu heredum nostrorum, predictis magistro et fratribus in Lyvonia [c)] terram, que Selen dicitur, videlicet Meddene, Pelone, Maleysine, Thovraxe [e)2], cum suis attinenciis, duximus assignandam, perpetuo libere possidendam. In cuius itaque facti perhennem memoriam presentem paginam sigilli nostri munimine fecimus roborari.

Datum anno Domini M°CC°LV° [f)], mense octobris.

---

4. [a)] Littowie *B* [b)] Theotonicorum *B* [c)] Livonia *B* [d)] *так у A, трэба чытаць* regni, *як у B* [e)] Thowraxe *B* [f)] millesimo ducentesimo quinquagesimo quinto *B*

[1]) *Інацэнт IV, Рымскі папа (1243–1254)* [2]) *зямельныя ўладаньні, якія лякалізуюць на паўднёвым, левым баку Дзьвіны ніжэй Дзьвінску (Daugavpils), на абшарах, акрэсьленых з поўдня і захаду верхняй плыньню р. Сьвятой (Sventoji), прытокамі р. Земгальскай Аа – Лавенаю (Lėvuo) і Мушаю (Mūša), з поўначы і ўсходу р. Дзьвіною (Sjögren. s. 57 (217); Latkowski. s. 135 (434)–136 (435); Kętrzyński. s. 202–204), сёньня – тэрыторыя паўночна-ўсходняй Летувы і паўднёва-ўсходняй Латвіі. Дакладная іх лякалізацыя выклікае пэўныя цяжкасьці, але, відаць, іх можна зьвязаць зь вядомымі пазьней населенымі пунктамі, адпаведна:* Meddene – *магчыма, Medejki ў міжрэччы Нёманка (Nemunėlis) і Мушы – прытокаў р. Земгальскай Аа (Latkowski), сёньня – Medeikiai, в. Біржайскага р-ну;* Maleysine – *магчыма, Melejszy на поўдзень ад Біржаў (Kętrzyński), сёньня – Mieleisiai,*

*в. Біржайскага р-ну;* Thovraxe *– магчыма, Tauroginie (Latkowski, Kętrzyński), сёньня –Tauragnai, м. Уцянскага р-ну (Sjögren зьвязвае назоў з тапонімам Tauerkaln).* Pelone *– магчыма, разьмяшчалася над р. Земгальскай Аа і, напэўна, межавала з* Meddene *(Latkowski)*

Міндаў, з ласкі Божае першы кароль Летовіі, усім верным Хрыстовым, да якіх дойдзе гэты ліст, збаўленьне ў Сыне Бога жывога.

Некалі любыя нам у Хрысьце майстар і браты Нямецкага дому сьвятой Марыі ў Лівоніі, пераконваючы шчыра і настойліва, паклікалі нас зь цемры паганства, каб разам зь іншымі вернымі Хрыстовымі мы маглі лягчэй спазнаць сьвятло праўды, і дзякуючы іхнай дапамозе пан апастолік пажадаў адрадзіць нас праз ласку хроснай купелі ды з уласьцівай яму зычлівасьцю наказаў каранаваць на караля ўсяе Летовіі. І калі зь неаслабнай заклапочанасьцю мы разважалі, што дапамагло б нам захаваць і абараніць гэтае самае каралеўства, то з усёй відавочнасьцю ўбачылі, што вельмі неабходным для нас і карысным для хрысьціянскай веры будзе зрабіць для памянёных братоў каралеўскія дарэньні. І хоць іхны надзвычай патрэбны ордэн быў шчасьліва ўстаноўлены Панам для такой адмысловай падтрымкі Касьцёлу, але каб яны больш дзейсна маглі дапамагаць нам, а мы больш рашуча і магутна здолелі даць адпор нападнікам на нашае каралеўства і бунтаўнікам веры, дый таму, што ніхто не абавязаны ваяваць сваім коштам, мы з згоды нашых дзедзічаў пастанавілі прызначыць на вечнае і вольнае валоданьне памянёным майстру і братом зь Лівоніі зямлю, якая называецца Селы, а менавіта Медэн, Пелён, Малейшы, Тоўрагі з [усім да] іх належным. На вечную памяць пра гэты чын мы далі зацьвердзіць гэты ліст моцаю нашай пячаці.

Дадзена ў год Пана MCCLV, у месяцы кастрычніку.

## 5.

**1255 каст.**

*Міндаў, кароль Літовіі, просіць папу Аляксандра IV зацьвердзіць дарэньне Селёніі, учыненае ім Ордэну* [1].

**Ар.:** — **Коп.:** *У лісьце папы Аляксандра IV майстру і братом Нямецкага ордэну ад 13 ліп. 1257 (гл. дак. II.19), з A?, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. IV, nr. 38 (B); У кнізе копіяў (XV ст.?) у Ordensbriefarchiv, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14b (C)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 381, nr. 270 (з C?); b) Bunge. I. sp. 372, nr. 287; c) Maleczyński. tab., kol. 5 (з b)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 81, nr. 323; Bonnell. s. 70; Strehlke. s. 138; Paszkiewicz. I. p. 63, nr. 314; Joachim.-Hubatsch. I.1. s. 2, nr. 22* — **Літ.:** *Sjögren. s. 58 (218); Philippi.-Woelky. I.1. s. 236, nr. 324; Maleczyński. s. 38–44.*

*Папскі ліст, у які ўключаная копія гэтай суплікі Міндава, захаваўся ня толькі ў арыгінале, але і ў некалькіх транс. (гл. дак. II.19). Моцнае падабенства ў фармуляры дак. I.5 з дак. I.4 дазваляе меркаваць, што абодва яны былі складзеныя адной асобай. Апрача таго, акт мае шэраг агульных рысаў з дак. I.2 (1253) і з прывілеем біскупа Хрысьціяна ад 6 крас. 1254 (дак. I.11). Аўтэнтычнасьць ліста ня раз ставілася пад сумнеў (пар.: Hennig. VII. s. 138; Kętrzyński. s. 206), але Maleczyński. s. 38–44 на падставе дыпляматычнага аналізу пераканаўча сьцьвердзіў яго сапраўднасьць.*

Тэкст з *B*

Sanctissimo patri ac domino sacrosancte Romane sedis, summo pontifici Alexandro [2], Mindowe [a)], Dei gratia rex Lettowie [b)], filialem obedientiam et constantissimam in Domino caritatem ac [c)] devota pedum oscula beatorum.

Cum dilecti nobis in Christo .. magister et fratres domus sancte Marie Theutonicorum in Livonia[d)] sua fideli ac diligenti persuasione de tenebris gentium nos vocarint, ut cum ceteris Christi fidelibus veritatis lumen eo levius agnoscere[e)] valeamus, ut[f)], eorum auxilio mediante, apostolicus I(nnocentius) IIII[g)], predecessor vester felicis memorie, nos renasci fecerit per unde gratiam baptismalis, et de sua solita clementia nos in regem totius Lettowie[b)] fecerit coronari, ut idem regnum[h)] a nobis et nostris successoribus pacifice valeat gubernari, vidimus nobis fore valde necessarium ac proficuum fidei christiane, ut circa quoslibet donationes regias faceremus. Cum itaque memorati magister et fratres in Lyvonia, nostri constantissimi cooperatores et fidelissimi promotores, suum ferre nobis auxilium sint parati, ut in auxilio nobis ferendo eo fore valeant fortiores, et ad hoc explendum eis etiam suppetant facultates, de consensu heredum nostrorum eisdem magistro et fratribus terram, que Selen dicitur, videlicet Meddene, Pelone[i)], Maleysine[k)], Thouraxe[3], cum suis attinentiis, contulimus perpetuo possidendam. Supplicamus igitur benignitati vestre, quatinus eandem donationem, circa predictos magistrum et fratres a nobis provide factam, ratam[l)] et gratam[l)] habentes, eam patentibus papalibus litteris dignemini confirmare, et magistro et fratribus domus Theutonicorum in Lyvonia per exhibitorem presentium destinantes[m)].

Datum anno Domini M°CC°L°[n)]V°[o)], mensis octobris.

---

5. [a)] Myndowe *C* [b)] Littovie *C* [c)] ad *C* [d)] Lyvonia *C* [e)] congnoscere *C* [f)] et *C* [g)] quartus *C* [h)] regnum nostrum *C* [i)] Palone *C* [k)] Maileisine *C* [l-l)] gratam et ratam *C* [m)] destinatos *C* [n)] quinquagesimo *C* [o)] quinto *C*

[1]) *гл. дак. II.19. Папа Аляксандар IV зацьвярджае дарэньне Селеніі Нямецкаму ордэну, учыненае каралём Міндавам*
[2]) *Аляксандар IV, папа Рымскі (1254–1261)* [3]) *наконт лякалізацыі гэтых земляў гл. заўв. 2 да дак. I.4*

Найсьвяцейшаму айцу і пану сьвятога Рымскага пасаду, найвышэйшаму пантыфіку Аляксандру, Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовіі, [выказвае] сыноўнюю паслухмянасьць і нязьменную любоў, пабожна цалуючы блаславёныя ногі.

Некалі любыя нам у Хрысьце [Андрэй] майстар і браты Нямецкага дому сьвятой Марыі ў Лівоніі, пераконваючы шчыра і настойліва, паклікалі нас зь цемры паганства, каб разам зь іншымі вернымі Хрыстовымі мы маглі лягчэй спазнаць сьвятло праўды, і дзякуючы іхнай дапамозе слаўнай памяці папа І(нацэнт) IIII, ваш папярэднік, пажадаў адрадзіць нас праз ласку хроснай купелі і з уласьцівай яму зычлівасьцю наказаў каранаваць на караля ўсяе Летовіі, але каб мы і нашыя наступнікі маглі мірна кіраваць гэтым самым каралеўствам, мы ўбачылі, што вельмі неабходным для нас і карысным для хрысьціянскай веры будзе зрабіць для [гэтых братоў] каралеўскія дарэньні. І паколькі памянёныя майстар і браты ў Лівоніі, нашыя нязьменныя паплечнікі і найвярнейшыя абаронцы, гатовыя несьці нам сваю дапамогу, дзеля таго каб яны маглі больш дзейсна дапамагаць нам і каб на выкананьне гэтага ім ставала сродкаў, мы з згоды нашых дзедзічаў далі гэтым жа майстру і братом на вечнае валоданьне зямлю, якая называецца Селы, а менавіта Медэн, Пелён, Малейшы, Тоўрагі з [усім да] іх належным. Пакорліва просім вашую міласьць, каб гэтае дарэньне, прадбачліва зробленае намі для названых майстра і братоў, палічыўшы яго зьдзейсьненым, сапраўдным і прымальным, вы мелі ласку зацьвердзіць адкрытым папскім лістом, прызначаючы праз падавальніка гэтага [нашага] ліста майстру і братом Нямецкага дому ў Лівоніі.

Дадзена ў год Пана MCCLV, у месяцы кастрычніку.

## 6.

1257

*Міндаў, кароль Летовіі, даруе Нямецкаму ордэну розныя зямельныя ўладаньні.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 7 сак. 1352 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн, клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 11 (B); У коп. гэтага транс. (ад 7 сак. 1352) у Ordensfoliant "Prussie compositio" (1413), з B, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 7, p. 42 (C); У коп. таго ж транс. (ад 7 сак. 1352) у Ordensfoliant "Registrum ex parte ordinis productorum..." (1421), з B, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 12 (D); У транс. таго ж "Registrum ex parte ordinis productorum...", зробленым на загад кардынала Гульерма яго натарыямі Янам Мартынэцці дэ Навіяна і Янам Павэлеці 10 ст. 1421, з D, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. X, nr. 38 (E); У Ordensfoliant "Privilegia des Colmischen Landes" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 67, f. 149 (F); У Ordensfoliant "Theilung und Grentze der Landt, Schuldbrieff, Bündniß unndt Willkühr" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 71, f. 179b (G); У кнізе копіяў (XV ст.?) у Ordensbriefarchiv, выцягнутая з ранейшага Ordensfoliant F, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14c (H)* — **Выд.:** *a) Acta Borussica. III, p. 738; b) Dreger. s. 410, nr. 298 (з H); c) Naruszewicz. V. s. 349 (у скароце); d) Kienitz. II. Beil. 1. s. V, nr. 2 (з B); e) Raczyński. p. 12, nr. 8 (з B); f) Lites. I.2. p. 41; g) Lites (2). II. p. 113 (з B); h) Kętrzyński. s. 190 (з B); i) Seraphim. I.2. s. 33, nr. 39 (з B); k) Maleczyński. tab., kol. 6 (з h)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 37, nr. 146; Bunge. I. Reg. s. 84, nr. 330; Paszkiewicz. I. p. 69, nr. 346; Joachim.-Hubatsch. II. s. 18, nr. 133* — **Літ.:** *Kętrzyński. s. 189–199; Seraphim. I.2. s. 35–39, nr. 39; Zajączkowski. s. 68–69; Klymenko. s. 205; Łowmiański. II. s. 321; Maleczyński. s. 25–28.*

*У транс. ад 7 сак. 1352 (L.S. Schiebl. XI, nr. 11) сьцьвярджаецца непашкоджанасьць і сапраўднасьць арыгіналу, зь якога рабілася коп., і згадваецца пячаць Міндава:* cum vero suo sigillo integro et illeso (зь ягонай сапраўднай, цэлай і непашкоджанай пячацьцю). *Да Кэнтшыньскага (1907) з прычыны падабенства фармуляру акт лічылі недакладнай копіяй дак. I.2 з 1253 і часта блыталі з апошнім. Апрача таго, пратакол мае некаторыя агульныя рысы з арыгінальным дак. I.8 ад 7 жн. 1259. Kętrzyński. s. 198 лічыў акт фальсыфікатам, Maleczyński. s. 27–28 – фальсыфікатам або інтэрпаляванай копіяй, да якой перад транссумаваньнем была прывешаная сапраўдная пячаць Міндава, адарваная ад нейкага іншага арыгіналу, выдадзенага каралём.*

Тэкст з *B*

Myndowe, Dei gracia rex Lettowie [a] universis, presentes litteras inspecturis, salutem in nomine Iesu Cristi.

Quoniam inspiracionis Divine gracia faciente per consilium dilectorum nobis in Christo .. magistri et fratrum domus Theutonice de Lyvonia, de tenebris gencium in ecclesie Iesu Christi lumen sumus vocati ac renati per unde graciam baptismalis ac sanctissimus pater ac dominus noster Innocencius papa quartus personam, regnum et omnia bona nostra iurisdictioni ac protectioni apostolice sedis subiciens, auctoritate sua nos fecit coronari in regem tocius Lettowie [b] ac terrarum omnium, quas divine virtutis auxilio iam eripuimus de infidelium manibus, vel eripere potuerimus in futurum, ut fine laudabili valeat consumari, quod in nobis est inchoatum, fideique rebelles et turbatores regni nostri manu potenti reprimere valeamus, necessarium nobis vidimus .. magistri et fratrum auxilium predictorum, quod et ipsi nobis ferendum, ut in eorum litteris, super hoc confectis, plenius continetur, sub iureiurando firmiter promiserunt. Quamvis autem milicia eorundem fratrum ordinis instituta noscatur contra fidei et ecclesie turbatores, et ipsi nobis sicut et plus, quam ceteris cristianis, auxilium suum ferre essent parati absque obligacionis vinculo speciali et vitam eternam sufficiens sibi stipendium reputarent, tamen ut suam obligacionem in hac novitate nobis maxime necessariam efficacius in auxilio nobis ferendo valeant observare, terras inferius

nominandas[c)] domui eorum de consensu heredum nostrorum contulimus cum omnibus attinenciis, libere possidendas, ea condicione interposita, ut ipsi fratres per se ac suos in expensis propriis maceriali gladio, auxilio et consilio nobis ac regni nostri legitimis[d)] successoribus assistant perpetuo contra nostros ac fidei inimicos. Nomina autem terrarum hec sunt: Rasseyene medietatem, Loukovwe[e)] medietatem, Betegalle medietatem, Ergalle[f)] medietatem, Deynowe medietatem, Pamemene medietatem, Kulene totum, Carsowe[g)] totum, Crase[h)] totum, Niderowe totum[h)], Weyzze[i)] totum, aliud Weyzze[i)] totum, Wanghe totum[1)]. In huius itaque rei testimonium presentem paginam sigilli nostri munimine fecimus roborari.

Datum anno dominice incarnacionis millesimo[k)] ducentesimo quinquagesimo septimo[k)].

6. [a)] Letthovie *G*, Littovie *H* [b)] Lethuie *F*, Letthovie *G*, Lethovie *H* [c)] nominatas *H* [d)] legittimis *H* [e)] v *над рдк. B*, Loukowe *F, G, H* [f)] Ergille *G* [g)] Carsouwe *H* [h-h)] Nyderowe totum, Crase totum *F, G, H* [i)] Weizze *F, H* [k-k)] M°CC°LVII° *H*

[1)] *наконт лякалізацыі гэтых уладаньняў гл. заўв. 1 да дак. I.2.* Pamemene – *суадносяць зь вядомым пазьней населеным пунктам Poniemon на поўдзень ад плыні Немана, недалёка ад Коўні (Kętrzyński. s. 195; Seraphim. I.2. s. 33), сёньня – Panemunis, в. Прэнайскага р-ну Летувы*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовіі, усім, хто будзе бачыць гэты ліст, збаўленьне ў імя Езуса Хрыста.

Паколькі з ласкі Божага натхненьня і парады любых нам у Хрысьце майстра і братоў Нямецкага дому ў Лівоніі мы былі пакліканыя зь цемры паганства да сьвятла Касьцёлу Езуса Хрыста і адроджаныя праз ласку хроснай купелі, а найсьвяцейшы айцец і пан наш папа Інацэнт чацьверты, беручы [нашую] асобу, каралеўства і ўсе нашыя ўладаньні пад юрысдыкцыю і абарону апостальскага пасаду, сваёю ўладаю наказаў каранаваць нас на караля ўсяе Летовіі і ўсіх земляў, якія з дапамогаю моцы Божае мы ўжо вырвалі або зможам вырваць у будучыні з рук няверных, то дзеля таго каб хвалебна магло завяршыцца пачатае ў нас і каб моцнай рукою мы маглі стрымліваць бунтаўнікоў веры і парушальнікаў нашага каралеўства, нам неабходная, як мы ўбачылі, дапамога раней памянёных майстра і братоў, якую яны і самы цьвёрда, пад прысягаю, паабяцалі даваць нам, як больш поўна выкладзена ў іхным лісьце, складзеным дзеля гэтага. І хоць войска Ордэну тых жа братоў, як вядома, створанае супроць парушальнікаў веры і Касьцёлу, дый самы браты гатовыя былі б несьці сваю дапамогу нам больш, чым іншым хрысьціянам, і, нават ня будучы зьвязаныя пэўным абавязкам, лічылі б вечнае жыцьцё дастатковай платаю для сябе, але дзеля таго каб гэты свой абавязак у дапамозе нам яны маглі выконваць больш дзейсна, што вельмі патрэбна для нас у гэтых новых абставінах, мы з згоды нашых дзедзічаў перадалі іхнаму дому на вольнае валоданьне ніжэй названыя землі з усім [да іх] належным. Пры гэтым была пастаўленая ўмова, каб самы браты празь сябе і сваіх [людзей] уласным коштам заўсёды дапамагалі нам і законным наступнікам нашага каралеўства матэрыяльным мечам, падтрымкаю і парадаю супроць нашых ворагаў і непрыяцеляў веры. Назовы ж земляў гэткія: Расейнаў палова, Лоўкава палова, Бетыголы палова, Айраголы палова, Дэйновы палова, Панямоня палова, Кулені ўсе, Коршава ўсё, Крожы ўсе, Нідэрова ўся, Вейсі ўсе, іншыя Вейсі ўсе, Вангі ўсе. На сьведчаньне пра гэтую справу мы далі зацьвердзіць гэты ліст моцаю нашай пячаці.

Дадзена ў тысяча дзьвесьце пяцьдзясят сёмы год уцелаўленьня Пана.

# 7.

**1257**

*Міндаў, кароль Летовіі, даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі ўсю Жамойць.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У страч. транс. Рэвельскага біскупа Яна, які быў зроблены на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Мэнэмара фон Бругэной з А? у Рэвелі 16 сак. 1392 [B]; У страч. коп. з гэтага транс. у Ordensfoliant F, f. 48 [C]* — **Выд.:** *a) Hennig. VII. s. 142 (з [C]); b) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 21 (з a); c) Bunge. I. sp. 382, nr. 294 (з a); d) Kętrzyński. s. 206 (з c); e) Seraphim. I.2. s. 39, nr. 40 (з a); f) Maleczyński. tab., kol. 7 (з e)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 84, nr. 330; Bonnell. s. 72; Strehlke. s. 138; Paszkiewicz. I. p. 69, nr. 347; Joachim.-Hubatsch. I.1. s. 2, nr 26* — **Літ.:** *Bonnell. Ereignisse. s. 302; Daniłowicz. I. s. 94, nr. 161; Ewald. III. s. 128; Latkowski. s. 143 (442)–145 (444); Prochaska. s. 68–69; Kętrzyński. s. 207–208; Seraphim. I.2. s. 39–40, nr. 40; Zajączkowski. s. 76–77; Klymenko. s. 211–212; Łowmiański. II. s. 324–325; Maleczyński. s. 44–47.*

*За падставу першай публікацыі дак. у Hennig. VII. s. 142 была ўзятая копія транс. Рэвельскага біскупа Яна, якая знаходзілася ў Ordensfoliant F, паколькі арыгінал транс. у часы Геніга (1815) ужо не існаваў. Пазьней Ordensfoliant F з ініцыятывы архіварыюса Р. Філіпі быў разьдзелены і адна частка зьмешчаная ў Ordensbriefarchiv. Але затым аркушы, на якіх знаходзілася копія, згубіліся (гл.: Hennig. VII. s. 140; Seraphim. I.2. s. 39). Фармуляр выяўляе найбольш падабенства з дак. I.6, а асобныя яго звароты – з дак. I.8. Дак. лічылі фальсыфікатам Latkowski. s. 145 (444), Kętrzyński. s. 208 і Maleczyński. s. 45, які зыходзіў з дыпляматычнага аналізу фармуляру і даводзіў, што фальсыфікацыя была зробленая пасьля 1259 г.*

Тэкст з *a*

Mindowe, Dei gracia rex Littowie, universis presentes litteras inspecturis salutem in nomine Iesu Christi.

Notum esse volumus omnibus Christi fidelibus, tam presentis vite quam posteris, quod nos Dei inspiracione et consilio ac auxilio fratrum domus Theutonice in Lyvonia constitute in universa terra Lettowie in regem sumus coronati. Hinc est, quod nos totam terram Semeyten fratribus predictis assignamus, cum omni iure possidendo, exceptis terris, quas episcopo Lettowie contulimus, sicut litteris super hoc confectis plenius continetur. In huius itaque rei testimonium presentem paginam sigilli nostri munimine fecimus roborari.

Datum anno dominice incarnationis MCCLVII.

Міндаў, з ласкі Божае кароль Літовіі, усім, хто будзе бачыць гэты ліст, збаўленьне ў імя Езуса Хрыста.

Мы хочам, каб было вядома ўсім верным Хрыстовым, як гэтага веку, так і нашчадкам, што мы з натхненьня Божага ды з парады і з дапамогай братоў Нямецкага дому, разьмешчанага ў Лівоніі, былі каранаваныя на караля ва ўсёй зямлі Летовіі. А таму мы прызначаем памянёным братом усю зямлю Жамойці, з поўным правам валоданьня, з выняткам земляў, якія мы перадалі біскупу Летовіі, як больш поўна выкладаецца ў лісьце, складзеным дзеля гэтага. На сьведчаньне ж пра гэтую справу мы далі зацьвердзіць гэты ліст моцаю нашай пячаці.

Дадзена ў год уцелаўленьня Пана MCCLVII.

# 8.

**1259 жн. 7**

*Міндаў, кароль Летовіі, даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі розныя землі.*

**Ар.:** *Пэрг. 31,2 × 19,2 + 2,2, ад пячаці, прывешанай да загіну пэргаміну, захаваліся толькі чырвоныя шаўковыя ніці, ад якіх яна была адрэзаная (адгрызеная мышамі – Daniłowicz. I. s. 99), Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 12 (A)* — **Коп.:** *У транс., зробленым натарыем Вульфардам фон Бурэн, клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага ляндмайстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ ў Рызе 7 сак. 1352, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 13 (B); У коп. гэтага транс. (ад 7 сак. 1352) у Ordensfoliant "Prussie compositio" (1413), з B, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 7, p. 39 (C); У коп. таго ж транс. (ад 7 сак. 1352) у Ordensfoliant "Registrum ex parte ordinis productorum..." (1421), з B, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 12 (D); У транс. гэтага "Registrum...", зробленым на загад кардынала Гульерма яго натарыямі Янам Мартынэці дэ Навіяна і Янам Павэлеці 10 ст. 1421, з D, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. X, nr. 38 (E); У Ordensfoliant "Privilegia des Colmischen Landes" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 67, f. 152 (F); У Ordensfoliant "Theilung und Grentze der Landt, Schuldbrieff, Bündniß unndt Willkühr" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 71, f. 181 (G); У кнізе копіяў (XV ст.?) у Ordensbriefarchiv, выцягнутая з ранейшага Ordensfoliant F, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14d (H)* — **Выд.:** *a) Acta Borussica. III. p. 739; b) Dreger. s. 424, nr. 312 (з F); c) Naruszewicz. V. s. 349 (у скароце); d) Kotzebue. II. s. 291 (з A, з памылковаю датаю 1252 г.); e) Hennig. VII. s. 139 (з A, у скароце); f) Raczyński. p. 15, nr. 10 (з A); g) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 15 (з c, з памылковаю датаю 1252 г.); h) Bunge. I. sp. 436, nr. 342 (з f); i) Lites. I.2. p. 42; k) Lites (2). II. p. 109 (з A); l) Kętrzyński. s. 208 (з A); m) Seraphim. I.2. s. 69, nr. 79 (з A); n) Maleczyński. tab., kol. 8 (з фатазд. у l)* — **Факс.:** *Фатазд. у: Kętrzyński. tab. 3* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 40, nr. 158. s. 101, nr. 393; Bunge. I. Reg. s. 95, nr. 383. VI. Reg. s. 19; Strehlke. s. 138; Perlbach. s. 168, nr 605; Paszkiewicz. I. p. 72, nr. 362; Joachim.-Hubatsch. II. s. 22, nr. 170* — **Літ.:** *Toeppen. s. 30; Sjögren. s. 89 (249)–92 (252); Bonnell. Ereignisse. s. 303–304; Daniłowicz. I. s. 99, nr. 181; Philippi. Brief. s. 2; Ewald. III. s. 128; Prochaska. s. 69–70; Seraphim. I.2. s. 70–72, nr. 79; Latkowski. s. 145 (444)–149 (448); Kętrzyński. s. 208–213; Zajączkowski. s. 77–78; Maleczyński. s. 10–12, 20–25.*

*A напісаны каліграфічна правільным і выразным гатычным курсівам. На вертыкальным згіне дробныя пашкоджаньні – дзіркі (пагрызены пацукамі – Seraphim. I.2. s. 70, ці мышамі – Daniłowicz. I. s. 99). На адг. пазначка тою ж рукою, што і ў дак. I.5 з кастр. 1255:* de a. 1259. Hoc privilegium portavit dominus Syfridus Lander preceptor Lyvonie anno domini XXII° feria quarta ante dominicam Reminiscere. *Іншаю рукою:* litera Myndowe regis Litawie. *У транс. ад 7 сак. 1352 (L.S. Schiebl. XI, nr. 13) сьцьвярджаецца непашкоджанасьць і сапраўднасьць арыгіналу ліста Міндава і згадваецца пячаць:* cum vero suo sigillo integro et illeso in filis sericeis rubeis appendente... (зь яго сапраўднай, цэлай і непашкоджанай пячацьцю, прывешанай на чырвоных шаўковых ніцях...). *Апісаньне A у: Daniłowicz. I. s. 99; Seraphim. I.2. s. 70; Kętrzyński. s. 209–210; Maleczyński. s. 11–12. Супроць аўтэнтычнасьці прывілею выказваліся Latkowski. s. 149 (448); Kętrzyński. s. 211–213. Сапраўднасьць дакумэнту давёў Maleczyński. s. 24–25 на падставе аналізу яго палеаграфічных і дыпляматычных асаблівасьцяў, супастаўляючы з тагачаснымі палітычнымі, гістарычнымі і юрыдычнымі акалічнасьцямі. Фармуляр прывілею выяўляе шэраг агульных рысаў з дак. I.2 – 1253, дак. I.4 – кастр. 1255 і з прывілеем біскупа Хрысьціяна ад 6 крас. 1254 (дак. I.11).*

Тэкст з *A*

Myndowe, Dei gratia rex Lettowie, universis Christi fidelibus, presentes litteras inspecturis, salutem in nomine Iesu Christi.

Quoniam inspirationis divine gratia faciente per consilium dilectorum nobis in Christo magistri et fratrum domus Teuthonice in Lyvonia de tenebris gentium in ecclesie Iesu Christi lumen vocati sumus ac renati per unde gratiam baptismalis, ac sanctissimus pater ac dominus noste[r] [a] Innocentius papa quartus personam, regnum et omnia bona nostra iuridictioni ac protectioni apostolice sedis subiciens, auctoritate sua nos fecit coronari in regem tocius Lettowie ac terrarum omnium, quas divine virtutis auxilio iam eripuimus de infidelium manibus, vel eripere poterimus in [b] futurum, ut fine laudabili valeat consumari, quod in

nobis inchoatum est, fideique rebelles, turbatores regni nostri manu potenti reprimere valeamus, necessarium nobis vidimus magistri et fratrum auxilium [pre]dictorum [a)], quod et ipsi nobis ferendum, ut in eorum litteris, super hoc confectis, plenius continetur, sub [b)] iure iurando firmiter promiserunt. Quamvis autem milicia eorumdem fratrum ordinis instituta noscatur contra fidei et ecclesie turbatores, et ipsi nobis plus, quam ceteris christianis, auxilium suum ferre essent parati ad resistendum inimicis fidei, absque obligationis vinculo speciali vitam eternam sufficiens sibi stipendium reputantes, tamen ut suam obligationem nobis in hac novitate maxime necessariam efficatius in auxilio nobis ferendo valeant observare, terras inferius nominatas domui eorum de consensu heredum nostrorum contulimus, libere ac quiete [per]petuo [a)] possidendas, nichil nobis iuris sive iurisdictionis vel dominii in eisdem reservantes, ea conditione interposita, ut ipsi fratres per se ac suos in propriis expensis ma[teria]li [a)] gladio, auxilio et consilio nobis ac regni nostri legitimis heredibus assistant perpetuo contra fidei inimicos, regni nostri terminos infestantes. Nomina autem terrar[um] [a)] hec sunt: Denowe tota, quam etiam quidam Ietwesen vocant, exceptis quibusdam terrulis, scilicet Sentane, Dernen, Cresmen et villa, que Gubiniten [b)] dicitur, cum tribus villis in Welzowe, quas nostro dominio reservamus. Insuper dedimus fratribus prelibatis totam terram Schalowen, Seymeten [c)] totam [1], illis dumtaxat bon[is in] [a)] ipsa Seymeta exceptis, que venerabili patri ac domino Lettowie episcopo contulimus, prout in litteris desuper confectis plenius continetur. Hanc etiam ipsis gratiam facimus sp[eciale]m [a)] cum heredum nostrorum consensu et voluntate liberaliter et libenter, ut quicumque in regno vel dominio nostro fratribus ipsis de bonis suis, tam mobilibus, quam immobilibus, in toto vel in parte, aliquid dederit, vel in testamento legaverit, sive a [a)] nobis teneantur in feudo, seu dantium vel legantium sint propria, tamquam alia bona sua, que ipsis contulimus, libere possidere valeant perpetuo et habere. In huius [d)] itaque donationis ordinationisque perhennem memoriam presens privilegium inde confectum sigilli nostri munimine fecimus roborari.

Datum anno Domini M°CC°LIX° [e)], VII idus augusti.

---

**8.** [a)] *дзірка, у кв. дуж. з B*   [b)] Gribiniten *B*   [c)] Seymeyten *B*   [d)] cuius *B*   [e)] millesimo CC° LIX° *B*

[1]) *наконт лякалізацыі* Denowe (Deynowe) *гл. заўв. 1 да дак. I.2. Астатнія землі таксама зьмяшчаюць на паўночным усходзе сучаснай польскай тэрыторыі з населенымі пунктамі Алецка, Сувалкі, Элк (Kętrzyński. s. 212, Seraphim. I.2. s. 69).* Sentane – *зьвязваюць з тапонімам Świętajno побач з г. Алецка, сёньня – Świętajno, в., ц. гм. Алецкага пав. Варміньска-Мазурскага в-ва;* Dernen – *Dziarnowo, якое разьмяшчалася недалёка ад Świętajno;* Cresmen – *згадваецца ў Пятра Дузбурскага (SRP. I. s. 142) у форме Crasima, там жа гаворыцца і пра зьверхніка гэтай зямлі Скуманда, зыходзячы з чаго Kętrzyński зьвязаў гэты назоў з населеным пунктам Skomętno, разьмешчаным на аднайменным возеры на ўсход ад Элку, сёньня – Skomętno, в. Элкаўскага пав. Варміньска-Мазурскага в-ва (Toeppen. s. 30 супастаўляў назоў з тапонімамі Krasnopol ці Krasno на ўсход ад Сувалак, сёньня – Krasnopol, Krasne? у Падляскім в-ве).* Schalowen – *пруская зямля Скаловія ці Скалова, якая ляжала абапал дольнай плыні Нёмана, сёньня – тэрыторыя паўночнай часткі Калінінградзкай вобл. Расеі і наднёманскай часткі Летувы.* Seymeten *ці* Seymeta – Жамойць. *Разьмяшчэньне* Gubiniten *і* Welzowe *вызначыць не ўдаецца, магчымасьць суаднясеньня з былым усходнепрускім горадам Gumbinnen (польскі назоў Gąbin, сёньня – г. Гусеў у Калінінградзкай вобл. Расеі) аспрэчаная ў Kętrzyński*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовii, усім верным Хрыстовым, якія будуць бачыць гэты ліст, збаўленьне ў імя Езуса Хрыста.

Паколькі з ласкі Божага натхненьня і парады любых нам у Хрысьце майстра і братоў Нямецкага дому ў Лівоніі мы былі пакліканыя зь цемры паганства да сьвятла Касьцёлу Езуса Хрыста і адроджаныя праз ласку хроснай купелі, а найсьвяцейшы айцец і пан

наш папа Інацэнт чацьверты, беручы [нашую] асобу, каралеўства і ўсе нашыя ўладаньні пад юрысдыкцыю і абарону апостальскага пасаду, сваёю ўладаю наказаў каранаваць нас на караля ўсяе Летовіі і ўсіх земляў, якія з дапамогаю моцы Божае мы ўжо вырвалі або зможам вырваць у будучыні з рук няверных, то дзеля таго каб хвалебна магло завяршыцца пачатае ў нас і каб моцнай рукою мы маглі стрымліваць бунтаўнікоў веры і парушальнікаў нашага каралеўства, нам неабходная, як мы ўбачылі, дапамога памянёных майстра і братоў, якую яны і самы цьвёрда, пад прысягаю, паабяцалі даваць нам, як больш поўна выкладзена ў іхным лісьце, складзеным дзеля гэтага. І хоць войска Ордэну тых жа братоў, як вядома, створанае супроць парушальнікаў веры і Касьцёлу, дый самы браты гатовыя былі б несьці сваю дапамогу нам больш, чым іншым хрысьціянам, дзеля адпору ворагам веры і, нават ня будучы зьвязаныя пэўным абавязкам, лічылі б вечнае жыцьцё дастатковай платаю для сябе, але дзеля таго каб гэты свой абавязак у дапамозе нам яны маглі выконваць больш дзейсна, што вельмі патрэбна для нас у гэтых новых абставінах, мы з згоды нашых дзедзічаў перадалі іхнаму дому на вечнае, вольнае і бясьпечнае валоданьне ніжэй названыя землі, нічога не пакідаючы сабе з права ці юрысдыкцыі або ўлады на іх. Пры гэтым была пастаўленая ўмова, каб самы браты праз сябе і сваіх [людзей] уласным коштам заўсёды дапамагалі нам і законным наступнікам нашага каралеўства матэрыяльным мечам, падтрымкаю і парадаю супроць нашых ворагаў і непрыяцеляў веры, якія спусташаюць межы нашага каралеўства. Назовы ж земляў гэткія: Дэнова ўся, якую таксама некаторыя называюць Етвезь, з выняткам некаторых невялікіх земляў, а менавіта Сентаны, Дзернаў і Крэсмаў, і вёскі, якая называецца Губініты, з трыма вёскамі ў Вельцаве, якія захоўваем у сваім валоданьні. Звыш таго мы далі згаданым братом усю зямлю Скалову, усю Жамойць, з выняткам толькі тых маёмасьцяў у самой Жамойці, якія мы перадалі вялебнаму айцу і пану біскупу Летовіі, як больш поўна выкладаецца ў лісьце, складзеным дзеля гэтага. З згоды і волі нашых дзедзічаў мы зычліва і ахвотна чынім таксама ім гэткую асаблівую ласку: калі б хто ў нашым каралеўстве ці ўладаньні даў штосьці самым братом з сваіх маёмасьцяў, як рухомых, так і нерухомых, цалкам ці часткова, ці запавёў у тэстамэнце, ці яны дзяржаць гэта ад нас як лен, ці гэта ўласнасьць тых, хто даюць ці запавядаюць, яны могуць вольна і вечна валодаць і дзяржаць іх гэтак жа, як іншыя свае маёмасьці, якія мы ім перадалі. На вечную памяць пра гэтае дарэньне і наданьне мы далі зацьвердзіць моцаю нашай пячаці дадзены прывілей, дзеля гэтага складзены.

Дадзена ў год Пана MCCLIX, у VII [дзень перад] жнівеньскімі ідамі.

## 9.

**1260 чэрв. сяр. — Летовія**

*Міндаў, кароль Летовіі, на выпадак сваёй сьмерці пры адсутнасьці дзедзічаў даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі ўсё свае каралеўства разам з прылеглымі землямі.*

**Ар.: — Коп.:** *У транс., зробленым 17 сьн. 1392 у Рызе натарыем Мікалаем фон Пантэліц, клерыкам дыяцэзіі Роскільдэн. на запатрабаваньне пракуратара Нямецкага ордэну Ёгана фон Вэльдэ, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), з A, L.S. Schiebl. XI, nr. 15 (B); У транс. папскага нунцыя ў Польшчы, Прусіі, Літве і Лівоніі Яна Габрыэлі, біскупа Масы, зробленым 18 тр. 1393 у Торуні на запатрабаваньне пракуратараў Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Мікалая Грапіна і Маркварда фон Суворстэн, з A, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 14 (C); У коп.*

*згубленага пазьней транс., зробленага 7 сак. 1352 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн з дыяцэзіі Падэрборн на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Госвіна фон Герыкэ з A, упісанай у Ordensfoliant "Prussie compositio" (1413), Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 7, p. 45 (D); У коп. таго ж транс. (ад 7 сак. 1352) у Ordensfoliant "Registrum ex parte ordinis productorum..." (1421), з D, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 12, f. 101 (E); У транс. таго ж "Registrum ex parte ordinis productorum...", зробленым на загад кардынала Гульерма яго натарыямі Янам Мартынэцi дэ Навіяна і Янам Павэлецi 10 ст. 1421, з D, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. X, nr. 38, f. 38 (F); У Ordensfoliant "Privilegia des Colmischen Landes" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 67, f. 152 (G); У Ordensfoliant "Theilung und Grentze der Landt, Schuldbrieff, Bündniß unndt Willkühr" (пач. XV ст.), з A ці з коп. A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 71, f. 181 (H); У кнізе копіяў (XV ст.?) у Ordensbriefarchiv, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14e (I)* — **Выд.:** *a) Acta Borussica. III. p. 742; b) Dreger. I. s. 438, nr. 327; c) Naruszewicz. V. s. 29; d) Raczyński. p. 19, nr. 12; e) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 24 (з a); f) Bunge. I. sp. 449, nr. 354; g) Lites. I.2. p. 42; h) Lites (2). II. p.119; i) Kętrzyński. s. 213; k) Seraphim. I.2. s. 91, nr.106; l) Maleczyński. tab., kol. 9* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 126, nr. 498. II, nr. 1743; Bunge. I. Reg. s. 97, nr. 396. VI. Reg. s. 20; Strehlke. s. 138; Perlbach. s. 173, nr. 625; Paszkiewicz. I. p. 74, nr. 374; Joachim.-Hubatsch. I.1. s. 2, nr. 28. II. s. 23, nr. 174* — **Літ.:** *Bonnell. Ereignisse. s. 304–307; Daniłowicz. I. s. 101, nr. 187; Schwartz. s. 89; Latkowski. s. 149 (448)–152 (451); Prochaska. s. 71–72; Kętrzyński. s. 214–218; Seraphim. I.2. s. 93–95, nr. 106; Klymenko. s. 207–209, 215; Łowmiański. II. s. 225–226, 353–357; Maleczyński. s. 28–35.*

*У транс. ад 17 сьн. 1392 (L.S. Schiebl. XI, nr. 15) даецца апісаньне пячаці Міндава, прывешанай да арыгіналу:* cum filis albis eius vero sigillo de cera alba impendenti... quod quidem sigillum fuit forme sperite sive rotunde, in cuius medio schulpta erat ymago regis coronati sedentis in sede regali, in dextra manu habentis quoddam sceptrum et in sinistra manu tenentis quendam globum sive pomum rotundum cum cruce desuper erecta. In circumferencia vero dicti sigilli post quandam crucem hee litere per ordinem legebantur: Myndowe dei gracia rex Lettowie (зь яго сапраўднай пячацьцю зь белага воску, прывешанай на белых ніцях... гэтая пячаць была сфэрычнай ці круглай формы, пасярод яе была выціснутая выява караля, які сядзіць на каралеўскім пасадзе і трымае ў правай руцэ жазло, а ў левай – шар ці яблык з пастаўленым на ім крыжам. Па акружыне памянёнай пячаці чыталіся па парадку гэткія літары: Myndowe dei gracia rex Lettowie). *Больш лаканічнае апісаньне пячаці ў транс. ад 18 тр. 1393 (L.S. Schiebl. XI, nr. 14) адпавядае першаму:* sigillo rotundo, ut prima facie apparebat in cera alba et cordula de filis albis lineis impendente (з круглаю пячацьцю, як падавалася на першы погляд, на белым воску і прывешанай на шнурку зь белых ільняных ніцяў). *На жаль, як паведамілі нам ад імя дырэкцыі Таемнага дзяржаўнага архіву Прускай культурнай спадчыны ў Бэрліне, транс. з 1393 г. ужо доўгі час не ўдаецца адшукаць. Таму мы паўтараем варыянты з гэтага транс. гэтак, як яны пададзеныя ў публікацыі Seraphim. I.2. s. 91–93, nr. 106. Акт мае падабенства ў фармуляры з дак. 2, а некаторыя звароты – з дак. 8. Неаўтэнтычным лічылі дак. Latkowski. s. 151 (450), Kętrzyński. s. 216–218 і Zajączkowski. s. 67–68. Maleczyński. s. 29–35 на падставе аналізу дыпляматычных асаблівасьцяў дак. і тагачасных гістарычных рэаліяў прыйшоў да высновы, што гэта фальсыфікат, выраблены Нямецкім ордэнам.*

Тэкст з *B*

Myndowe, Dei gracia rex Lettowie [a], universis Christi fidelibus, presentes litteras inspecturis, salutem in nomine Iesu Christi.

Quamvis inspiracionis divine gracia faciente [b] per consilium dilectorum nobis in Christo magistri et fratrum domus Theutonice [c] in Lyvonia [d] de tenebris gencium in ecclesie Iesu Christi lumen [e] vocati simus [f] ac renati per unde graciam baptismalis, et sanctissimus pater ac [g] dominus noster, Innocencius papa quartus, ad instanciam et operam efficacem predictorum magistri et fratrum, personam nostram, regnum nostrum et omnia bona nostra iurisdictioni sedis [h] apostolice subiciens, auctoritate sua nos fecerit coronari in regem tocius Lettowie [a], ac terrarum omnium, quas divine virtutis auxilio iam eripuimus de infidelium manibus, vel eripere poterimus in futurum. Tamen ante nostram conversionem et post tam nos, quam totum regnum nostrum Lettowie [a] per aliquos christiane fidei inimicos et aliquorum apostasiam sic turbati fuerimus et concussi, quod nisi dictorum magistri et fratrum magnum

consilium et auxilium nobis affuisset, totum regnum nostrum fuisset cum subversione fidei annullatum. Unde nos, considerantes labores et expensas, ac voluntatem magistri et fratrum prenominatorum, que in promocione nostre persone, regni nostri, ymmo pocius fidei christiane habuerunt[i], de consilio, voluntate et consensu heredum nostrorum, nostrorumque nobilium, totum regnum nostrum Lettowie[a], et omnes terras adiacentes, quocunque nomine censeantur, exceptis terris et iure episcopali, domino episcopo Lettowie[a] in dicto regno nostro deputatis, sepedictis[k] magistro et fratribus de domo Theutonica in Lyvonia[d] dedimus, contulimus et donavimus, et presencium tenore donamus in verum ius et proprietatem sue religionis, ita tamen, si nos sine legittimis heredibus decedere contingeret, transferentes in ipsos ex nunc ut ex[l] tunc[l] dominium et possessionem tocius regni Lettowie[a] supradicti. In cuius translate possessionis indicium[m] conventum[n] fratrum predictorum[n] in nostra curia collocavimus speciali. Et licet varias[o] et diversas[o] donaciones prius fecerimus circa fratres memoratos, sicud[p] in litteris inde confectis continetur, tamen hanc piam nostram et providam donacionem, factam predictis[q] magistro et fratribus ac successoribus eorundem[r], tamquam nostris principalibus coadiutoribus, aliarum precedencium donacionum conclusionem esse volumus plenariam et finalem. In cuius rei perpetuam[s] memoriam, ut prehabita nostra donacio robur obtineat firmitatis, hanc cartam inde conscribi et nostri sigilli munimine fecimus confirmari. Huius autem donacionis testes sunt: venerabilis dominus Culmensis episcopus[1], et magister Andreas[2] fratrum predictorum[t] ac fratres sui, Langwinus[u][3] sororius noster, Lygeyke[4], Schabbe[v][5], Bixe[x][6], Bune[x][7], nostri barones et consangwinei[y], Parbusse[8] de Nere[z], Gerdine[9] de Naalse[aa][10], Vege[bb], Vesegele[cc][11], ibidem et Parbusse[dd] iunior; de fratribus predicatoribus frater Syndarinus[ee], de fratribus minoribus frater Adolphus[ff][12] et sui socii, et alii quamplures fide digni, qui omnes simul et semel dicte donacioni nostre, a nobis provide facte magistro et fratribus ac eorum successoribus supradictis, interfuerunt vocati ad hoc in[gg] testimonium premissorum.

Datum Lettowie[hh] in curia nostra, anno Domini millesimo ducentesimo sexagesimo, in medio mensis iunii[ii].

---

9. a) Littowie *C*, Lithwanie *D* b) favente *C* c) Theutunice *D* d) Livonia *D* e) lumine *D* f) sumus *C, D* g) et *D* h) *адс. у D* i) habuerint *D* k) sepedicto *D* l) *паўторана* in ipsos *D* m) iudicium *C* n-n) fratrum dictorum conventum *D* o-o) diversas et varias *D* p) *так у B*, sicut *C, D* q) *адс. у D* r) eorum *D* s) testimonium *D* t) predicatorum *D* u) Langvinus *C* v) Sthabbe *C*, Schawo *D* x) Bixebune *C*, Byxe Boheme *D* y) *так у B*, consanguinei *C, D* z) Rlere *D* aa) Naals *C*, Nailse *D* bb) Awge *D* cc) Wesegele *D* dd) Parbusso *D* ee) Sindramus *C*, Sinderamus *D* ff) Adolfus *D* gg) *адс. у D* hh) Lithwanie *D* ii) iulii *D*

1) Heidenricus – *Гайдэнрык, Кульмскі (Хэлмінскі) біскуп* 2) *Андрэй фон Вэльбэн (Штырлянд), Лівонскі майстар* 3) *верагодна, тая ж асоба, якая згадваецца ў Лівонскай рыфмаванай кронікы пад імем* Lengewîn *(LR. s. 63, v. 2721 et passim), але без адзначэньня таго, што ён быў сястрынцам Міндава (Latkowski. s. 151 (450), Seraphim. I.2. s. 94), а таксама ў Галіцка-Валынскім летапісе пад імем* Лонъкогвени *(ПСРЛ. II. стб. 798). Гл. кам.* 4) *магчыма, тая ж асоба, якая згадваецца ў Галіцка-Валынскім летапісе, у тэксьце дамовы 1219 г. сярод князёў зь Дзяволтвы пад імем* Ликиик (Ликеик) *(ПСРЛ. II, стб. 736; Latkowski. s. 151 (450); Seraphim. I.2. s. 94)* 5) *падобнае імя згадваецца ў Кроніцы Прускай зямлі Пятра Дузбурскага (SRP. II; Latkowski. s. 151 (450))* 6) *магчыма, тая ж асоба, якая згадваецца ў Галіцка-Валынскім летапісе ў 1219 г. сярод дзеваltоўскіх князёў пад імем* Бикши *(ПСРЛ. II, стб. 736)* 7) *Гл. кам* 8) *напэўна, тая ж асоба, якая згадвалася пад імем* Parbsen *у дак. I.3, гл. заўв. 3 да дак. I.3* 9) *верагодна, гэта той самы Гердзень, які пазьней стаў Полацкім князем, вядомым зь летапісаў. Захаваўся кірылічны ліст, выдадзены ад яго імя 22 сьн. 1264 (Напьерский К. Русско-ливонские акты. СПб., 1868. 25а). Гл. кам.* 10) *напэўна, гэта Нальшаны, зямля, якая ў Лівонскай рыфмаванай кроніцы згадваецца ў форме* Nalsen *(LR. s. 77, v. 3319, 3325)* 11) *Гл. кам.* 12) *тая ж асоба, якая выступае сьведкай у дак. I.2 (гл. заўв. 4 да дак. I.2)*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Летовіі, усім верным Хрыстовым, якія будуць бачыць гэты ліст, збаўленьне ў імя Езуса Хрыста.

Паколькі з ласкі Божага натхненьня і парады любых нам у Хрысьце майстра і братоў Нямецкага дому ў Лівоніі мы былі пакліканыя зь цемры паганства да сьвятла Касьцёлу Езуса Хрыста і адроджаныя праз ласку хроснай купелі, а найсьвяцейшы айцец і пан наш папа Інацэнт чацьверты, дзякуючы настойлівасьці і дзейснай падтрымцы памянёных майстра і братоў, беручы нашую асобу, каралеўства і ўсе нашыя ўладаньні пад юрысдыкцыю і абарону апостальскага пасаду, сваёю ўладаю наказаў каранаваць нас на караля ўсяе Летовіі і ўсіх земляў, якія з дапамогаю моцы Божае мы ўжо вырвалі або зможам вырваць у будучыні з рук няверных. Але перад нашым навяртаньнем і пасьля яго мы і нашае каралеўства Летовія былі гэтак узрушаныя і разладжаныя ворагамі хрысьціянскае веры і адступнікамі, што калі б згаданыя майстар і браты не падтрымалі нас сваёй вялікай дапамогай і парадаю, то ўсё нашае каралеўства было б абернутае ў нівеч, а вера зьнішчаная. Таму, зважаючы на высілкі, выдаткі і руплівасьць майстра і раней названых братоў, што выявілі яны, баронячы нашую асобу, нашае каралеўства і нават больш за тое – саму хрысьціянскую веру, мы з рады, волі і згоды нашых дзедзічаў ды вяльможных [людзей] нашых аддалі, перадалі і падаравалі ўсё нашае каралеўства Летовію і ўсе прылеглыя землі, як бы яны ні называліся, з выняткам земляў і біскупскага права, прызначаных пану біскупу Летовіі ў памянёным нашым каралеўстве, часта згадваным майстру і братом зь Нямецкага дому ў Лівоніі і моцаю гэтага ліста даруем у сапраўднае права і ўласнасьць іхнаму ордэну, але такім чынам, што калі б нам давялося адысьці [з гэтага сьвету] без законных дзедзічаў, то мы ад сягоньня перанесьлі б на іх [братоў] з таго часу ўладу і валоданьне ўсім вышэй названым каралеўствам Летовіяй. Дзеля пастановы пра гэтае перанесенае валоданьне мы наладзілі на нашым адмысловым двары канвэнт згаданых братоў. І хоць мы раней рабілі ўсялякія і розныя дарэньні для памянёных братоў, як выкладаецца ў лістох, складзеных дзеля гэтага, але мы хочам, каб гэтае міласьцівае і абачлівае дарэньне, зробленае намі згаданым майстру і братом, а таксама іхным наступнікам, як нашым галоўным памочнікам, было поўным і канчатковым завяршэньнем іншых папярэдніх дарэньняў. На вечную памяць пра гэтую справу, дзеля таго каб памянёнае раней нашае дарэньне атрымала сапраўдную моц, мы наказалі напісаць гэты ліст і зацьвердзіць яго моцаю нашай пячаці. Сьведкі гэтага дарэньня: вялебны пан Кульмскі біскуп, майстар Андрэй з памянёных братоў і яго браты; Лангвін наш сястрынец, Лігейка, Шаб, Бікш, Бунь, нашыя баяры і крэўнікі, Парбусь зь Нераў, Гердзень з Нальшаў, Вег, Вешэгел, і там жа Парбусь меншы, ад братоў прапаведнікаў брат Сіндарын, ад братоў меншых брат Адольф і яго таварышы ды шмат іншых вартых даверу людзей, якія ўсе разам і паасобку дзеля гэтага былі пакліканыя на сьведчаньне пра дарэньне, прадбачліва зробленае намі майстру і братом ды іхным вышэй названым наступнікам.

Дадзена ў Летовіі, на нашым двары, у год Пана тысяча дзьвесьце шасьцідзясяты, у сярэдзіне месяца чэрвеня.

## 10.

*Міндаў, кароль Літовіі, вызначае межы зямлі Селёніі, падараванай Нямецкаму ордэну.*

## 10a.

**1261 жн. 7**

**Ар.:** — **Коп.:** *У страч. транс. Рэвельскага біскупа Яна, які быў зроблены на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Мэнэмара фон Бругэной з А? у Рэвелі 16 сак. 1392 [B]; У страч. коп. з гэтага транс. у Ordensfoliant F, f. 48 [C]*— **Выд.:** *a) Hennig. VII. s. 140 (з [C]); b) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 19 (з a); c) Bunge. I. sp. 461, nr. 363 (з a); d) Bielenstein. s. 434, nr. 47; e) Maleczyński. tab., kol. 10a (з c)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 99, nr. 406. VI. Reg. s. 20; Bonnell. s. 74; Strehlke. s. 139; Paszkiewicz. I. p. 77, nr. 385* — **Літ.:** *Bonnell. Ereignisse. s. 307; Daniłowicz. I. s. 105, nr. 196; Ewald. III. s. 128; Latkowski. s. 136 (435)–137 (436), 141 (440); Bielenstein. s. 172; Prochaska. s. 68; Kętrzyński. s. 203–205; Seraphim. I.2. s. 113, nr. 136; Klymenko. s. 213–214; Łowmiański. II. s. 321–322; Maleczyński. s. 47–49.*

*За падставу першай публікацыі дак. у: Hennig. VII. s. 140 была ўзятая копія транс. Рэвельскага біскупа Яна, якая знаходзілася ў Ordensfoliant F, паколькі арыгінал транс. у часы Геніга (1815) ужо не існаваў. Пазьней Ordensfoliant F з ініцыятывы архіварыюса Р. Філіпі быў разьдзелены і адна частка зьмешчаная ў Ordensbriefarchiv. Але затым аркушы, на якіх знаходзілася копія, згубіліся (гл.: Hennig. VII. s. 140; Seraphim. I.2. s. 39). Фармуляр дак. выяўляе падабенствы з дак. I.3 ( 1254), а таксама з дак. I.8 (1259). Сапраўднасьць акту ставіў пад сумнеў яшчэ Hennig. s. 142, а пасьля Latkowski. s. 141 (440), Kętrzyński. s. 203–205, Łowmiański. II. s. 321–322. Maleczyński. s. 48–49 на падставе аналізу дыпляматычных асаблівасьцяў дак. і супастаўленьня гістарычных падзеяў прыйшоў да высновы, што гэта фальсыфікат, верагодна з канца XIV ст.*

Тэкст з *a*

Mindowe, Dei gratia rex Littowie.

Universitatem vestram scire volumus, ad quos presens scriptum pervenerit, quod nos de maturo consilio et consensu heredum nostrorum, scilicet Replen et Gherstutten, assignamus et donamus totam terram Selen et Seloniam dilectis magistro et fratribus domus Theutonicorum per Lyvoniam, cum omnibus distinccionibus terminorum et pertinenciis, sicud [a)] inferius patet. Primo incipiendo distincciones inter christianos et Selones ex opposito burchwalle Nowenene [1], descendendo Dunam ad medium torrentem versus Romelem [2], vicinum insule Dolen [3]; distincciones vero alterius lateris inter Selones et Littewinos a predicto burchwalle Nowenene transeundo directe super viam Kopwech [3], eandem viam sequendo usque ad ripam Lodenbeke [4], ripam Lodenbeke descendendo usque pervenitur, ubi alio nomine vocatur de Dussethe [4]; predictam Dussethe ultra sequendo in lacum, qui dicitur de Sarthe [4], apud lacum Sarthe transeundo in ripam, que inde affluit, que dicitur Swenteuppe [4], Swenteuppam descendendo in ripam Lettowie [5], predictam ripam ascendendo et persequendo in ripam Wassenke [b) 6], ultra in ripam Vesinthe [7], ultra in ripam Lenene [c) 7], predictam ripam Lenene ultra descendendo in flumen, quod vocatur Semigaller A [7]; predictum flumen Semigaller A ultra descendendo in Rabatesmunde [d) 7]. Ceterum alia burchwalle, in predictis distinccionibus et terminis situata, cum omnibus pertinenciis, sicut Meddennen, Calven, Mallaysen, Thowraggen, Utten, Uspal [8], ac aliorum bonorum, in predictis distinccionibus iacencium, presentibus et futuris temporibus utantur pacifice et quiete in perpetuum, nullo

omnino hominum contradicente. In huius itaque assignacionis et donacionis perennem memoriam presens privilegium, inde confectum, sigilli nostri munimine fecimus roborari.

Datum anno Domini millesimo ducentesimo sexagesimo primo, VII idus augusti.

---

**10a.** [a]) *так у a* [b]) *так у a, магчыма, трэба чытаць* Wasseuke [c]) *так у a, відаць, трэба чытаць* Levene [d]) *так у a, трэба чытаць* Babatesmunde

[1]) Nowenene – *гэты назоў хутчэй за ўсё трэба суаднесьці з населеным пунктам Naujene ў Латвіі на правым баку Дзьвіны вышэй Дзьвінску (Daugavpils)* [2]) Romel – *парог у дольнай плыні р. Дзьвіны каля выспы Долен, недалёка ад гэтага парогу знаходзілася таксама аднайменная прыстань* [2]) Dolen – *самая вялікая выспа ў дольнай плыні ракі Дзьвіны, прыблізна 10 км вышэй Рыгі каля г. Salaspils (былы Кірхгальм) на тэрыторыі Латвіі (Latkowski. s. 136; Kętrzyński. s. 203), сёньняшні назоў – Dole* [3]) Kopwech *(суч. ням. Kaufweg – гандлёвы шлях) – гандлёвы шлях, гасьцінец, які павінен быў ісьці каля Дзьвіны* [4]) Lodenbeke – *рака, якая брала пачатак на левабярэжжы Дзьвіны, у верхняй частцы рэчышча р. Сьвятой (Šventoji). Відаць, так называлася верхняя плынь ці верхні прыток р. Сьвятой. Назоў, магчыма, варта суаднесьці з воз. Luodis (польск. – Łodzie), праз якое працякае р. Сьвятая. Далейшая плынь р.* Lodenbeke, *паводле дакумэнту, называлася* Dussethe, *відаць, пачынаючы ад таго месца, дзе знаходзіцца воз. Дусята (сёньня – Dusetas у Зарасайскім р-не Летувы). Сьвятая цякла далей праз воз.* Sarthe – *воз. Сарта (сёньня – Sartai на тэрыторыі Ракішкаўскага і Зарасайскага р-наў Летувы).* Swenteuppe – *р. Сьвятая (сёньня – Šventoji на ўсходзе Летувы), якая цякла праз возера і, магчыма, толькі пачынаючы ад яго менавалася гэтым назовам (Latkowski. s. 136 (435), Kętrzyński. s. 203)* [5]) Lettowia, Littowia – *р. Летава ці Літава, назоў якой фармальна супадае з назовам дзяржавы Міндава. Ня выключана, што яе можна суаднесьці зь сёньняшняй р. Латава (Latava), якая цячэ на тэрыторыі Анікшчайскага р-ну Летувы і ўпадае ў р. Сьвятую. Магчыма, выконвала ролю мяжы. Дарэчы, недзе паблізу знаходзіўся і* borchwal nomine Lettow – *"замак пад назовам Летаў", згаданы ў дэлімітацыі Селёніі з канца XIV ст. (гл.: Raczyński. p. 70, nr. 10).* [6]) Wassenke – *найверагодней, гэты назоў трэба суаднесьці зь сёньняшняй р. Vašuoka, якая працякае па тэрыторыі Анікшчайскага і Панявежыскага р-наў Летувы* [7]) Vesinthe – *р. Вешынта ці Вішынта (сёньня – Viešinta ў Летуве), левы прыток р. Лавены.* Lenene (Levene) – *р. Лавена (сёньня – Lėvuo на поўначы Летувы, правы прыток р. Мушы – Mūša, якая ў сваю чаргу зьяўлялася прытокам р. Земгальскай Аа – Lielupe).* Semigaller A – *р. Земгальская Аа (сёньня – Lielupe ў Латвіі, упадае ў Рыскую затоку).* Babatesmunde *(ст.-ням. "вусьце Бабата") – воз. Бабат ці Бабіт, разьмяшчаецца каля ніжняй плыні, блізка ад вусьця р. Земгальскай Аа (Ліелупэ), сёньня – Babītes на поўдзень ад г. Юрмалы ў Латвіі* [8]) *наконт лякалізацыі* Mallaysen, Thowraggen, Meddennen *гл. заўв. 2 да дак. І.4. Назовы астатніх замкаў суадносяць (Latkowski. s. 136 (435); Kętrzyński. s. 204) зь вядомымі пазьней населенымі пунктамі, адпаведна:* Utten – *Uciany, сёньня – Utena, г., ц. р-ну ў Летуве;* Uspal – *Uszpol, сёньня – Užpaliai, м. Уцянскага р-ну Летувы. Ідэнтыфікаваць і вызначыць месца знаходжаньня* Calven *не ўдаецца*

Міндаў, з ласкі Божае кароль Літовіі.

Мы хочам, каб усе вы, да каго дойдзе гэты ліст, ведалі, што мы пасьля належнай нарады і з згоды нашых дзедзічаў, а менавіта Рэплі і Герстута, прызначаем і даруем усю зямлю Селы і Селёнію ўмілаваным майстру і братом Нямецкага дому ў Лівоніі з усімі разьмежаваньнямі і прыналежнасьцямі, як пададзена ніжэй. Мяжа пачынаецца паміж хрысьціянамі і селёнамі насупраць замку Новэн, спускаючыся Дзьвіною да сярэдзіны [яе] плыні ў кірунку Ромеля, паблізу выспы Долен; з другога боку ідзе мяжа паміж селёнамі і літвінамі: ад раней памянёнага замку Новэн яна пераходзіць наўпрост на шлях Копвэх (Гасьцінец), ідзе гэтым жа шляхам аж да рэчкі Лёдэнбэк, спускаецца рэчкаю Лёдэнбэк і даходзіць аж датуль, дзе [яна] называецца іншым імем Дусята, ідзе далей памянёнай Дусятаю ў возера, якое называецца Сарта, а ля возера Сарта пераходзіць на рэчку, якая адтуль выцякае і называецца Сьвентэупэ, [затым] спускаецца Сьвентэупаю ў рэчку Летаву, падымаецца гэтай рэчкаю і ідзе далей на рэчку Вашэўка, затым на рэчку Вешынту, потым на рэчку Левену, уніз рэчкаю Левенаю, далей – у раку, якая называецца

Земгальская Аа, [і] спускаецца затым памянёнай ракою Земгальскай Аа ў Бабатэсмюндэ. Зрэшты, няхай бясьпечна і спакойна карыстаюцца таксама іншымі замкамі, разьмешчанымі ў памянёных граніцах і межах, з усімі іх прыналежнасьцямі, а менавіта Медэнем, Кальвамі, Малейшамі, Тоўрагамі, Уцянаю, Ушпалем, а таксама іншымі маёмасьцямі, разьмешчанымі ў згаданых межах, навечна ў цяперашнія і будучыя часы, і ніхто не павінен гэта аспрэчваць. На вечную памяць пра гэтае прызначэньне і дарэньне мы далі зацьвердзіць прывілей, дзеля гэтага складзены, моцаю нашай пячаці.

Дадзена ў год Пана тысяча дзьвесьце шэсьцьдзесят першы, у VII [дзень перад] жніВеньскімі ідамі.

## 10b.

**s.d.**

**Ар.:** — **Коп.:** *У ордэнскім фаліянце з загалоўкам "Dis synt di Privilegia von Leyflant her", XV ст., з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Ordensfoliant 2b, f. 8 (B)* — **Выд.:** *a) Bunge. I. sp. 462, nr. 363 (з B); b) Maleczyński. tab., kol. 9 (з a)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 31, nr. 122. II. nr. 1815; Bunge. I. Reg. s. 99, nr. 406; Paszkiewicz. I. p. 77, nr. 385* — **Літ.:** *Bonnell. Ereignisse. s. 307; Latkowski. s. 141 (440); Bielenstein. s. 172; Prochaska. s. 68; Kętrzyński. s. 203–205; Seraphim. I.2. s. 113, nr. 136; Maleczyński. s. 47–49.*

*Дак. зьяўляецца іншай, значна адрознай, рэдакцыяй таго ж акту. Як і варыянт а, лічыцца пазьнейшым фальсыфікатам – Maleczyński. s. 47–49.*

Тэкст з *B*

In nomine Domini [a)], amen.

Nos Mindowe, Dei gracia rex Litwinorum, post susceptionem fidei katholice ac sacri baptismatis unda, inspiracione divina informati, quod inter omnia genera virtutum Deo acceptabilius est lucrum animarum, et ne in errorem pristinum infidelitatis laberemur, ob spem remuneracionis eterne ac in salutem anime nostre, honorabilibus et religiosis viris, magistro et fratribus ordinis beate Marie domus Theutonice hospitalis Ierusolimitani in Livonia, dedimus et damus bona fide matura deliberatione, totam terram Zelonie, dictam volgariter Zelland vnd [b)] Zeln, cum omnibus attinentiis, prout in distinccionibus limitum infra patebit. Primo inchoando limites inter christianos et Zelones ex opposito vallas Nowenene, dictum volgariter de borchwack Nowenene, descendendo fluvium dictum Dune, transeundo usque ad medium torrentem predicti Dune usque in ripam, que volgariter dicitur Keckow [1], ex opposito Dolen, ubi predicta ripa influit in Dunam. Limites vero alteri lacus [c)] Dune inter Zelones et Litwinos a predicto Nowenene transeundo directe super viam, volgariter dictam Köpwech, eandem viam sequendo usque ad rivum, qui dicitur Lödenbeke, rivum Lodenbeke, descendendo quousque pervenitur, ubi alio nomine vocatur, scilicet die [d)] Dussethe. Predicto rivo Dussethe sequendo usque in lacum, qui dicitur die Sarthe, circa predictum lacum transeundo usque in ripam, que de lacu effluit et volgariter dicitur Swentoppe. Predictam ripam Swantoppe descendendo usque in unam ripam, que dicitur de Lettawie; ripam Littowie ascendendo usque in ripam Waseweke, ultra pervenitur in ripam Wesinte, ultra procedendo in ripam Levene; predictam ripam Levene ultra descendendo

usque ad fluvium, qui dicitur die Semigaller A, predictam Semigaller A descendendo usque in Babates munde [2] et omnia valla, que dicuntur borchwale, qui in distinccionibus harum limitum iacent, cum omnibus attinenciis [e)], sicud [f)] Alze [3], Medennen [4], Calven, Alleiten [5], Mallaisen, Towracken, Utten, Uszpal [6], et omnia alia valla, qui dicuntur borchwale, et terras, qui in distinccionibus limitum iacent, ut supradictum est.

---

**10b.** [a)] *над рдк. B* [b)] *так у B* [c)] *так у B, відаць, трэба чытаць* lateri [d)] *далей нап. і зак.* Ducsthe [e)] *далей нап. і зак.:* que in distinccionibus limitum iacent, ut supradictum est [f)] *так у B*

[1]) Keckow – *р. Кекава, левы прыток р. Дзьвіны ў яе дольнай плыні, упадала ў Дзьвіну насупраць высьпы Долен (сёньня – Ķekava ў Латвіі)* [2]) *наконт лякалізацыі тапоніму* Nowenene *і гідронімаў гл. заўв. 1–7 да дак. I.10a* [3]) Alze – *Kętrzyński. s. 204 зьвязвае гэты назоў з пазьнейшым населеным пунктам Alezów – Алезаў, які ляжаў ля вытокаў р. Півесы (Pyvesa) на поўдзень ад Мелейшаў, сёньня – Alizava, м. Купішкаўскага р-ну ў Летуве* [4]) Medennen – *гл. заўв. 2 да дак. I.5* [5]) Alleiten – *ідэнтыфікаваць і лякалізаваць не ўдаецца* [6]) *наконт лякалізацыі гэтых тапонімаў гл. заўв. 8 да дак. I.10a*

У імя Пана, амэн.

Мы, Міндаў, з ласкі Божае кароль літвінаў, пасьля прыняцьця каталіцкае веры і купелі сьвятога хросту з Божага натхненьня спазналі, што між усіх цнотаў больш прыемная Богу [тая, якая скіраваная на] карысьць душаў. І [таму], каб ня ўпасьці ў ранейшую аблуду няверы, дзеля надзеі на вечную ўзнагароду і на збаўленьне нашай душы, мы далі, а таксама ў добрай веры і па сталым разважаньні даем дастойным і пабожным мужом, майстру і братом Найсьвяцейшай Марыі Нямецкага дому Ерузалемскага шпіталю ў Лівоніі, усю зямлю Зелёнію, званую папросту Зелянд і Зелі, з усімі прыналежнасьцямі, як будзе бачна ніжэй у разьмежаваньнях. Мяжа паміж хрысьціянамі і зелёнамі пачынаецца насупраць умацаваньняў Новэн, званых папросту Борхвак Новэн, спускаецца ракою, якая называецца Дзьвіною, пераходзіць да сярэдзіны плыні памянёнай Дзьвіны аж на рэчку, якая папросту называецца Кекава, насупраць Долену, дзе гэтая рэчка ўпадае ў Дзьвіну. З другога боку Дзьвіны [ідзе] мяжа паміж зелёнамі і літвінамі: ад памянёнага Новэн [яна] пераходзіць наўпрост на шлях, званы папросту Кёпвэк (Гасьцінец), ідзе гэтым жа шляхам аж да рэчкі, якая называецца Лёдэнбэк, і, спускаючыся рэчкаю Лёдэнбэк, даходзіць аж датуль, дзе [гэтая рэчка] называецца іншым імем, а менавіта Дусята. Ідзе згаданай рэчкай Дусятаю аж у возера, якое называецца Сарта, каля гэтага возера пераходзіць на рэчку, якая выцякае з возера і называецца папросту Сьвентопэ, [затым] спускаецца памянёнаю рэчкаю Сьвентопэ аж на рэчку, якая называцца Летава. Падымаецца рэчкаю Літава аж на рэчку Васеўка, пераходзіць далей на раку Вешынту, ідучы далей наперад на раку Левену, і спускаецца памянёнай ракою Левенаю далей аж да ракі, якая называецца Земгальская Аа, [і] спускаецца згаданаю ракою Земгальскай Аа аж у Бабатэсмюндэ. А таксама ўсе замкі, якія называюцца “борхвале“ і якія ляжаць у апісаных граніцах, з усімі сваімі прыналежнасьцямі, як Альзы, Медэн, Кальвы, Алейты, Малейшы, Тоўрагі, Уцяна, Ушпаль, і ўсе іншыя замкі, якія называюцца “борхвале”, і землі, якія ляжаць у апісаных граніцах, як сказана вышэй.

## Дадатак

## 11.

**1254 крас. 6. — Рыга**

*Хрысьціян, біскуп Летовіі, саступае ордэнскім братом дзесяціну зь земляў, падараваных Нямецкаму ордэну каралём Міндавам.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 7 сак. 1352 у Рызе клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі Вульфардам фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 7 (B); У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе клерыкам Вармійскай дыяцэзіі Мікалаем Глецэры на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Робіна фон Эльч, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. 17, nr. 18 (C); У копіі папярэдняга транс. (ад 26 тр. 1388) у Ordensfoliant з назовам "Grentzbuch und Handlung derselben" (Grenzbuch B), які быў складзены ў XV–XVI стст., з C, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 270a, f. 44 (D)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 355, nr. 247 (з D); b) Raczyński. p. 17, nr. 11 (з B); c) Bunge. I. sp. 348, nr. 266 (з b); d) Narbutt. Pisma. s. 40; e) Maleczyński. tab., kol. 11 (з c)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 41, nr. 160. s. 116, nr. 454; Bunge. I. Reg. s. 76, nr. 301; Strehlke. s. 137; Perlbach. s. 133, nr. 456; Paszkiewicz. I. p. 57, nr. 286; Joachim.-Hubatsch. II. s. 19, nr. 141* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 85, nr. 137; Philippi.-Woelky. 1.1. s. 215, nr. 286; Latkowski. s. 62 (361); Kętrzyński. s. 196–197; Maleczyński. s. 36–37.*

*Транс. ад 7 сак. 1352 (L.S. Schiebl. XI, nr. 7) з плямамі ад узьдзеяньня вільгаці, што ў адным месцы робіць тэкст нечытэльным, зьмяшчае апрача гэтага акту таксама яго зацьвярджэньне папам Аляксандрам IV ад 25 ст. 1260 (гл. дак. II.20). Дае гэткія зьвесткі пра пячаць біскупа Хрысьціяна:* cum suo sigillo integro et illeso in filis sericeis rubeis et glaucis permixtis appendenti (зь яго цэлаю і непашкоджанаю пячацьцю, прывешанай на пераплеценых шаўковых чырвоных і блакітных ніцях). *Транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. 17, nr. 18) дае больш поўнае апісаньне пячаці:* Littera… est sigillata cum sigillo pendente in filis de serico partim rubeis et partim glaucis oblonge et grave (!) figure de alba cera "Christianus dei gracia Eps Lettouie" et in medio eiusdem sigilli est sculpta ymago episcopi sedentis super kathedram tenentis pedes super scabellum induti veste pontificali habentis in capite mitram tenentis in dextera manu baculum pastoralem et in sinistra figuram libri impressam. (Ліст... апячатаны пячацьцю, якая вісіць на шаўковых чырвоных і блакітных ніцях авальнай і цяжкой формы зь белага воску [з надпісам] "Christianus dei gracia Eps Lettouie". У сярэдзіне гэтай пячаці выціснутая выява біскупа, які сядзіць на катэдры і трымае ногі на падстаўцы. Апрануты ён у біскупскае адзеньне зь мітраю на галаве і трымае ў правай руцэ біскупскае жазло, а ў левай – кнігу.) *Фармуляр падобны да дак. I.4. Супроць аўтэнтычнасьці акту не выказвалася сур'ёзных пярэчаньняў.*

Тэкст з *B*

Universis Cristi fidelibus, ad quos presens scriptum pervenerit, frater Cristianus ordinis fratrum Theutonicorum [a)], Dei gracia episcopus Lettowie, salutem in filio Dei vivi.

Cum universalis matris ecclesie inter ceteros Cristi fideles potissimi simus debitores eo amplius ecclesiam Lettowie nobis commissam, adhuc novellam et teneram, sollicitudine non pigra debemus prevenire, quo dilatacionem ipsius et prosperitatem amplecti ex [b)] debito [b)] cogimur incessanter. Cogitantibus itaque nobis, quid ad eius promocionem expediret, oculis nostris aspeximus, quod sine adiutorio eorum, scilicet fratrum domus sancte Marie Theutonicorum [c)], de quorum auxilio fides in partibus Estonie, Lyvonie, Curonie et Prutzie [d)] multipliciter est promota et adhuc frequenter promovetur, eadem ecclesia accipere non posset incrementum, nec eciam persistere valeret ullo modo, ut ipsi tanto libencius nos et nostram ecclesiam tueantur ab hostium insultibus, et negocium fidei eo validius prosequi valeant in expensis, eis dimittimus decimam terrarum illarum, quas ab illustri principe, domino

Myndowe [e)], rege Lettowie, possident, sicut [f)] in suis litteris s[uper hoc] [g)] confectis plenius continetur, iure perpetuo possidendam. Si eciam a predicto rege vel ab aliquibus aliis memoratis fratribus aliqua terra conferatur, eos gaudere volumus [h)] iure [h)] supradicto, cum nemo propriis cogatur stipendiis militare, nichil nobis in eisdem terris iuris reservantes, preter ea, que non possunt nisi per episcopum exerceri. Cum autem racione officii nostri ecclesias eorum visitabimus, nobis cum duodecim equitaturis venientibus, archidyacono vero nostro cum septem, semel in anno necessaria ministrabunt. In cuius rei perhennem memoriam, ne qua super premissis questio [i)] in posterum [i)] vel ambiguitas oriatur, presentem paginam sigilli nostri munimine duximus roborandam.

Datum in Riga, presentibus domino Iohanne Basone [1], nostro capellano, fratre Hermanno [2], nostro fratre, fratre Ludewico [k)], commendatore de Riga, fratre Burchardo [l)], commendatore de Wenda, fratre Georgio [3], commendatore de Sigewalde et quampluribus aliis. Anno Domini M°CC°LIIII [m)], VIII [n)] ydus [o)] aprilis.

---

**11.** [a)] Theutunicorum *C* [b-b)] *Адс. C* [c)] Theutunicorum *C* [d)] Pruscie *C* [e)] Mindowe *C* [f)] sicud *C* [g)] *Цёмная пляма ад вільгаці, у кв. дуж. з C* [h-h)] iure volumus *C* [i-i)] in posterum questio *C* [k)] Lodewico *C* [l)] Borchardo *C* [m)] millesimo ducentesimo *і далей тэкст неразб. C* [n)] octavo *C* [o)] idus *C*

[1]) *відавочна, тая ж асоба, якая згадваецца разам з братам Адольфам (гл. заўв. 4 да дак. I.2) у ліку сьведкаў у дак. з 20 ліп. 1253 пра падзел курляндзкіх земляў паміж Курляндзкім біскупам і Нямецкім ордэнам, як* domino Iohanne dicto Base (*у іншым сьпісе* Baso, *а ў нямецкім перакладзе зь няправільным прачытаньнем* – Hase) canonico domini episcopi memorati... – панам Янам Базо, канонікам памянёнага (Курляндзкага) пана біскупа... *(дак., сьпісы якога захоўваюцца ў GStAPK, XX, HA, OBA 20, а таксама ў Капэнгагене, RigsA., T.K. U.A. Kurland A III 6 nr. 6, апублікаваны ў электроннай базе дадзеных "Курляндзкія гаспадарчыя дакумэнты", створанай пры Гердэр-Інстытуце п. Дафнай Шадэвальд на падставе рукапісу Альбэрта Баўэра – http://www.herder-institut.de/text.php?nr=61&varianten=ein&anmerkungen=ein). З гэтага вынікае, што Ян (Ёган) Базо перайшоў да Хрысьціяна, магчыма пасьля пастаўленьня таго на біскупскую пасаду, з атачэньня Курляндзкага біскупа* [2]) *Герман, верагодна, родны брат Хрысьціяна, брат Нямецкага ордэну, з графаў фон Кірхбэрг (Wojtecki. s. 151)* [3]) *Георгій (Георг) быў комтурам Сігевальдэ (Сегевольду) з 1252 да 1262 г.*

Брат Хрысьціян з Ордэну нямецкіх братоў, з ласкі Божае біскуп Летовіі, усім верным Хрыстовым, да якіх дойдзе гэты ліст, збаўленьне ў Сыне Бога жывога.

Паколькі сярод іншых верных Хрыстовых мы – найбольшыя даўжнікі паўсюднай маці Касьцёлу, то тым больш мы павінныя нястомна клапаціцца пра давераны нам Касьцёл Летовіі, яшчэ малады і кволы, бо і з абавязку мусім заўсёды дбаць пра ягонае пашырэньне і дабрабыт. Вось жа, разважаючы пра тое, што спрыяла б ягонаму разьвіцьцю, мы з усёй відавочнасьцю ўбачылі, што без падтрымкі братоў Нямецкага дому сьвятой Марыі, з дапамогаю якіх была рознымі спосабамі пашыраная вера ў краёх Эстоніі, Лівоніі, Куроніі і Прусіі ды часта пашыраецца і цяпер, гэты Касьцёл ня толькі ня здолеў бы ўзрастаць, а ня змог бы нават хоць нейкім чынам захоўвацца. Але дзеля таго каб яны ахвотней ахоўвалі нас і наш Касьцёл ад нападаў ворагаў і маглі, маючы сродкі, больш дзейсна займацца справаю веры, мы саступаем ім дзесяціну зь вечным правам валоданьня з тых земляў, якія яны дзяржаць, [атрымаўшы] ад найясьнейшага гаспадара пана Міндава, караля Летовіі, як паўней выкладаецца ў іхным лісьце, складзеным дзеля гэтага. Калі ж згаданы кароль або іншыя асобы перададуць памянёным братом яшчэ нейкую зямлю, то мы, нічога не пакідаючы сабе з права на

гэтых землях, апрача таго, што можа выконваць толькі біскуп, хочам, каб яны карысталіся вышэй названым правам, бо ніхто не абавязаны ваяваць уласным коштам. Але паколькі на моцы нашага абавязку мы будзем візытаваць іхныя касьцёлы, яны будуць забясьпечваць нас [усім] неабходным, калі мы будзем раз на год прыбываць з дванаццацьцю, а наш архідыякан зь сямю коньмі. На вечную памяць пра справу, каб потым не ўзьнікала нейкіх пытаньняў ці двухсэнсоўнасьці наконт пададзенага раней, мы далі зацьвердзіць гэты ліст моцаю нашай пячаці.

Дадзена ў Рызе, у прысутнасьці пана Яна Базо, нашага капэляна, брата Германа, нашага брата, брата Людэвіка, комтура з Рыгі, брата Бурхарда, комтура зь Венды, брата Георгія, комтура зь Сігевальдэ, ды шматлікіх іншых [асобаў]. У год Пана MCCLIIII, у VIII [дзень перад] красавіцкімі ідамі.

## 1.

**1251 ліп. 15. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV даручае Кульмскаму біскупу клапаціцца пра тое, каб асобы, якім будзе прызначаная дзесяціна, захоўвалі памяркоўнасьць пры яе зборы.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 113v, ep. 6 (R)* — **Выд.:** *a) Ripoll. I. p. 197, nr. 232; b) Naruszewicz. V. s. 14 (у скароце); c) Turgenev. I. p. 73, nr. 81 (з R); d) Theiner. I. p. 49, nr. 101 (з R); e) Woelky. I. s. 13, nr. 26* — **Рг.:** *Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1185, nr. 14350; Perlbach. s. 110, nr. 373; Berger. III. p. 2, nr. 5442; Paszkiewicz. I. p. 49, nr. 248* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 79, nr. 120.*

Тэкст з *R*

.. [1], episcopo Culmensi [a)] [2].

Exquisite diligentie studium plantis adhibendum est teneris, ut, profundis firmate radicibus, in altum facilius proficere valeant et desideratam ubertatem fructuum successiva fecunditate producant. Sane de carissimo in Christo filio nostro Mindowe, illustri rege Lithowie, spiritu exultante percepimus, quod cum ipse olim in erroris devio constitutus conditoris omnium notitiam non haberet, se numero aggregari fidelium fecit per baptismatis sacramentum, pie sine intermissione desiderans, ut numerosa paganorum multitudo sibi subdita christiane professionis titulo decoretur. Quia vero gens huiusmodi, olim solita lege nature vivere, divinis institutionibus et preceptis aut canonicis sanctionibus servandis non potest de facili sic plene animum applicare, nos, paterno volentes affectu, ut ipsa, quousque sibi firma soliditas in predicte religionis cultu proveniat, spiritualis lactis poculo foveatur, mandamus, quatinus .. episcopo et prelatis ac rectoribus ecclesiarum, qui fuerint in Lithowia constituti, auctoritate nostra districte precipias, quod in exigendis ac percipiendis decimis circa predictum regem ac eisdem subditos ita se habeant, ut ipsa [b)] sub onere ac iugo Domini non pressure aut asperitatis tedium, sed lenitatis ac suavitatis invenisse solatium gratulantes, scandalo perturbari non valeant, nec a bono proposito revocari. Contradictores autem, si qui fuerint, vel rebelles auctoritate nostra, monitione premissa, appellatione remota, compescas. Non obstante, si aliquibus est indultum etc. ut supra [3].

Datum Mediolani, idibus iulii [4], anno VIIII°.

---

1. [a)] *адрас напісаны чырвоным колерам R* [b)] *так у R, трэба чытаць* ipsi

[1]) Heidenrico – *Гайдэнрык, Кульмскі (Хэлмінскі) біскуп* [2]) *скар. станд. пачатк. пратаколу, які можна ўзнавіць на падставе арыг. папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.8) як:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri [*імя і пасада адрасата*] salutem et apostolicam benedictionem. [3]) *праз* etc. ut supra *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.3, а таксама Ripoll. I. p. 197, nr. 233) як:* quod suspendi vel interdici aut excommunicari non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam de indulto huiusmodi mentionem. [4]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Гайдэнрыку], Кульмскаму біскупу, [збаўленьне і апостальскае блаславеньне].

Вельмі старанна трэба даглядаць маладыя расьліны, каб, глыбей пусьціўшы карані, яны маглі лягчэй падняцца ўгару і, апладніўшыся, даць багаты плён. Вось і мы з радасьцю ў душы даведаліся, што найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш Міндаў,

найясьнейшы кароль Літовіі, які некалі быў на бездаражы аблуды і ня меў уяўленьня пра Творцу ўсяго, даў далучыць сябе да ліку верных праз сакрамэнт хросту і пабожна жадае, каб вялікае мноства падданых яму паганцаў заўсёды вызнавала хрысьціянскую веру. Але паколькі гэты народ здаўна звык жыць паводле натуральнага права, ён ня можа зь лёгкасьцю і цалкам павярнуць сваю душу да захаваньня Божых устанаўленьняў і наказаў ці кананічных прадпісаньняў. Мы, з айцоўскай любоўю жадаючы, каб урэшце зьявілася ў яго сапраўдная сталасьць у вызнаньні памянёнай веры і [каб яна] была падсілкаваная келіхам напою духовага, даручаем табе нашаю ўладаю строга папярэдзіць .. біскупа, прэлятаў і рэктараў касьцёлаў, якія будуць пастаўленыя ў Літовіі, пра тое, што пры спагнаньні і зьбіраньні дзесяціны яны павінны паводзіць сябе ў дачыненьні да памянёнага караля і ягоных падданых так, каб тыя пад цяжарам і ярмом Пана радаваліся, адчуўшы палёгку і лагоднасьць, а не агіду ад прыгнёту і жорсткасьці, ды не змаглі спакусіцца і адвярнуцца ад добрага намеру. Праціўнікаў гэтага, калі такія будуць, ці непакорных, папярэдне перасьцярогшы, утаймуй нашай уладаю, адхіліўшы апэляцыю. Гэтаму не перашкаджае тое, што некаторыя [могуць быць абароненыя ад кары суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі апостальскія лісты ня будуць мець поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону].

Дадзена ў Мэдыёляне, на ліпеньскія іды, у VIIII год [нашага пантыфікату].

## 2.

**1251 ліп. 17. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV прымае каралеўства Лютавію і ўсе землі, якія яе кароль вырваў або вырве ў будучыні з рук няверных, пад юрысдыкцыю і ва ўласнасьць апостальскага пасаду.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg. Vat. 22, f. 113, ep. 1 (R)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 415; b) Naruszewicz. V. s. 12 (у скароце); c) Turgenev. I. p. 73, nr. 82 (з R); d) Theiner. I. p. 49, nr. 102 (з R); e) Ptaśnik. III. p. 36, nr. 67* — **Рг.:** *Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1185, nr. 14351; Berger. III. p. 1, nr. 5437; Paszkiewicz. I. p. 49, nr. 249* — **Літ.:** *Daniłowicz. 1. s. 79, nr. 121.*

Тэкст з R

Carissimo in Christo filio .. [1], illustri regi Luthawie [a)2].

Multa cor nostrum est super eo iocunditate perfusum, quod Dei et redemptoris nostri Iesu Christi benignitas super te faciem suam illustrando, tibi misericorditer inspiravit, quod te olim in tenebris positum cum numerosa multitudine paganorum ad gloriam divini nominis regenerari fecit per unde gratiam baptismalis, personam, regnum et omnia bona tua iurisdictioni ac protectioni sedis apostolice totaliter submittendo. Quia vero per sollempnes ac speciales nuntios nobis humiliter supplicasti, ut te admittere in specialem filium sancte Romane ecclesie ac paterna benivolentia prosequi deberemus, nos, tuis iustis desideriis, que digna favore plenissimo reputamus, affectu benivolo annuentes, regnum Luthawie, ac terras omnes, quas per divine virtutis auxilium iam eripuisti de infidelium manibus vel eripere poteris in futurum, in ius et beati Petri proprietatem suscipimus et ea cum .. [3] uxore, filiis et familia tuis sub protectione ac devotione sedis apostolice permanere sancimus, districtius

inhibentes, ne quis te, in fide ac defensione sedis apostolice persistentem, super prefatis regno et terris temere impedire seu molestare presumat. Nulli ergo etc.[4] nostre protectionis, constitutionis et inhibitionis etc.[5] Si quis autem etc.[6]

Datum Mediolani, XVI kalendas augusti[7], anno nono.

---

**2.** [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, carissimo in Christo filio ... illustri regi Luthavie, salutem et apostolicam benedictionem. [3]) Martha – *Марта, жонка караля Міндава (?–1262)* [4]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.9) як:* omnino hominum liceat hanc paginam [5]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.9) як:* infringere vel ei ausu temerario contraire [6]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.9) як:* hoc attemptare presumpserit, indignationem omnipotentis Dei et beatorum Petri et Pauli apostolorum eius se noverit incursurum. [7]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых], найдаражэйшаму ў Хрысьце сыну [Міндаву], найясьнейшаму каралю Лютавіі, [збаўленьне і апостальскае блаславеньне].

Сэрца нашае напоўнілася вялікаю радасьцю, бо дабрыня Бога і Адкупіцеля нашага Езуса Хрыста зьявіла табе сваё аблічча і зь міласэрнасьці сваёй натхніла цябе, каб ты, некалі ахоплены цемраю, зь вялікім мноствам паганцаў даў адрадзіць сябе на славу Божага імя праз ласку хроснай купелі ды цалкам аддаў сваю асобу, каралеўства і ўсе маёмасьці пад юрысдыкцыю і абарону апостальскага пасаду. Але паколькі праз афіцыйных і адмысловых паслоў ты пакорна прасіў прыняць цябе за асаблівага сына сьвятога каталіцкага Касьцёлу і ўзяць пад айцоўскую апеку, мы, ласкава схіляючыся да тваіх справядлівых жаданьняў, вартых найбольшага спрыяньня, прымаем каралеўства Лютавіі і ўсе землі, якія з дапамогай Божае моцы ты ўжо вырваў з рук няверных або зможаш вырваць у будучыні, пад юрысдыкцыю і ва ўласнасьць сьвятога Пятра і пастанаўляем, што яны, а таксама твае жонка [Марта], сыны і сям'я застаюцца пад абаронаю і ў падданстве апостальскага пасаду. Сувора наказваем, каб ніхто легкадумна не наважыўся перашкаджаць або дакучаць у дачыненьні да памянёных каралеўства і земляў табе, які застаецца пад апекаю і абаронаю апостальскага пасаду. Ніводнаму [чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст] нашай абароны, пастановы і наказу [або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць]. Калі ж хто [наважыцца нападаць на гэта, то няхай спасьцігне яго кара ўсемагутнага Бога ды яго блаславёных апосталаў Пятра і Паўла].

Дадзена ў Мэдыёляне, у XVI [дзень перад] календамі жніўня, у дзявяты год [нашага пантыфікату].

## 3.

**1251 ліп. 17. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV даручае біскупам Эзэлю і Куроніі клапаціцца пра тое, каб ніхто не супрацьдзейнічаў папскай абароне, пад якую быў узяты кароль Лютавіі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 113, ep. 2 (R)* — **Выд.:** *a) Turgenev. I. p. 74, nr. 83 (з R); b) Bunge. I. sp. 284, nr. 225 (з a); c) Theiner. I. p. 49, nr. 103 (з R)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 64, nr. 253. VI. s. 13; Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1185, nr. 14352; Berger. III. p. 1, nr. 5438; Paszkiewicz. I. p. 50, nr. 252.*

Тэкст з *R*

.. [1] Osiliensi et .. [2] Curoniensi episcopis [a)] [3].

Multa cor nostrum etc. ut supra [4], verbis competenter mutatis, usque molestare presumat [4]. Quocirca mandamus, quatinus dictum regem non permittatis super hiis contra protectionis, constitutionis et inhibitionis nostre tenorem ab aliquibus indebite molestari, molestatores huiusmodi etc. [5] Non obstantibus [b)] aliquibus sit indultum, quod suspendi vel interdici, aut excommunicari non possint per litteras apostolicas, non facientes plenam et expressam de indulto huiusmodi mentionem, et constitutione de duabus dietis etc. [6] Quod si non ambo etc. [7]

Datum ut supra [8].

---

3. [a)] *адрас напісаны чырвоным колерам R* [b)] *так у R, відаць, трэба чытаць* obstante si

[1]) Henrico – *Генрык I, з Ордэну дамініканцаў, Эзэльскі біскуп (1234–1260 – Toll.-Schwartz. s. 224–228; Potthast. Wegweiser. s. 307). Osilia – Эзэль, востраў каля зах. узьбярэжжа Эстоніі (сеньня в. Саарэмаа)* [2]) Henrico — *Генрык фон Лютэленборх, з Ордэну меншых братоў (францішканцаў), з 1249 г. біскуп Земгаліі, а з 1251 г. пасьля скасаваньня Земгальскай дыяцэзіі Куронскі (Курляндзкі) біскуп (1251–1263 – Schwartz. s. 66–67, 99)* [3]) *скар. пачатк. пратакол (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabilibus fratribus, .. Osiliensi et .. Curoniensi episcopis, salutem et apostolicam benedictionem. [4-4]) *праз* etc. ut supra – presumat *скар. тэкст, які падаецца цалкам у папярэднім дак.:* est super eo iocunditate perfusum, quod Dei et redemptoris nostri Iesu Christi benignitas super regem Luthawie faciem suam illustrando, illi misericorditer inspiravit, quod se olim in tenebris positum cum numerosa multitudine paganorum ad gloriam Divini nominis regenerari fecit per unde gratiam baptismatis, personam, regnum et omnia bona eius iurisdictioni ac protectioni sedis apostolice totaliter submittendo. Quia vero per solempnes ac speciales nuntios nobis humiliter supplicavit, ut eum admittere in specialem filium sancte Romane ecclesie, ac paterna benivolentia prosequi deberemus, nos eius iustis desideriis, que digna favore plenissimo reputamus, affectu benivolo annuentes, regnum Luthawie, ac terras omnes, quas per Divine virtutis auxilium iam eripuit de infidelium manibus vel eripere poterit in futurum, in ius et beati Petri proprietatem suscepimus et ea cum .. uxore, filiis et familia eius sub protectione ac devotione sedis apostolice permanere sancivimus, districtius inhibentes, ne quis eum in fide sedis apostolice persistentem super prefatis regno et terris temere impedire seu molestare presumat. [5]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.14) як:* per censuram ecclesiasticam appellatione postposita compescendo. [6]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл. Theiner. I. p. 57, nr. 116) як:* edita in concilio generali. [7]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. III.4) як:* hiis exequendis potueritis interesse, alter vestrum ea nichilominus exequatur. [8]) *праз* ut supra *скар. дата, якая падаецца ў папярэднім дак.:* Mediolani, XVI kalendas augusti, anno nono.

---

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебным братом Генрыку] Эзэльскаму і [Генрыку] Куронскаму, біскупам, [збаўленьне і апостальскае блаславеньне].

Сэрца нашае напоўнілася [вялікаю радасьцю, бо дабрыня Бога і Адкупіцеля нашага Езуса Хрыста зьявіла сваё аблічча каралю Лютавіі і зь міласэрнасьці сваёй натхніла

яго, каб ён, некалі ахоплены цемраю, зь вялікім мноствам паганцаў даў адрадзіць сябе на славу імя Божага праз ласку хроснай купелі. Але паколькі праз афіцыйных і адмысловых паслоў ён пакорна прасіў прыняць яго за асаблівага сына сьвятога каталіцкага Касьцёлу і быць да яго прыхільнымі, мы, ласкава схіляючыся да ягоных справядлівых жаданьняў, вартых найбольшага спрыяньня, прынялі каралеўства Лютавіі і ўсе землі, якія з дапамогай Божае моцы ён ужо вырваў з рук няверных або зможа вырваць у будучыні, пад юрысдыкцыю і ва ўласнасьць сьвятога Пятра і пастанавілі, што яны, а таксама ягоная жонка [Марта], сыны і сям'я застаюцца пад абаронаю і ў падданстве апостальскага пасаду. Мы сувора наказалі, каб ніхто легкадумна не наважыўся перашкаджаць або дакучаць у дачыненьні да памянёных каралеўства і земляў яму, які застаецца пад апекаю і абаронаю апостальскага пасаду]. Таму наказваем, каб вы не дазвалялі несправядліва дакучаць памянёнаму каралю ў дачыненьні да іх насуперак зьместу нашай абароны, пастановы і наказу, а такіх парушальнікаў, папярэдне перасьцярогшы і адхіліўшы апэляцыю, утаймуйце касьцельным пакараньнем. Гэтаму не перашкаджае тое, што некаторыя могуць быць абароненымі ад кары суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі апостальскія лісты ня будуць мець поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону і пастанову пра дзьве дыеты, [прынятую на сусьветным саборы]. Калі ж вы абодва [ня зможаце заняцца выкананьнем гэтага, то няхай выканае гэта прынамсі адзін з вас].

Дадзена як вышэй [у Мэдыёляне, у XVI [дзень перад] календамі жніўня, у дзявяты год [нашага пантыфікату]].

## 4.

**1251 ліп. 17. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV даручае Кульмскаму біскупу каранаваць Міндовіна на караля ўсяе Літовіі.*

**Ар.: — Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 113, ep. 3 (R)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 415 (у скароце); b) Ripoll. I. p. 197, nr. 233; c) Naruszewicz. V. s. 13 (у скароце); c)Turgenev. I. p. 75, nr. 84 (з R); d) Theiner. I. p. 50, nr. 104 (з R); e) Woelky. I. s. 14, nr. 27* — **Рг.:** *Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1185, nr. 14353; Perlbach. s. 110, nr. 374; Berger. III. p. 1, nr. 5439; Paszkiewicz. I. p. 50, nr. 250* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 80, nr. 122.*

Тэкст з *R*

..., [1] episcopo Culmensi [a)] [2].

Multa cor nostrum etc. [3] ut supra usque benignitas super [3] carissimum in Christo filium nostrum Mindowin, illustrem Luthowie regem, suam faciem etc. [4] ut supra, verbis competenter mutatis, usque annuentes [4], mandamus quatinus, accessitis aliquibus ecclesiarum prelatis et religiosis personis, dictum M(indowin) in totius Lithowie ac terrarum omnium, quas per divine virtutis auxilium iam eripuit de infidelium manibus vel eripere poterit in futurum, auctoritate nostra corones in regem et sibi ab omnibus constitutis ibidem tamquam regi catholico super omnibus diligenter intendi facias, que spectare ad dignitatem regiam dinoscuntur. Ita tamen, quod ipse ac successores sui regnum predictum et prefatas terras,

que ad suarum precum instantiam in ius et proprietatem beati Petri suscepimus, se ab apostolica sede tenere perpetuo recognoscant. Contradictores autem, si qui fuerint vel rebelles, monitione premissa, per censuram ecclesiasticam, appellatione remota, compescas. Non obstante, si aliquibus sit indultum etc. [5] ut supra usque mentionem [5].

Datum ut supra [6].

---

**4.** [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Heidenrico – *Гайдэнрык, Кульмскі (Хэлмінскі біскуп)* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri ... episcopo Culmensi, salutem et apostolicam benedictionem. [3-3]) *праз* etc. – super *скар. тэксту, які цалкам падаецца ў дак. II.2:* est super eo iocunditate perfusum, quod Dei et redemptoris nostri Iesu Christi benignitas super [4-4]) *праз* etc. – annuentes *скар. тэкст, які на падставе дак. II.2 можна ўзнавіць як:* illustrando, illi misericorditer inspiravit, quod se olim in tenebris positum cum numerosa multitudine paganorum ad gloriam Divini nominis regenerari fecit per unde gratiam baptismatis, personam, regnum et omnia bona eius iurisdictioni ac protectioni sedis apostolice totaliter submittendo. Quia vero per solempnes ac speciales nuntios nobis humiliter supplicavit, ut eum admittere in specialem filium sancte Romane ecclesie, ac paterna benivolentia prosequi deberemus, nos eius iustis desideriis, que digna favore plenissimo reputamus, affectu benivolo annuentes, [5-5]) *праз* etc. mentionem *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.14) як:* quod suspendi vel interdici aut excommunicari non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam de indulto huiusmodi mentionem. [6]) *праз* ut supra *скар. дата, якая падаецца ў дак. II.2:* Mediolani, XVI kalendas augusti, anno nono.

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Гайдэнрыку], Кульмскаму біскупу, [збаўленьне і апостальскае благаслаўленьне].

Сэрца нашае напоўнілася вялікаю [радасьцю, бо дабрыня Бога і Адкупіцеля нашага Езуса Хрыста зьявіла сваё аблічча] сыну нашаму найясьнейшаму каралю Лютовіі Міндовіну [і зь міласэрнасьці сваёй натхніла яго, каб ён, некалі ахоплены цемраю, зь вялікім мноствам паганцаў даў адрадзіць сябе на славу Божага імя праз ласку хроснай купелі. Але паколькі праз афіцыйных і адмысловых паслоў ён пакорна прасіў прыняць яго за асаблівага сына сьвятога каталіцкага Касьцёлу і быць да яго прыхільнымі, мы, ласкава схіляючыся да ягоных справядлівых жаданьняў, вартых найбольшага спрыяньня,] даручаем табе, заклікаўшы некаторых прэлятаў Касьцёлу і духовых асобаў, нашаю ўладаю каранаваць памянёнага М(індовіна) на караля ўсяе Літовіі і ўсіх земляў, якія ён з дапамогаю моцы Божае ўжо вырваў ці вырве ў будучыні з рук няверных. Учыні таксама, каб усе прысутныя там безумоўна падпарадкоўваліся яму як каталіцкаму каралю ва ўсім, што датычыць каралеўскай годнасьці. Але так, каб ён сам і ягоныя наступнікі прызнавалі, што згаданае каралеўства і памянёныя землі, якія мы зь іх настойлівай просьбы ўзялі пад юрысдыкцыю і ва ўласнасьць сьвятога Пятра, яны атрымалі навечна ад апостальскага пасаду. Праціўнікаў гэтага, калі такія будуць, ці непакорных, папярэдне перасьцярогшы, утаймуй касьцельным пакараньнем, адхіліўшы апэляцыю. Гэтаму не перашкаджае тое, што некаторыя [могуць быць абароненымі ад кары суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі апостальскія лісты ня будуць мець поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону].

Дадзена як вышэй [у Мэдыёляне, у XVI [дзень перад] календамі жніўня, у дзявяты год [нашага пантыфікату]].

## 5.

**1251 ліп. 17. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV даручае Кульмскаму біскупу знайсьці адпаведную асобу і паставіць яе біскупам Літовіі, узяўшы прысягу вернасьці папу і Касьцёлу.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 113, ep. 4 (R)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 416 (у скароце); b) Ripoll. I. p. 198, nr. 234; c) Turgenev. I. p. 75, nr. 85 (з R); d) Theiner. I. p. 50, nr. 105 (з R); Woelky. I. s. 15, nr. 28* — **Рг.:** *Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1185, nr. 14354; Perlbach. s. 110, nr. 375; Berger. III. p. 1, nr. 5440; Paszkiewicz. I. p. 50, nr. 251* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 80, nr. 124.*

Тэкст з *R*

Eidem [a) 1].

Ad hec semper nostri cordis aspirat affectio, ut sicut omnis terra Dei magestate [b)] repletur, sic et ubique notitia sui gloriosi nominis habeatur. Sane per inspirationis sue gratiam iam provenisse percepimus, quod carissimus in Christo filius noster Mindowe, illustris rex Luthowie, olim in tenebris positus, cum numerosa multitudine paganorum ad gloriam divini nominis regenerari se fecit per unde gratiam baptismalis. Quia vero tam pia et clara regis eiusdem merita nos inducunt, ut ipsius iusta desideria favore benivolo compleamus, nos, de tua circumspectione confisi, presentium tibi auctoritate committimus, quatinus virum honestum et providum, ac in spiritualibus et temporalibus circumspectum, qui pontificali conveniat oneri et honori, predicte Lithowie auctoritate nostra preficias in episcopum et pastorem, ac, duobus vel tribus accersitis episcopis, sibi munus consecrationis impendas, prius tamen ei a predicto rege optimo terre solo pro fundanda cathedrali ecclesia et honorabilibus ac decentibus dotibus assignatis, cui licitum esse volumus, ut quotiens oportunum fuerit, terram ipsius regis visitet et cuncta ibidem exerceat, que non possunt nisi per episcopum exerceri. Ceterum, postquam de prefato episcopo, quem soli Romano pontifici volumus subiacere, provisum fuerit iuxta mandati nostri tenorem, tu ab ipso fidelitatis solite iuramentum nostro et ecclesie Romane nomine recipias iuxta formam, quam sub bulla nostra tibi mittimus interclusum [c)]. Formam autem iuramenti, quod ipse prestabit, de verbo ad verbum per eius patentes litteras, suo sigillo signatas, nobis per proprium nuntium quantocius destinare procures. Contradictores autem, si qui fuerint, vel rebelles etc. [2] Non obstante si aliquibus est indultum etc. [3] ut supra in proxima [3].

Datum ut supra [4].

---

**5.** [a)] *адрас напісаны чырвоным колерам R* [b)] *так у R* [c)] *так у R*

[1]) Heidenrico – *Гайдэнрык, Кульмскі (Хэлмінскі) біскуп. Скар. начатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri ... episcopo Culmensi, salutem et apostolicam benedictionem. [2]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.1) як:* auctoritate nostra, monitione premissa, appellatione remota, compescas. [3-3]) *праз* etc. – proxima *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 3 да дак. II.1 і дак. II.3):* quod suspendi vel interdici aut excommunicari non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam de indulto huiusmodi mentionem. [4]) *праз* ut supra *скар. дата, якая падаецца ў дак. II.2:* Mediolani, XVI kalendas augusti, anno nono.

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых,] Яму ж. [вялебнаму брату Гайдэнрыку, Кульмскаму біскупу, збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне.]

Сэрца нашае заўсёды жадае таго, каб гэтак, як напаўняецца ўся зямля веліччу Бога, так паўсюль было вядомым і Яго слаўнае імя. Сапраўды мы даведаліся, як з ласкі Яго натхненьня здарылася так, што найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш Міндаў, найясьнейшы кароль Лютовіі, некалі ахоплены цемраю, зь вялікім мноствам паганцаў даў адрадзіць сябе на славу імя Божага праз ласку хроснай купелі. А таму такія пабожныя і слаўныя заслугі гэтага караля схіляюць нас, каб мы ласкава і зычліва споўнілі яго справядлівыя жаданьні. Давяраючы тваёй абазнанасьці, даручаем табе моцаю гэтага ліста паставіць нашаю ўладаю мужа дастойнага і разважлівага, дасьведчанага ў духовых і сьвецкіх справах, прыдатнага для пантыфікальнага абавязку і годнасьці, біскупам і пастырам памянёнай Літовіі ды, заклікаўшы да сябе двох ці трох біскупаў, удзяліць яму дар пасьвячэньня. Але перш памянёны кароль [павінен] вызначыць яму найлепшы надзел зямлі для заснаваньня катэдральнага касьцёлу ды належныя і годныя ўпасажаньні. Мы хочам, каб яму было дазволена ў зручны для сябе час наведаць зямлю гэтага караля і выканаць там усё, што павінен выконваць біскуп. Урэшце, пасьля таго як памянёны біскуп, які з нашай волі мае падпарадкоўвацца толькі Рымскаму пантыфіку, згодна зь зьместам нашага даручэньня будзе пастаўлены, вазьмі ад яго прысягу звычайнай вернасьці на імя нашае і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы дасылаем табе запячатанаю пад нашай булаю. Форму ж прысягі, якую ён дасьць, слова ў слова ў ягоным адкрытым лісьце, апячатаным яго [ж] пячацьцю, паклапаціся як мага хутчэй даслаць нам праз уласнага пасланца. Праціўнікаў гэтага, калі такія будуць, ці непакорных [нашаю ўладаю, папярэдне перасьцярогшы, утаймуй касьцельным пакараньнем, адхіліўшы апэляцыю]. Гэтаму не перашкаджае тое, што некаторыя [могуць быць абароненымі ад кары суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі апостальскія лісты ня будуць мець поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону].

Дадзена як вышэй [у Мэдыёляне, у XVI [дзень перад] календамі жніўня, у дзявяты год [нашага пантыфікату]].

## 6.

**1251 ліп. 26. — Мілян**

*Папа Інацэнт IV наказвае біскупам Рыгі, Дорпату і Эзэлю ды Нямецкаму ордэну дапамагаць каралю Літовіі ў справе навяртаньня няверных.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 113v, ep. 5 (R)* — **Выд.:** *a) Turgenev. I. p. 76, nr. 86 (з R); b) Bunge. I. sp. 285, nr. 226 (з a); c) Theiner. I. p. 50, nr. 106 (з R)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 64, nr. 254; Bonnell. s. 66; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1186, nr. 14363; Berger. III. p. 1, nr. 5441; Paszkiewicz. I. p. 50, nr. 253* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 81, nr. 123.*

Тэкст з *R*

..[1] Ragensi[a)], ..[2] Tharbatensi et ..[3] Osiliensi episcopis[b)4].

Spiritu exultante percepimus, quod inspirationis divine gratia faciente carissimus in Christo filius noster Mindowe, rex Lithowie, olim cum grandiosa infidelium multiludine existens in

perfidie tenebris, se ad divini nominis gloriam regenerari fecit per unde gratiam baptismalis. Cum itaque dicti regis ad hoc ferventer aspiret affectio, ut per suffragium sancte Romane ecclesie ad viventis Dei notitiam multitudo circumstantium paganorum, adhuc manens in erroris devio, convertatur, fraternitatem vestram attente rogandam duximus et monendam, mandantes, quatinus eidem regi super conversione vel subiugatione infidelium huiusmodi obtinenda, necnon super invasoribus seu quibuscumque terre sue molestatoribus compescendis spirituali et temporali districtione una cum dilectis filiis ..[5] magistro, et fratribus hospitalis sancte Marie Theuthonicorum, in Livonia manentium, sicut efficacius poteritis, assistatis. Non obstante, si aliquibus est indultum etc.[6] ut supra usque mentionem[6]. Preces autem et mandatum nostrum taliter impleatis, quod idem rex sui propositi pietatem liberius perficere valeat et erga sedis apostolice devotionis augmentum ac circa vos affectum sincere et fructuose benivolentie concipere gratuletur. Quod si non omnes etc.[7] Non obstante constitutione de duabus dietis etc.[8]

Datum Mediolani, VII kalendas augusti[9], anno VIIII°.

---

**6.** [a]) *так у R, трэба чытаць* Rigensi [b]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Nicolao – *Мікалай, Рыскі біскуп (1231–1253 – Toll.-Schwartz. s. 147–150)* [2]) Hermanno? (Alexandro?, Bernhardo?) – *магчыма, Герман, Дорпацкі біскуп, які да 1234 г. насіў тытул Леальскага біскупа. Наступнікам Германа на біскупскай катэдры быў Аляксандар, упершыню згаданы пад гэтым імем у 1263 г. Існуе вэрсія, што Герман асьлеп і перадаў у 1249 г. свае паўнамоцтвы Аляксандру (SRL. II. s. 15), які кіраваў да 1268 г. (Toll.-Schwartz. s. 338–339). Potthast. II. p. 1186, nr. 14363 падае імя Бэрнгарда, але з пытальнікам. Tharbatum – Дорпат (сёньня г. Тарту ў Эстоніі)* [3]) Henrico – *Генрык, Эзэльскі біскуп* [4]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabilibus fratribus, .. Rigensi, .. Tharbatensi et .. Osiliensi episcopis, salutem et apostolicam benedictionem. [5]) *Андрэй фон Вэльбэн (Штырлянд), Лівонскі майстар* [6-6]) *праз* etc. – mentionem *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 3 да дак. II.1):* quod suspendi vel interdici aut excommunicari non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam de indulto huiusmodi mentionem. [7]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., Bunge. I. sp. 181, nr. 141) як:* hiis exequendis potueritis interesse, duo vestrum ea nichilominus exequantur. [8]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 6 да дак. II.3):* edita in concilio generali. [9]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебным братом Мікалаю] Рыскаму, [Герману?] Дорпацкаму і [Генрыку] Эзэльскаму, біскупам, [збаўленьне і апостальскае благаслаўленьне].

З духовай радасьцю мы даведаліся, што з ласкі Божага натхненьня найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш Міндаў, кароль Літовіі, будучы некалі ў цемры адступніцтва зь велізарным мноствам няверных, даў адрадзіць сябе ласкаю хроснай купелі на славу імя Божага. І паколькі згаданы кароль жадае і палымяна імкнецца да таго, каб з дапамогаю сьвятога Рымскага Касьцёлу навярнуць мноства навакольных паганцаў, якія дасюль застаюцца на бездаражы аблуды, да вызнаньня жывога Бога, мы настойліва просім і наказваем, даручаючы вам, браты, разам з умілаванымі сынамі [Андрэем] майстрам і братамі шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, як мага больш дзейсна дапамагчы таму ж каралю ў навяртаньні або падбіцьці гэтых няверных, а таксама ва ўтаймаваньні духоваю і сьвецкаю караю нападнікаў або якіх-колечы парушальнікаў ягонай зямлі. Гэтаму не перашкаджае тое, што некаторыя [могуць быць абароненыя ад кары суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі апостальскія лісты ня будуць мець поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону]. Просьбы ж

нашыя і даручэньне выканайце гэткім чынам, каб той жа кароль змог лепш выканаць свой пабожны намер і цешыўся тым, што паспрыяў узрастаньню адданасьці апостальскаму пасаду ды выклікаў пачуцьцё шчырай і сапраўднай прыязнасьці да вас. І калі ня ўсе вы [зможаце ўдзельнічаць у выкананьні гэтага, то прынамсі двое з вас няхай тое выканаюць]. Не перашкаджае пастанова пра дзьве дыеты, [прынятая на сусьветным саборы].

Дадзена ў Мэдыёляне, у VII [дзень перад] жніваньскімі календамі, у VIIII год [нашага пантыфікату].

## 7.

**1253 чэрв. 24. — Асізі**

*Папа Інацэнт IV даручае арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі паставіць і высьвяціць біскупа для Летовіі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 22, f. 283v, ep. 788 (R)* — **Выд.:** *a) Ripoll. I. p. 236, nr. 307; b) Turgenev. I. p. 77, nr. 87 (з R); c) Theiner. I. p. 53, nr. 111 (з R); d) Bunge. VI. sp. 22, nr. 2733 (з b)* — **Рг.:** *Bunge. VI. Reg. p. 15, nr. 284c; Strehlke. s. 135; Potthast. II. p. 1237, nr. 15027; Perlbach. s. 124, nr. 418; Paszkiewicz. I. p. 53, nr. 269.*

Тэкст з *R*

..[1] archiepiscopo Livonie ac Pruscie[a)][2].

Carissimus in Christo filius noster ..[3], illustris rex Lethovie, de novo conversus ad cultum fidei christiane, ferventer in voto gerere dicitur, quod episcopalis sedes in suis partibus habeatur, maxime cum ipse cathedralem ecclesiam in expensis suis de novo erigere sit paratus ac ipsam dotare magnifice pro Dei gloria et honore. Nos itaque, piis eius desideriis annuentes, fraternitati tue, de qua in Domino fiduciam specialem gerimus, per apostolica tibi scripta mandamus, quatinus personam providam et honestam, ac in spiritualibus et temporalibus circumspectam, que sit accepta dicto regi, cum super hoc ab ipso requisitus extiteris, eidem ecclesie auctoritate nostra preficias in episcopum et pastorem et, associatis duobus vel tribus convicinis episcopis, ei munus consecrationis impendas, faciens sibi a subditis obedientiam et reverentiam debitam exhiberi, contra recepturus ab eo postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam tibi sub bulla nostra mittimus interclusam. Formam autem iuramenti etc.[4] usque procures[4]. Nos enim nichilominus irritum decernimus et inane, si quid super hoc contra mandati nostri tenorem contigerit attemptari.

Datum Assisii, VIII kalendas iulii[5], anno X°.

---

7. [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп і мэтрапаліт Прусіі, Лівоніі і Эстоніі (з 1246), арцыбіскуп Рыскі (1253–1273), паходзіў, відаць, з Кёльну. Раней (з 1240) быў арцыбіскупам Армагі (у Ірляндыі), у 1246 г. яму былі даручаныя абавязкі папскага легата ў Прусіі, Лівоніі, Эстоніі, Готляндзе, Гольштайне і на Русі (Bender. p. 4)* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri ... archiepiscopo Livonie ac Pruscie, salutem et apostolicam benedictionem. [3]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [4-4]) *праз* etc. – procures *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе*

*іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II.5) як:* quod ipse prestabit, de verbo ad verbum per eius patentes litteras, suo sigillo signatas, nobis per proprium nuntium quantocius destinare procures. [5]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Альбэрту], арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі, [збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне].

Найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш [Міндаў], найясьнейшы кароль Летовіі, нованавернуты да хрысьціянскае веры, горача жадае, як паведамляюць, каб у ягоных краёх была біскупская сядзіба, больш за тое, ён гатовы на свае сродкі збудаваць катэдральны касьцёл і шчодра ўпасажыць яго дзеля славы і хвалы Божае. Таму мы, схіляючыся да яго пабожных жаданьняў, даручаем гэтым апостальскім лістом табе, брату нашаму, да якога маем асаблівы давер, паставіць нашаю ўладаю, калі пра гэта будзе прасіць кароль, разважлівую, дасьведчаную ў духовых і сьвецкіх справах ды прымальную для памянёнага караля асобу на біскупа і пастыра і, далучыўшы да сябе двох ці трох біскупаў, удзяліць яму дар пасьвячэньня. Зрабі так, каб падданыя выявілі яму належную пашану і паслухмянасьць, а пасьля гэтага вазьмі ад яго для нас і Рымскага Касьцёлу прысягу звычайнай вернасьці згодна з формай, якую высылаем табе запячатанай пад нашаю булаю. Форму ж прысягі, [якую ён дасьць, слова ў слова ў ягоным адкрытым лісьце, апячатаным яго [ж] пячацьцю, паклапаціся як мага хутчэй даслаць нам праз уласнага пасланца]. Але мы будзем лічыць неправамоцным і несапраўдным, калі паспрабавалі б учыніць нешта звыш таго насуперак зьместу нашага даручэньня.

Дадзена ў Асізі, у VIII [дзень перад] ліпеньскімі календамі, у X год [нашага пантыфікату].

## 8.

**1253 жн. 21. — Асізі**

*Папа Інацэнт IV дае даручэньне арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі паставіць і высьвяціць брата Хрысьціяна зь Нямецкага ордэну на біскупа Летовіі.*

**Ар.:** *Пэрг. 32,2 × 24,2 + 2,7, алавяная (plumbea) була, прывешаная на канапляным шнурку да сярэдзіны загіну пэргаміну, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. III, nr. 55 (A)* — **Коп.:** — **Выд.:** *a) Raczyński. p. 3, nr. 1 (з A); b) Bunge. I. sp. 337, nr. 254 (з a); c) Narbutt. Pisma. s. 36; d) Philippi.-Woelky. I. s. 206, nr. 273 (з A)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 29, nr. 112; Bunge. I. Reg. s. 73, nr. 288; Bonnell. s. 67; Strehlke. s. 136; Potthast. II. p. 1243, nr. 15098; Perlbach. s. 125, nr. 425; Paszkiewicz. I. p. 54, nr. 272* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 84, nr. 133.*

*A напісаны прыгожым і выразным канцылярскім гатычным курсівам. Дробныя пашкоджаньні пэргаміну: вырваны кавалак пэргаміну на левым ніжнім ражку, што закранае загін і тэкст, а таксама дзьве невялікія дзіркі, якія не закранаюць тэксту. На левым і правым полі наколы, паміж кропкамі якіх разьлінёўка. Круглая алавяная двухбаковая була. На адным баку ў ніжняй частцы выявы дзьвюх галоваў з крыжам паміж імі, у верхняй частцы над галовамі надпіс:* SPASPE *(Sanctus Paulus Sanctus Petrus); выявы галоваў і акружына булы аточаныя каймою рэльефных кропак. Такі ж арнамэнт па акружыне і на другім баку булы, унутры якога надпіс у тры радкі:* INNOCENTIUS PP IIII. *Д – 3,8. Пазначкі і надпісы: на верхнім полі пасярэдзіне* duplata; *на адг. зьверху па цэнтры*: Domino archiepiscopo Livonie et Prussie pro consecratione episcopi Lethovie; *зьлева ўнізе лацінскі роўнаканцовы крыж, а зьлева ад яго па цэнтры ў перавернутым на 180° выглядзе*: Innocentius IIII mandat erigi ecclesiam kathedralem in terra Lettowie *і іншай рукою:* de anno 1253; *ніжэй, над шнурам для пячаці знак, падобны да лічбы* 113 *з гарызантальнай рысаю над ею, другі гэткі ж самы знак зьлева ад шнура.*

Тэкст з *A*

Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri ..[1], archiepiscopo Livonie ac Pruscie, salutem et apostolicam benedictionem.

Insinuavit nobis pridem carissimus in Christo filius noster ..[2], illustris rex Lethovie, de novo conversus ad cultum fidei christiane, quod ferventer in voto gerebat, ut episcopalis sedes in suis partibus haberetur, maxime cum ipse de novo in expensis suis paratus esset erigere cathedralem ecclesiam, ac ipsam dotare magnifice pro Dei gloria et honore. Nos quidem piis eius desideriis annuentes, tibi sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut personam ydoneam ad requisitionem ipsius regis eidem ecclesie auctoritate nostra preficeres in episcopum et pastorem. Postmodum autem idem rex per litteras, affectione plenas, petivit a nobis, ut de fratre Christiano de domo Theutonicorum in Livonia, viro utique litterato, provido et honesto, quem secum tempore sue conversionis habuit et iuxta se in futurum habere desiderat, predicte provideri ecclesie faceremus. Quia vero decens et dignum esse dinoscitur, ut sepedictus rex benignitatem sedis apostolice gratiosam et affabilem sibi gaudeat invenisse, fraternitati tue per apostolica scripta mandamus, quatinus de predicto fratre, cum super hoc ab eodem rege requisitus extiteris, auctoritate nostra ecclesie memorate provideas et, associatis tibi duobus vel tribus convicinis episcopis, ei munus consecrationis impendas, faciens sibi a subditis obedientiam et reverentiam debitam exhiberi, recepturus ab eo postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, [quam tibi sub bulla][a] nostra mittimus interclusam. Formam autem iuramenti, quod ipse prestabit, de verbo ad verbum nobis per eius patentes litteras, [suo sigillo signatas, et per proprium][a] nuntium quantocius destinare procures. Nos enim nichilominus irritum decernimus et inane, si quid super hoc contra mandati nostri tenorem contigerit attemptari.

Datum Asisii, XII kalendas septembris, pontificatus nostri anno undecimo.

---

**8.** [a]) *вырвана A, у кв. дуж. з фармуляру дак. II.5, II.7*

[1]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп Лівоніі і Прусіі* [2]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі*

Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату [Альбэрту], арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі, збауленьне і апостальскае бласлауленьне.

Паведаміў нам некалі найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш [Міндаў], найясьнейшы кароль Летовіі, нованавернуты да хрысьціянскай веры, што горача жадае, каб у ягоных краёх была біскупская сядзіба, больш за тое, ён гатовы на свае сродкі збудаваць наноў катэдральны касьцёл і шчодра ўпасажыць яго дзеля Божае славы і хвалы. Таму мы, схіляючыся да яго пабожных жаданьняў, далі табе пад пэўнаю формаю ў нашым лісьце даручэньне, каб на просьбу гэтага караля ты паставіў нашай уладаю на біскупа і пастыра таго ж касьцёлу годную асобу. Пасьля той жа кароль у сваім поўным павагі лісьце прасіў нас, каб мы паклапаціліся паставіць на памянёны касьцёл брата Хрысьціяна зь Нямецкага ордэну ў Лівоніі, мужа вельмі адукаванага, разважлівага і дастойнага, які быў зь ім у часе ягонага навяртаньня і якога ён хоча мець ля сябе ў будучыні. Таму, паколькі будзе належным і годным, каб часта згадваны кароль цешыўся, знайшоўшы ласкавую і зычлівую прыхільнасьць апостальскага пасаду, даручаем табе, брату [нашаму], апостальскім лістом паставіць памянёнага брата, калі б цябе папрасіў пра гэта кароль, нашай уладаю на памянёны касьцёл і, далучыўшы да сябе двох ці трох

суседніх біскупаў, удзяліць яму дар пасьвячэньня, зрабіўшы так, каб падданыя выявілі яму належную паслухмянасьць і пашану. Вазьмі ад яго пасьля для нас і Рымскага Касьцёлу прысягу звычайнай вернасьці згодна з формаю, якую высылаем табе запячатанай [пад нашай булаю]. Форму ж прысягі, якую ён дасьць, слова ў слова ў ягоным адкрытым лісьце, [апячатаным яго [ж] пячацьцю], паклапаціся як найхутчэй даслаць нам праз уласнага пасланца. Але мы будзем лічыць неправамоцным і несапраўдным, калі паспрабавалі б учыніць нешта звыш таго насуперак зьместу нашага даручэньня.

Дадзена ў Асізі, у XII [дзень перад] верасьнёўскімі календамі, у адзінаццаты год нашага пантыфікату.

## 9.

**1253 жн. 21. — Асізі**

*Папа Інацэнт IV зацьвярджае дарэньне розных земляў, учыненае каралём Міндавам майстру і братом Нямецкага ордэну.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 7 сак. 1352 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн, клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі, на жаданьне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 11 (B); У транс., зробленым 27 жн. 1386 у Рызе натарыем Вальдэмарам фон Гаўэсфардэн, клерыкам Рэвельскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага ляндмайстра Робіна фон Эльч, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. 4, nr. 38a (C); У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе натарыем Мікалаем Глецэры, клерыкам Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага ляндмайстра Робіна фон Эльч, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. III, nr. 61 (D)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 360, nr. 252 (пад 1254 г.); b) Raczynski. p. 7, nr. 4 (пад 1254 г.), c) Bunge. I. sp. 338, nr. 255; d) Lites. I.2. p. 41; e) Philippi.-Woelky. I. s. 206, nr. 274; f) Lites (2). II. p. 114* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 37, nr. 146 (пад 1254 г.). s. 115, nr. 453; Bunge I. Reg. s. 73, nr. 289. VI. Reg. s. 15; Bonnell. s. 68; Strehlke. s. 136; Potthast. II. p. 1243, nr. 15099; Perlbach. s. 125, nr. 426* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 84, nr. 132.*

*У транс. ад 7 сак. 1352 (L.S. Schiebl. XI, nr. 11) і ад 27 жн. 1386 (Schiebl. 4, nr. 38a) сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць А ды наяўнасьць алавянай (plumbea) булы,* in filis sericeis glaucis et rubeis appendenti (прывешанай на шаўковых блакітных і чырвоных ніцях), *а ў транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. III, nr. 61), апрача таго, даецца яе апісаньне.*

Тэкст з *B*

Innocencius episcopus, servus servorum Dei, dilectis filiis .. [1] magistro et fratribus hospitalis sancte Marie Theutonicorum [a] in Lyvonia [b] salutem et apostolicam benedictionem.

Ex tenore vestre peticionis accepimus, quod carissimus in Cristo filius noster .. [2] illustris rex Lettowie [c], de novo conversus ad cultum fidei cristiane, Wangen et Carsouwe [d] terras ac medietatem locorum, que Dainowe [e] et Rassione [f] [3] vulgariter [g] appellantur, necnon quedam alia loca et bona vobis et hospitali vestro, prout asseritis, pia et provida liberalitate, sicut ad eum noscitur pertinere, donavit. Nos itaque vestris supplicacionibus inclinati, quod ab eodem .. rege in hac parte provide factum est et in alicuius preiudicium non redundat, ratum et firmum habentes id auctoritate apostolica confirmamus et presentis scripti patrocinio communimus. Nulli ergo omnino hominum liceat hanc paginam nostre confirmacionis

infringere vel ei ausu temerario contraire. Si quis autem hoc attemptare presumpserit, indignacionem omnipotentis Dei et beatorum Petri et Pauli, apostolorum eius, se noverit incursurum.

Datum Assisii, XII kalendas septembris, pontificatus nostri anno undecimo[h].

9. [a]) Teuthunicorum *D* [b]) Livonia *C, D* [c]) Lethovie *C, D* [d]) u *над рдк. B* [e]) Daynowe *C, D* [f]) Rassiene *C*, Rassyone *D* [g]) wulgariter *C* [h]) XI[mo] *C*

[1]) Andree – *Андрэй фон Вэльбэн (Штырлянд), Лівонскі майстар* [2]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [3]) *наконт лякалізацыі гэтых земляў гл. заўв. 1 да дак. I.2*

Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, умілаваным сыном [Андрэю] майстру і братом шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне.

Зь зьместу вашае просьбы мы даведаліся, што найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш [Міндаў], найясьнейшы кароль Летовіі, нованавернуты да вызнаньня хрысьціянскае веры, з пабожнаю і мудраю шчодрасьцю падараваў, як вы сьцьвярджаеце, вам і вашаму шпіталю землі Вангі і Коршава, а таксама палову мясцовасьцяў, якія папросту называюцца Дайнова і Расіёны, ды некаторыя іншыя мясцовасьці і маёмасьці, якія, наколькі вядома, належалі яму. Таму мы, схіленыя вашымі просьбамі, прызнаючы сапраўдным і правамоцным тое, што мудра ўчынена ў гэтай справе тым жа каралём і што ня будзе камусьці на шкоду, апостальскай уладаю гэта завяраем і зацьвярджаем моцаю гэтага ліста. Ніводнаму ўвогуле чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст нашага зацьвярджэньня або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць. Калі ж хто наважыцца нападаць на гэта, то няхай спасьцігне яго кара ўсемагутнага Бога ды яго бласлаўлёных апосталаў Пятра і Паўла.

Дадзена ў Асізі, у XII [дзень перад] верасьнёўскімі календамі, у адзінаццаты год нашага пантыфікату.

## 10.

**1254 вер. 3. — Ананьі**

*Папа Інацэнт IV паведамляе каралю Летовіі пра вызваленьне біскупа Хрысьціяна ад прысягі, дадзенай арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе натарыем Мікалаем Глецэры, клерыкам Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Робіна фон Эльч, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. III, nr. 61 (B)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 461 (у скароце); b) Dreger. I. s. 357, nr. 249; c) Raczyński. p. 8, nr. 5; d) Bunge. I. sp. 354, nr. 272* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 115, nr. 453; Bunge. I. Reg. s. 77, nr. 307. VI. Reg. s. 16; Bonnell. s. 69; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1275, nr. 15508; Perlbach. s. 135, nr. 469; Paszkiewicz. I. p. 57, nr. 289* — **Літ.:** *Danilowicz. I. s. 85, nr. 140; Philippi.-Woelky. I.1. s. 218, nr. 293.*

*У транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. III, nr. 61) сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць A ды наяўнасьць алавянай (plumbea) булы, прывешанай на канапляным шнурку, а таксама даецца яе апісаньне.*

Тэкст з *B*

Innocentius episcopus, servus servorum Dei, carissimo in Christo filio [..] [1], illustri regi Lethovie, salutem et apostolicam benedictionem.

Inclinati serenitatis tue precibus, venerabili .. [2] fratri nostro, archiepiscopo Lyvonie ac Pruscie, prout accepimus, sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut kathedrali ecclesie, quam tu in partibus tuis de novo sub propriis expensis erigere ac dotare magnifice intendebas, venerabilem fratrem nostrum Christianum, episcopum Lethovie, tunc fratrem presbyterum hospitalis sancte Marie Teuthunicorum in Livonia, ad requisitionem tuam auctoritate nostra preficeret in pastorem et ei munus consecrationis impenderet ac debitam obedientiam et reverentiam faceret a subditis exhiberi, recepturus ab eo postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam eidem sub bulla nostra misimus interclusam. Sane idem archiepiscopus, priusquam ad ipsum huiusmodi nostre littere pervenissent, de ipso Christiano providit ecclesie memorate, iuramentum fidelitatis sue et ecclesie sue nomine ab ipso recipiens, licet hoc de intentione nostra nullatenus exstitisset, maxime cum terra Lethovie sit iuris et proprietatis beati Petri, ac pro tue sublimitatis honore nullum ibi esse velimus episcopum, qui alii quam Romano pontifici sit subiectus. Quia vero tu postmodum a nobis per affectuosas litteras postulasti, ut super hoc providere de circumspectione sedis apostolice curaremus, nos, tuis precibus annuentes, eundem episcopum ad observanciam predicti iuramenti, predicto archiepiscopo taliter prestiti, decernimus aliquatenus non teneri. Volumus tamen, quod ipse venerabili fratri nostro, episcopo Nuenburgensi, cui super hoc scripta nostra dirigimus, exhibeat pro nobis et ecclesia Romana fidelitalis solite iuramentum, iuxta formam litterarum, quam super hoc transmisimus archiepiscopo memorato.

Datum Anagnie, tercio nonas septembris, pontificatus nostri anno duodecimo.

---

**10.**

[1]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [2]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп Лівоніі і Прусіі*

Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, найдаражэйшаму ў Хрысьце сыну [Міндаву], найясьнейшаму каралю Летовіі, збаўленьне і апостальскае блаславеньне.

Схіліўшыся да просьбаў тваёй сьветласьці, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі на тваё запатрабаваньне а нашай уладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які ты ў сваіх краёх намерваўся наноў узьвесьці ўласным коштам і шчодра ўпасажыць, вялебнага брата нашага Хрысьціяна, біскупа Летовіі, а ў той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць яму дар пасьвячэньня, а таксама ўчыніць, каб падданыя выявілі яму належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад яго прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму ж запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў наш ліст, паставіў таго ж Хрысьціяна на памянёны касьцёл, узяўшы ад яго прысягу вернасьці сабе і свайму касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да тваёй высокасьці мы хочам, каб там быў біскуп падпарадкаваны не каму іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі

потым у сваім поўным павагі лісьце ты папрасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да тваіх просьбаў, пастанаўляем, што той жа біскуп не павінен ні ў якай меры захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам памянёнаму арцыбіскупу. Але хочам, каб ён даў вялебнаму брату нашаму, Наўмбурскаму біскупу, якому мы накіроўваем наш ліст пра гэта, прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы ў лісьце, які мы даслалі ў гэтай справе памянёнаму арцыбіскупу.

Дадзена ў Ананьі, у трэці [дзень перад] верасьнёўскімі нонамі, у дванаццаты год нашага пантыфікату.

## 11.

**1254 вер. 3. — Ананьі**

*Папа Інацэнт IV вызваляе біскупа Хрысьціяна ад прысягі арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У коп. транс., зробленага 11 крас. 1358 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн, клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з А, якая была ўпісаная ў рэгістры папы Урбана VI пасьля дак., датаванага 20 ліст. 1386, ASV, Reg.Vat. 311, f. 27 (B); У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе натарыем Мікалаем Глецэры, клерыкам Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Робіна фон Эльч, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. III, nr. 61 (C)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 358, nr. 250; b) Narbutt. Pisma. s. 37* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 115, nr. 453; Bunge. I. Reg. s. 77, nr. 308. VI. Reg. s. 16; Bonnell. s. 69; Strehlke. s. 137; Perlbach. s. 135, nr. 468; Paszkiewicz. I. p. 58, nr. 291* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 86, nr. 140; Philippi.-Woelky. I.1. s. 218, nr. 293.*

*У транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. III, nr. 61) сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць А ды наяўнасьць алавянай (plumbea) булы, прывешанай на канапляным шнурку, а таксама даецца яе апісаньне.*

Тэкст з *B*

Innocencius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri Cristiano [a], episcopo Lethowie [b], salutem et apostolicam benedictionem.

Inclinati precibus carissimi in Christo filii nostri illustris regis Lethovie, de novo conversi ad cultum fidei cristiane [c], venerabili fratri nostro archiepiscopo Lyvonie [d] ac Pruczie [e], prout accepimus, sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut cathedrali [f] ecclesie, quam dictus rex in partibus suis de novo sub propriis expensis erigere ac dotare magnifice intendebat, te, tunc fratrem presbiterum hospitalis [g] sancte Marie Theotonicorum [h] in Livonia, ad requisicionem regis eiusdem, auctoritate nostra preficeret in pastorem et tibi munus consecracionis impenderet, ac debitam obedienciam et reverenciam faceret a subditis exhiberi, recepturus a te postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam sibi sub bulla nostra misimus interclusam. Sane idem archiepiscopus, prius quam ad ipsum huiusmodi nostre littere pervenissent, de te providit ecclesie memorate, iuramentum fidelitatis suo et ecclesie sue nomine a te recipiens, licet hoc de intencione nostra nullatenus extitisset, maxime cum terra Lethovie sit iuris et proprietatis beati Petri ac pro eiusdem regis [i] honore [i], quem a sue conversionis inicio assumpsimus in filium ecclesie specialem et regie dignitatis tytulo [k] fecimus insigniri, nullum ibi esse velimus episcopum, qui alii, quam Romano pontifici sit subiectus. Quia vero idem rex postmodum per affectuosas

litteras postulavit a nobis, ut super hoc providere de circumspectione sedis apostolice curaremus, nos eius precibus annuentes, te ad observanciam predicti iuramenti, taliter prestiti, decernimus aliquatenus non teneri. Ceterum volumus et mandamus, quatinus venerabili fratri nostro episcopo Nuemborgensi [l] [1], cui super hoc scripta nostra dirigimus, pro nobis et ecclesia Romana iuramentum solite fidelitatis exhibeas iuxta formam litterarum, quam super hoc transmisimus archiepiscopo memorato.

Datum Anagnie, tercio [m] nonas septembris, pontificatus nostri anno duodecimo.

**11.** [a]) Christiano *C* [b]) Lethovie *C* [c]) christiane *C* [d]) Livonie *C* [e]) Pruscie *C* [f]) kathedrali *C* [g]) *далей нап. і зак.* ecclesia *B* [h]) Teuthunicorum *C* [i-i]) *на прав. полі C* [k]) titulo *C* [l]) Nuenburgensi *C* [m]) III *C*

[1]) Theodorico – *Тэадорык (Дытрых) II, маркграф з Мэйсэну, Наўмбурскі біскуп (1244–1272 – Potthast. Wegweiser. s. 369; Will. s. 372–374)*

Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Хрысьціяну, біскупу Летовіі, збаўленьне і апостальскае блаславеньне.

Схіліўшыся да просьбаў найдаражэйшага ў Хрысьце сына нашага, найясьнейшага караля Летовіі, нованавернутага да вызнаньня хрысьціянскай веры, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі на запатрабаваньне таго ж караля а нашай уладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які згаданы кароль намерваўся наноў узьвесьці ў сваіх краёх уласным коштам і шчодра ўпасажыць, цябе, на той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць табе дар пасьвячэньня, а таксама ўчыніць, каб падданыя выявілі табе належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад цябе прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў той наш ліст, паставіў цябе на памянёны касьцёл, узяўшы ад цябе прысягу вернасьці сабе і свайму Касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да таго ж караля, якога мы ад пачатку ягонага навяртаньня прынялі за асаблівага сына Касьцёлу і адзначылі тытулам каралеўскай годнасьці, мы хацелі б, каб там быў біскуп падпарадкаваны не каму іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі потым той жа кароль у сваім поўным павагі лісьце прасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да ягоных просьбаў, пастанаўляем, што ты ні ў якай меры не павінен захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам. Зрэшты, мы жадаем і даручаем, каб ты даў прысягу звычайнай вернасьці нашаму брату Наўмбурскаму біскупу, якому мы накіроўваем наш ліст, для нас і Рымскага Касьцёлу згодна з формаю, якую мы дзеля гэтага пераслалі памянёнаму арцыбіскупу.

Дадзена ў Ананьі, у трэці [дзень перад] верасьнёўскімі нонамі, у дванаццаты год нашага пантыфікату.

## 12.

**1254 вер. 3. — Ананьі**

*Папа Інацэнт IV даручае Наўмбурскаму біскупу ўзяць ад Хрысьціяна, біскупа Летовіі, прысягу вернасьці папу і Касьцёлу.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. папы Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 23, f. 170, ep. 178 (R); У коп. транс., зробленага 11 крас. 1358 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн, клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з А, якая была ўпісаная ў рэгістры папы Урбана VI пасьля дак., датаванага 20 ліст. 1386, ASV, Reg.Vat. 311, f. 27v (B)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 461 (у скароце, з R); b) Turgenev. I. p. 81, nr. 91 (з R); c) Bunge. I. sp. 355, nr. 273 (з b, пад памылковаю датаю 5 вер.); d) Theiner. I. p. 58, nr. 120 (з R)* — **Рг.:** *Bunge. I. Reg. s. 77, nr. 309. VI. Reg. s. 16; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1275, nr. 15509; Perlbach. s. 135, nr. 470; Berger. III. p. 504, nr. 7998; Paszkiewicz. I. p. 58, nr. 290* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 86, nr. 140; Philippi.-Woelky. I.1. s. 218, nr. 293.*

Тэкст з *R*

.. [1], episcopo Nuemburgensi [a)].

Inclinati precibus carissimi in Christo filii nostri .. [2], illustris regis Lethovie, de novo conversi ad cultum fidei christiane, venerabili fratri nostro .. [3], archiepiscopo Livonie [b)] ac Pruscie [c)], prout accepimus, sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut cathedrali ecclesie, quam dictus rex in partibus suis de novo sub propriis expensis erigere ac dotare magnifice intendebat, venerabilem fratrem nostrum Christianum episcopum, tunc fratrem presbyterum hospitalis sancte Marie Theutonicorum [d)] in Livonia, ad requisitionem regis eiusdem auctoritate nostra preficeret in pastorem et ei munus consecrationis impenderet, ac sibi a subditis faceret obedientiam et reverentiam debitam exhiberi, recepturus ab eo postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam sibi sub bulla nostra misimus interclusam. Sane idem archiepiscopus, prius quam ad ipsum huiusmodi nostre littere pervenissent, ecclesie memorate de predicto fratre providit, iuramentum fidelitatis suo et ecclesie sue nomine ab illo recipiens, licet hoc de intentione nostra nullatenus exstitisset, maxime cum terra Lethovie [e)] sit iuris et proprietatis beati Petri, ac pro eiusdem regis honore, quem a sue conversionis initio assumpsimus in filium ecclesie specialem et regie dignitatis titulo fecimus insigniri, nullum ibi esse velimus episcopum, qui alii quam Romano pontifici sit subiectus. Quia vero idem rex postmodum per affectuosas litteras postulavit a nobis, ut super hoc providere de circumspectione sedis apostolice curaremus, nos, euis precibus annuentes [f)], mandamus, quatinus eundem episcopum ad observantiam predicti iuramenti, prefato archiepiscopo taliter prestiti, denuncians aliquatenus non teneri, recipias ab ipso pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum, iuxta formam litterarum, quas super hoc transmisimus archiepiscopo memorato. Formam autem iuramenti, quod idem episcopus prestabit etc. [g)] usque [g)] destinare procures. Contradictores etc. [h)] Non obstante, si eidem archiepiscopo aut cuicumque persone, dignitati seu loco de partibus illis a sede apostolica sit indultum, quod per litteras eius suspendi vel interdici, aut excommunicari non possit, nisi de indulto huiusmodi plenam et expressam, seu de toto tenore ipsius fecerint mentionem, sive quacumque alia indulgentia, per quam effectus mandati nostri in hac parte impediri valeat vel differri.

Datum Anagnie, III nonas septembris [i)], anno XII° [k)].

---

**12.** [a)] Innocencius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri episcopo Nuemborgensi salutem et apostolicam

benedictionem. *B* [b]) Lyvonie *B* [c]) Pruczie *B* [d]) Theotonicorum *B* [e])Lethowie *B* [f]) *пропуск тэксту R,* annuentes, fraternitati tue per apostolica scripta *B* [g-g]) *скар. тэксту R,* de verbo ad verbum nobis per eius patentes litteras, suo sigillo signatos, per proprium nuncium quantocius *B* [h]) *скар. тэксту R,* auctoritate nostra, appellatione postposita, compescendo *B* [i]) *пропуск тэксту R,* septembris, pontificatus nostri *B* [k]) duodecimo *B*

[1]) Theodorico – *Тэадорык, Наўмбурскі біскуп* [2]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [3]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп Лівоніі і Прусіі*

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Тэадорыку], Наўмбурскаму біскупу, [збаўленьне і апостальскае благаслаўленьне].

Схіліўшыся да просьбаў найдаражэйшага ў Хрысьце сына нашага [Міндава], найясьнейшага караля Летовіі, нованавернутага да вызнаньня хрысьціянскай веры, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму [Альбэрту], арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі, на запатрабаваньне таго ж караля а нашай уладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які згаданы кароль у сваіх краёх намерваўся наноў узьвесьці ўласным коштам і шчодра ўпасажыць, вялебнага брата нашага Хрысьціяна, біскупа, а ў той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць яму дар пасьвячэньня, а таксама ўчыніць, каб падданыя выказвалі яму належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад яго прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў той наш ліст, паставіў згаданага брата на памянёны касьцёл, узяўшы ад яго прысягу вернасьці сабе і свайму Касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да таго ж караля, якога мы ад пачатку ягонага навяртаньня прынялі за асаблівага сына Касьцёлу і адзначылі тытулам каралеўскай годнасьці, мы хацелі б, каб там быў біскуп падпарадкаваны не каму іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі потым той жа кароль у сваім поўным павагі лісьце папрасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да ягоных просьбаў, даручаем паведаміць таму ж біскупу, што ён не павінен ні ў якай меры захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам памянёнаму арцыбіскупу. [Але] вазьмі ад яго прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы ў лісьце, які мы даслалі ў гэтай справе памянёнаму арцыбіскупу. Форму ж прысягі, якую ён дасьць, слова ў слова ў ягоным адкрытым лісьце, [апячатаным яго [ж] пячацьцю], паклапаціся як найхутчэй даслаць нам праз уласнага пасланца. Гэтаму не перашкаджае тое, што той жа арцыбіскуп ці нейкая [іншая] асоба, годнасьць ці месца з тых краёў могуць быць абароненымі апостальскім пасадам праз адпаведныя лісты ад суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, калі толькі ў іх ня будзе поўнага і выразнага напаміну пра такую абарону – ці пра ўвесь яе зьмест, ці нейкую іншую індульгенцыю, згодна зь якой дзеяньне нашага мандату ў гэтай частцы можа быць прыпыненае ці адкладзенае.

Дадзена ў Ананьі, у III [дзень перад] верасьнёўскімі нонамі, у XII год [нашага пантыфікату].

## 13.

**1254 вер. 20. — Ананьі**

*Папа Інацэнт IV зацьвярджае пастаўленьне Хрысьціяна біскупам Летовіі, але выводзіць яго з-пад юрысдыкцыі арцыбіскупа Лівоніі і Прусіі, падпарадкоўваючы беспасярэдне апостальскаму пасаду.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Інацэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 23, f. 175v, ep. 212 (R)* — **Выд.:** *Theiner. I. p. 59, nr. 121* — **Рг.:** *Bunge. VI. Reg. s. 16; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1276, nr. 15518; Perlbach. s. 136, nr. 473; Berger. III. p. 512, nr. 8041; Paszkiewicz. I. p. 58, nr. 293* — **Літ.:** *Philippi.-Woelky. I.1. s. 218, nr. 293.*

Тэкст з *R*

Christiano episcopo Lethovie[a) 1].

Inclinati precibus carissimi in Christo filii nostri .. [2], illustris regis Lethowie, de novo conversi ad cultum fidei christiane, venerabili fratri nostro .. [3], archiepiscopo Livonie ac Pruscie, prout accepimus, sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut cathedrali ecclesie, quam dictus rex in partibus[b)] suis de novo sub propriis expensis erigere ac dotare magnifice intendebat, te tunc fratrem presbyterum hospitalis sancte Marie Theutonicorum in Livonia, ad requisitionem regis eiusdem auctoritate nostra preficeret in pastorem et tibi munus consecrationis impenderet ac debitam obedientiam et reverentiam faceret a subditis exhiberi, recepturus a te postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam sibi sub bulla nostra misimus interclusam. Sane idem archiepiscopus, priusquam ad ipsum huiusmodi nostre littere pervenissent, de te providit ecclesie memorate, iuramentum fidelitatis suo et ecclesie sue nomine a te recipiens, licet hoc de intentione nostra nullatenus exstitisset, maxime cum terra Lethovie sit iuris et proprietatis beati Petri, ac pro eiusdem regis honore, quem a sue conversionis inicio assumpsimus in filium ecclesie specialem et regie dignitatis titulo fecimus insigniri, nullum ibi esse velimus episcopum, qui alii quam Romano pontifici sit subiectus. Quia vero predicto rege a nobis postmodum per affectuosas litteras postulante, ut super hoc providere de circumspectione sedis apostolice curaremus, nos, eius precibus annuentes, te ad observantiam predicti iuramenti, taliter prestiti, decrevimus aliquatenus non teneri, nos provisionem de te factam per archiepiscopum memoratum, quem propter hoc in persona tua nullam iurisdictionem volumus obtinere, ratam et firmam habentes, ipsam auctoritate apostolica confirmamus etc. [4] usque communimus [4]. Decernentes irritum et inane, si quid, postquam litteras nosras super provisione de te facienda concessimus, sine speciali mandato nostro, faciente de illis plenariam mentionem, fuit ab aliquo vel de cetero fuerit attemptatum. Nulli etc. [5] nostre confirmationis et constitutionis etc. [6]

Datum Anagnie, XII kalendas octobris [7], anno XII°.

.. [8], episcopus Tarbatensis datus est super hiis conservator. Non obstante, si aliquibus personis vel dignitatibus a sede apostolica sit indultum, quod suspendi vel interdici, aut excommunicari non possint, de[c)] indulto huiusmodi sibi concesso plena et expressa seu de verbo ad verbum in nostris litteris mentio habeatur.

---

**13.** [a)] *адрас напісаны чырвоным колерам R* [c)] *так у R, трэба чытаць* nisi de

[1]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Innocentius episcopus, servus servorum Dei,

venerabili fratri Christiano, episcopo Lethovie, salutem et apostolicam benedictionem. [2]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [3]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп Лівоніі і Прусіі* [4]) *праз* etc. – communimus *скар. станд. формула пратаколу, якую можна ўзнавіць на падставе іншых папскіх лістоў (гл., напр., дак. II 9) як:* et presentis scripti patrocinio communimus [5]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 4 да дак. II.2):* ergo omnino hominum liceat hanc paginam [6]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 5 да дак. II.2):* infringere vel ei ausu temerario contraire. [7]) *прапушчана* pontificatus nostri [8]) Hermannus? – *магчыма, Герман, Дорпацкі біскуп (гл. заўв. 2 да дак. II.6)*

[Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату] Хрысьціяну, біскупу Летовіі, [збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне].

Схіліўшыся да просьбаў найдаражэйшага ў Хрысьце сына нашага [Міндава], найясьнейшага караля Летовіі, нованавернутага да вызнаньня хрысьціянскае веры, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму [Альбэрту], арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі, на запатрабаваньне таго ж караля а нашаю ўладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які згаданы кароль намерваўся наноў узьвесьці ў сваіх краёх уласным коштам і шчодра ўпасажыць, цябе, на той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць табе дар пасьвячэньня, а таксама зрабіць, каб падданыя выявілі табе належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад цябе прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў той наш ліст, паставіў цябе на памянёны касьцёл, узяўшы ад цябе прысягу вернасьці сабе і свайму Касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да таго ж караля, якога мы ад пачатку ягонага навяртаньня прынялі за асаблівага сына Касьцёлу і адзначылі тытулам каралеўскай годнасьці, мы хацелі б, каб там быў біскуп падпарадкаваны не каму іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі потым той жа кароль у сваім поўным павагі лісьце прасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да ягоных просьбаў, пастанавілі, што ты ні ў якай меры не павінен захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам. Мы, прызнаючы сапраўдным і правамоцным тваё прызначэньне, учыненае памянёным арцыбіскупам, які, аднак, не павінен валодаць юрысдыкцыяй у дачыненьні да тваёй асобы, апостальскай уладаю яго зацьвярджаем [і моцаю гэтага ліста] засьведчваем. Мы будзем лічыць неправамоцным і несапраўдным, калі нехта паспрабаваў ці паспрабуе нешта [з гэтага] перагледзець, пасьля таго як мы выдалі наш ліст пра тваё прызначэньне, без адмысловага нашага мандату, у якім будзе пра яго поўны напамін. Ніводнаму [ўвогуле чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст] нашага зацьвярджэньня і пастановы [або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць.]

Дадзена ў Ананьі, у XII [дзень перад] кастрычніцкімі календамі, у XII год [нашага пантыфікату].

[Вялебны брат Герман?], Дорпацкі біскуп, прызначаны абаронцам у гэтай справе.

Гэтаму не перашкаджае, калі нейкія асобы ці годнасьці былі абароненыя апостальскім пасадам ад суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, [калі толькі] пра такую абарону няма поўнага і выразнага або даслоўнага напаміну ў нашым лісьце.

## 14.

**1254 вер. 20. — Ананьі**

*Папа Інацэнт IV даручае Дорпацкаму біскупу паклапаціцца пра тое, каб ніхто не супрацьдзейнічаў біскупу Хрысьціяну ў яго прызначэньні і юрысдыкцыі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе натарыем Мікалаем Глецэры, клерыкам Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Робіна фон Эльч, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. III, nr. 61 (B)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 359, nr. 251; b) Raczyński. p. 9, nr. 6; c) Bunge. I. sp. 356, nr. 275; d) Narbutt. Pisma. s. 38* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 116, nr. 453; Bunge. I. Reg. s. 77, nr. 311; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1276, nr. 15519; Perlbach. s. 136, nr. 474; Paszkiewicz. I. p. 58, nr. 292* — **Літ.:** *Danilowicz. I. s. 86, nr. 141; Philippi.-Woelky. I.1. s. 218, nr. 293.*

*У транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. III, nr. 61) сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць A ды наяўнасьць алавянай (plumbea) булы, прывешанай на канапляным шнурку, а таксама даецца яе апісаньне.*

Тэкст з *B*

Innocentius episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri [..] [1], episcopo Tarbatensi, salutem et apostolicam benedictionem.

Inclinati precibus carissimi in Christo filii nostri, illustris regis Lethovie, de novo conversi ad cultum fidei christiane, venerabili fratri nostro [..] [2], archiepiscopo Lyvonie ac Pruscie, prout accepimus, sub certa forma dedimus nostris litteris in mandatis, ut kathedrali ecclesie, quam dictus rex in partibus suis de novo sub propriis expensis erigere ac dotare magnifice intendebat, venerabilem fratrem nostrum Christianum episcopum Lethovie, tunc fratrem presbyterum hospitalis sancte Marie Teuthunicorum in Livonia, ad requisitionem regis eiusdem auctoritate nostra preficeret in pastorem et sibi munus consecracionis impenderet, ac debitam obedienciam [a)]et reverenciam [a)] faceret a subditis exhiberi, recepturus ab ipso postmodum pro nobis et ecclesia Romana fidelitatis solite iuramentum iuxta formam, quam sibi sub bulla nostra misimus interclusam. Sane idem archiepiscopus, priusquam ad ipsum huiusmodi nostre littere pervenissent, de ipso providit ecclesie memorate, iuramentum fidelitatis suo et ecclesie sue nomine ab ipso recipiens, licet hoc de intencione nostra nullatenus exstitisset, maxime cum terra Lethovie sit iuris et proprietatis beati Petri, ac pro eiusdem regis honore, quem a sue conversionis inicio assumpsimus in filium ecclesie specialem et regie dignitatis titulo fecimus insigniri, nullum ibi esse velimus episcopum, qui alii quam Romano pontifici sit subiectus. Quia vero predicto rege a nobis postmodum per affectuosas litteras postulante, ut super hoc providere de circumspeccione sedis apostolice curaremus, nos, eius precibus annuentes, ipsum ad observanciam predicti iuramenti, taliter prestiti, decrevimus aliquatenus non teneri. Nos provisionem de ipso factam per archiepiscopum memoratum, quem propter hoc in persona ipsa nullam iurisdiccionem volumus obtinere, ratam et firmam habentes, ipsam per litteras nostras duximus confirmandam, decernentes irritum et inane, si quid, postquam litteras nostras super provisione de ipso facienda concessimus, sine speciali mandato nostro, faciente de illis plenariam mencionem, fuit ab aliquo vel de cetero fuerit attemptatum, quocirca fraternitati tue per apostolica scripta mandamus, quatenus non permittas eundem episcopum super hiis, contra confirmacionis et constitucionis nostre tenorem, ab aliquibus indebite molestari, molestatores huiusmodi per censuram ecclesiasticam, appellacione postposita, compescendo, non obstante, si aliquibus personis, locis vel dignitatibus a sede apostolica sit indultum,

quod suspendi vel interdici, aut excommunicari non possint, nisi de indulto huiusmodi sibi concesso plena et expressa, seu de verbo ad verbum in nostris litteris mencio habeatur.

Datum Anagnie, duodecimo calendas octobris, pontificatus nostri anno duodecimo.

---

**14.**
a) *на прав. полі B*

[1]) Hermanno? – *магчыма, Герман, Дорпацкі біскуп (гл. заўв. 2 да дак. II.6)* [2]) Alberto – *Альбэрт II Суэрбэр, арцыбіскуп Лівоніі і Прусіі*

Інацэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату [Герману?,] Дорпацкаму біскупу, збаўленьне і апостальскае блаславеньне.

Схіліўшыся да просьбаў найдаражэйшага ў Хрысьце сына нашага, найясьнейшага караля Летовіі, нованавернутага да вызнаньня хрысьціянскае веры, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму [Альбэрту], арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі, на запатрабаваньне таго ж караля а нашай уладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які згаданы кароль намерваўся наноў узьвесьці ў сваіх краёх уласным коштам і шчодра ўпасажыць, вялебнага брата нашага Хрысьціяна, біскупа Летовіі, а ў той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць яму дар пасьвячэньня, а таксама зрабіць, каб падданыя выявілі яму належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад яго прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму [арцыбіскупу] запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў той наш ліст, паставіў таго ж Хрысьціяна на памянёны касьцёл, узяўшы ад яго прысягу вернасьці сабе і свайму Касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да таго ж караля, якога мы ад пачатку ягонага навяртаньня прынялі за асаблівага сына Касьцёлу і адзначылі тытулам каралеўскай годнасьці, мы хацелі б, каб там быў біскуп падпарадкаваны не каму іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі потым у сваім поўным павагі лісьце той жа кароль папрасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да ягоных просьбаў, пастанаўляем, што той жа біскуп не павінен ні ў якай меры захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам. Мы, прызнаючы сапраўдным і правамоцным яго прызначэньне, учыненае памянёным арцыбіскупам, які, аднак, не павінен валодаць юрысдыкцыяй у дачыненьні да ягонай асобы, зацьвердзілі яго нашым лістом. Мы будзем лічыць неправамоцным і несапраўдным, калі нехта паспрабаваў ці паспрабуе нешта [з гэтага] перагледзець, пасьля таго як мы выдалі наш ліст пра ягонае прызначэньне, без адмысловага нашага мандату, у якім будзе пра яго поўны напамін. Таму наказваем табе, нашаму брату, нашым апостальскім лістом, каб ты не дазваляў некаторым несправядліва дакучаць таму ж біскупу наконт гэтага, насуперак зьместу нашага зацьвярджэньня і пастановы, а гэтакіх парушальнікаў, адхіліўшы апэляцыю, утаймуй касьцельнымі пакараньнямі. Гэтаму не перашкаджае, калі нейкія асобы, месцы ці годнасьці былі абароненыя апостальскім пасадам ад суспэнзы, інтэрдыкту ці экскамунікі, [калі толькі] пра такую абарону няма поўнага і выразнага або даслоўнага напаміну ў нашым лісьце.

Дадзена ў Ананьі, у дванаццаты [дзень перад] кастрычніцкімі календамі, у дванаццаты год нашага пантыфікату.

## 15.

**1255 сак. 1. — Нэапаль**

*Папа Аляксандар IV прымае адыход біскупа Літовіі Віта зь ягонай пасады.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Аляксандра IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 24, f. 20, ep. 176 (R)* — **Выд.:** *Bourel. I. s. 55, nr. 199; Ptaśnik. III. p. 39, nr. 73* — **Рг.:** *Paszkiewicz. I. p. 61, nr. 305.*

Тэкст з *R*

Vito[1], quondam episcopo Litovie[a)2].

Olim nobis cum instantia supplicasti, ut cessionem tuam volens non dignitati resignare, sed loco recipi faceremus. Nos igitur licet inviti tuum in hac parte desiderium, de fratrum nostrorum consilio, adimplentes, per venerabilem fratrem nostrum episcopum Tusculanensem[3] a te vice nostra pontificalis oneris, non honoris recipi fecimus cessionem. In cuius rei testimonium presentes litteras tibi duximus concedendas.

Datum Neapoli, kalendis martii[4], anno I°.

---

**15.** [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) *Віт, з Ордэну дамініканцаў, вучань сьвятога Яцка, біскуп Літовіі (1253–1269). Гл. кам.* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Alexander episcopus, servus servorum Dei, venerabili fratri Vito, episcopo Litovie, salutem et apostolicam benedictionem. [3]) *Odo episcopus Tusculanensis – Ота дэ Кастра Радольфі, з Ордэну цыстэрцыянцаў, Тускулянскі біскуп і кардынал (1244–1273). Тэрыторыя Тускуло (у старажытнасьці – Тускулюм) і біскупская сядзіба ў Фраскаці знаходзіліся ў ваколіцах Рыму на паўднёвы ўсход ад яго. Быў уплывоваю асобаю ў атачэньні пантыфікаў, выконваў адказныя даручэньні і дыпляматычныя місіі* [4]) *прапушчана* pontificatus nostri

Віту, былому біскупу Літовіі.

Калісьці ты настойліва прасіў нас, адмаўляючыся не ад годнасьці, а ад месца, каб мы прынялі твой адыход. Параіўшыся з нашымі братамі, мы, хоць і неахвотна, спаўняем гэтае тваё жаданьне і празь вялебнага брата нашага Тускулянскага біскупа ад нашага імя прымаем твой адыход ад пантыфікальнага абавязку, але ня годнасьці. На сьведчаньне пра гэтую справу мы пастанавілі даць табе гэты наш ліст.

Дадзена ў Нэапалі, на сакавіцкія календы, у I год [нашага пантыфікату].

## 16.

**1255 сак. 6. — Нэапаль**

*Папа Аляксандар IV дазваляе каралю Лектовіі Міндаву заклікаць да сябе лацінскага біскупа, каб той каранаваў ягонага сына на караля Лектовіі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Аляксандра IV, Ватыкан, ASV, Reg Vat. 24, f. 27v, ep. 220 (R)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 495; b) Theiner. I. p. 60, nr. 123* — **Рг.:** *Bonnell. s. 69; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1296, nr. 15720; Bourel. I. p. 71, nr. 263; Paszkiewicz. I. p. 61, nr. 306* — **Літ.:** *Danilowicz. I. s. 90, nr. 149; Philippi.-Woelky. I.1. s. 229, nr. 310.*

Тэкст з *R*

.. [1], illustri regi Lectovie[a)2].

Catholice fidei cultum longius latiusque per orbem diffundi continue super omnia cordis nostri desiderabilia cupientes, ad eiusdem augmentum fidei vigili sedulaque sollercia non cessamus intendere ac, ut iuxta nostri desiderii plenitudinem valeat provenire, totius diligentie studium, excusso in hac parte cuiuslibet negligentie otio, adhibemus, augmentum ipsum per nos ac alios omni ope ac opera, prout ex alto conceditur, assidue procurando. Hinc est, quod cum, sicut te intimante nobis accepimus, tu divinitus inspiratus, de paganice cecitatis errore ad viam vite, que Christus est, baptismatis renatus unda, redieris et Deo vivo ac vero placere studeas sub religionis observantia christiane, nos, de hoc multo concepto gaudio, volentes te in huiusmodi fide congruis roborare favoribus et condignis gratiis confovere, tuis supplicationibus inclinati, excellentie tue, ut quem mallueris Latinum episcopum, pacem et communionem apostolice sedis habentem, tibi advocare liceat, qui dilectum filium, nobilem virum .. [3], natum tuum ad honorem Dei et sancte Romane ecclesie in regem Lectovie auctoritate nostra coronet, tenore presentium indulgemus. Nulli etc. [4] nostre concessionis etc. [5]

Datum Neapoli, II nonas martii [6], anno I°.

**16.** [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Alexander episcopus, servus servorum Dei, carissimo in Christo filio ... illustri regi Lectovie, salutem et apostolicam benedictionem. [3]) *магчыма, маецца на ўвазе Рукля, гл.: Latkowski. s. 71 (370)–74 (373).* [4]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 4 да дак. II.2):* ergo omnino hominum liceat hanc paginam [5]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 5 да дак. II.2):* infringere vel ei ausu temerario contraire. [6]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Аляксандар, біскуп, слуга слугаў Божых, Міндаву], найясьнейшаму каралю Лектовіі, [збаўленьне і апостальскае блаславўленьне].

Жадаючы больш за ўсё, што мілае сэрцу нашаму, каб няўхільна, далей і шырэй сягала ў сьвет вызнаньне каталіцкае веры, мы з чуйнай і пільнай абачлівасьцю не перастаем клапаціцца пра ўзрастаньне той жа веры, а каб яно магло набіраць сілу згодна з нашым гарачым жаданьнем, мы прыкладаем дзеля гэтага ўсе намаганьні, адкінуўшы спакой і абыякавасьць ды заўсёды дбаючы пра гэтае ўзрастаньне самы або празь іншых усімі сіламі і сродкамі, як даецца [нам] звыш. Таму, калі мы даведаліся ад цябе, што ты, з Божага натхненьня адроджаны хроснай купельлю, вярнуўся ад аблуды паганскае сьлепаты да дарогі жыцьця, якою ёсьць Хрыстус, і стараешся падабацца Богу жывому і сапраўднаму, захоўваючы хрысьціянскую веру, мы ўспрынялі гэта зь вялікаю радасьцю і, жадаючы ўмацаваць цябе ў гэтай веры належнымі міласьцямі ды падтрымаць дастойнымі ласкамі, схіленыя тваімі просьбамі, дазваляем тваёй высокасьці зьместам гэтага [ліста] заклікаць да сябе лацінскага біскупа, які табе больш даспадобы ды які мае мір і еднасьць з апостальскім пасадам, каб ён нашай уладаю на хвалу Бога і сьвятога Рымскага Касьцёлу каранаваў умілаванага сына ... высакароднага мужа, сына твайго, на караля Лектовіі. Ніводнаму [чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст] нашага дазволу [або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць].

Дадзена ў Нэапалі, у II [дзень перад] сакавіцкімі нонамі, у I год [нашага пантыфікату].

## 17.

**1255 сак. 6. — Нэапаль**

*Папа Аляксандар IV зацьвярджае каралю Лектовіі валоданьне землямі, якія той адваяваў у каралеўства Русі.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Аляксандра IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 24, f. 27v, ep. 220' (R)* — **Выд.:** *a) Raynaldus. XXI. p. 495; b) Turgenev. I. p. 83, nr. 93; c) Theiner. I. p. 61, nr. 123* — **Рг.:** *Bonnell. s. 69; Strehlke. s. 137; Potthast. II. p. 1296, nr. 15721; Bourel. I. p. 71, nr. 264; Paszkiewicz. I. p. 61, nr. 306* — **Літ.:** *Naruszewicz. V. s. 31; Daniłowicz. I. s. 91, nr. 150; Philippi.-Woelky. I.1. s. 230, nr. 311.*

Тэкст з *R*

Eidem [1 a)].

Catholice etc. [2] usque procurando [2]. Cum itaque, sicut ex parte tua fuit propositum coram nobis, tu contra regnum Russie [3] ipsiusque habitatores, in infidelitatis devio constitutos, indefessa strenuitate decertans, nonnullas terras ipsius regni tue subiugaveris dicioni, nos attendentes, quod te terras habente predictas, vicine paganorum et infidelium regiones de facili poterunt tuo dominio subici et acquiri cultui christiano, tuis benigne precibus annuentes, prefatas terras tibi tuisque successoribus, absque catholicorum quorumlibet preiudicio, auctoritate apostolica confirmamus etc. usque communimus. Nulli etc. [4] nostre confirmationis etc. [5]

Datum ut supra [6].

---

**17.** [a]) *адрас напісаны чырвоным колерам R*

[1]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі. Скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II.1), павінна быць:* Alexander episcopus, servus servorum Dei, carissimo in Christo filio .., illustri regi Lectovie, salutem et apostolicam benedictionem. [2-2]) *праз* etc. – procurando *скар. тэксту, які падаецца цалкам у папярэднім дак.:* fidei cultum longius latiusque per orbem diffundi continue super omnia cordis nostri desiderabilia cupientes, ad eiusdem augmentum fidei vigili sedulaque sollercia non cessamus intendere ac, ut iuxta nostri desiderii plenitudinem valeat provenire, totius diligentie studium, excusso in hac parte cuiuslibet negligentie otio, adhibemus augmentum ipsum per nos ac alios omni ope ac opera, prout ex alto conceditur assidue procurando. [3]) *безумоўна, тут маецца на ўвазе каралеўства Данілы Галіцкага, які быў каранаваны ўвосень 1253 г.* [4]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 4 да дак. II.2):* ergo omnino hominum liceat hanc paginam [5]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 5 да дак. II.2):* infringere vel ei ausu temerario contraire. [6]) *праз* ut supra *скар. дата, якая падаецца ў папярэднім дак.:* Neapoli, II nonas martii, [pontificatus nostri] anno I°.

[Аляксандар, біскуп, слуга слугаў Божых,] Яму ж. [Міндаву, найясьнейшаму каралю Лектовіі, збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне.]

Жадаючы больш за ўсё, што мілае сэрцу нашаму, каб няўхільна, далей і шырэй сягала ў сьвет вызнаньне каталіцкае веры, мы з чуйнай і пільнай абачлівасьцю не перастаем клапаціцца пра ўзрастаньне той жа веры, а каб яно магло набіраць сілу згодна з нашым гарачым жаданьнем, мы прыкладаем дзеля гэтага ўсе намаганьні, адкінуўшы спакой і абыякавасьць ды заўсёды дбаючы пра гэтае ўзрастаньне самы або празь іншых усімі

сіламі і сродкамі, як даецца [нам] звыш. Таму, калі з твайго боку было даведзена нам, што ты, зь нястомнай энэргіяй змагаючыся супроць каралеўства Русі ды яго насельнікаў, падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства, мы, з увагі на тое, што тваё валоданьне згаданымі землямі дазваляе лёгка падпарадкаваць тваёй уладзе суседнія краі паганцаў і няверных ды здабыць іх для хрысьціянскае веры, ласкава схіляемся да тваіх просьбаў і апостальскаю ўладаю зацьвярджаем памянёныя землі табе і тваім наступнікам, бяз шкоды для каталікоў. Ніводнаму [чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст] нашага зацьвярджэньня [або зь легкадумнаю зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць].

Дадзена як вышэй [у Нэапалі, у II [дзень перад] сакавіцкімі нонамі, у I год [нашага пантыфікату]].

## 18.

**1255 сак. 7. — Нэапаль**

Папа Аляксандар IV наказвае каралю Летовіі дапамагаць біскупу Хрысьціяну і бараніць яго ад паганцаў ды іншых нападнікаў.

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе клерыкам Вармійскай дыяцэзіі натарыем Мікалаем Глецэры на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Робіна фон Эльч, з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. 17, nr. 18 (B); У коп. гэтага транс. у Ordensfoliant з назовам "Grentzbuch und Handlung derselben" (Grenzbuch B), які быў складзены ў XV–XVI стст., з B, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 270a, f. 43v (C)* — **Выд.:** *a) Dreger. I, s. 352, nr. 244 (з C, пад 1254); b) Bunge. III, sp. 50, nr. 279a (з B); c) Narbutt. Pisma. s. 42; d) Philippi.-Woelky. I.1. s. 230, nr. 312 (з B i C)* — **Рг.:** *Napiersky. I, s. 116, nr. 454; Bunge. III. Reg., s. 20, nr. 315a. VI. Reg., s. 17; Bonnell. s. 70; Strehlke. s. 137; Potthast. II, p. 1296, nr. 15722; Paszkiewicz. I, p. 61, nr. 307* — **Літ.:** *Daniłowicz. I, s. 90, nr. 148.*

*Транс. ад 26 тр. 1388 (Schiebl. 17, nr. 18) моцна пашкоджаны плямамі ад вільгаці ды мае дзіркі, з гэтай прычыны тэкст у некаторых месцах страчаны або нечытэльны. У гэтым транс. сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць A ды даецца апісаньне булы, якая была прывешаная на канапляным шнурку.*

Тэкст з *B*

Alexander episcopus, servus servorum Dei, ca[rissimo in Christo] [a] filio .. [1], illustri regi Lethovie [b] salutem et apostolicam benedictionem.

In tua mente v[er]sari [a] confidimus, [quod in divin]e [c] maiestatis oculis placeas per opera pietatis, maxime cum tib[i eius ineff]abili [a] benignitate provenerit, quod ad fidei katholice [d] pervenisti titulum [e], relict[a] [a] perfidia [paganorum] [c]. Cum itaque venerabilis frater noster Christianus, episcopus Lettovie [b], ordinis [fratrum hospi]talis [a] sancte Marie Teuthunicorum [f], pro eo potissime apud te favoris benigni gracia[m] [a] debeat invenire, quia tuis olim [g] serviens [h] fideliter [i] astitit [i] et pro conversione tua ad noticia[m divini n]ominis [a], prout accepimus, sollicite laboravit, serenitatem tuam affectuose rogandam duximus et monendam in remissionem tibi peccaminum iniungentes, quatinus eundem episcopum, nullo mediante apostolice sedi subiectum, pro divina et nostra reverencia in suis necessitatibus habeas commendatum eumque contra paganorum, suam diocesim undique impugnancium, et aliorum invasorum incursus ita contra tue iurisdictioni subiectos protegas et defendas, quod ipse in

execucione pastoralis officii possit iuxta votum, auctore Domino, prosperari, ac tibi exinde benedictionis divine premium et a nobis condigna proveniat[k] actio graciarum.

Datum Neapoli, nonas marcii, pontificatus nostri anno primo.

---

**18.** [a]) *дзірка B, у кв. дуж. з C* [b]) Littovie *C* [c]) *пляма B, у кв. дуж. з C* [d]) catholice *C* [e]) tytulum *C* [f]) Theutunicorum *C* [g]) olym *C* [h]) serviciis *C* [i]) astitit fideliter *C* [k]) proveniant *C*

[1]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі*

Аляксандар, біскуп, слуга слугаў Божых, найдаражэйшаму ў Хрысьце сыну [Міндаву], найясьнейшаму каралю Летовіі, збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне.

Мы спадзяемся, што ў душы ты імкнешся да таго, каб падабацца ў вачох Божае велічы справамі пабожнасьці, тым больш што зь Яго невымоўнай дабрыні здарылася так, што ты прыйшоў да вызнаньня каталіцкай веры, пакінуўшы няверу паганцаў. Таму, паколькі вялебны брат наш Хрысьціян, біскуп Летовіі зь Нямецкага ордэну братоў шпіталю сьвятой Марыі, павінен знайсьці ў цябе ўдзячнасьць і зычлівае спрыяньне перадусім за тое, што некалі верна служыў і дапамагаў тваім ды, як мы даведаліся, старанна працаваў дзеля твайго навяртаньня да вызнаньня імя Божага, горача просім і ўмаўляем сьветласьць тваю, наказваючы [табе] дзеля адпушчэньня грахоў тваіх, каб з пашаны да Бога і да нас ты дапамагаў у патрэбах таму ж біскупу, беспасярэдне падданаму апостальскаму пасаду, ахоўваў і бараніў яго ад паганцаў, якія з усіх бакоў нападаюць на ягоную дыяцэзію, ды набегаў іншых нападнікаў, а таксама ад [незычліўцаў], падлеглых тваёй уладзе, каб ён з Божай дапамогаю меў плён, выконваючы пастырскі абавязак згодна з сваім абяцаньнем, а табе за гэта няхай будзе ўзнагародаю бласлаўленьне Божае і належная падзяка ад нас.

Дадзена ў Нэапалі, на сакавіцкія ноны, у першы год нашага пантыфікату.

## 19.

**1257 ліп. 13. — Вітэрбо**

*Папа Аляксандар IV зацьвярджае дарэньне Селёніі Нямецкаму ордэну, учыненае каралём Міндавам* [1].

**Ар.:** *Пэрг. 50,3 × 34,8 + 4,2, алавяная (plumbea) була, прывешаная на жоўтых і чырвоных шаўковых ніцях да сярэдзіны загіну пэргаміну, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. IV, nr. 38 (A)* — **Коп.:** *У транс., зробленым 27 жн. 1386 у Рызе натарыем Вальдэмарам фон Гаўэсфардэн, клерыкам Рэвельскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага ляндмайстра Робіна фон Эльч, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), з A, Schiebl. 4, nr. 38a (B); У транс. папскага нунцыя Яна Габрыэлі, біскупа Масы, зробленым італійскім натарыем Хрыстафорам Ёганіні дэ Манфрэдыніс з Пармы ў Торуні 18 тр. 1393 на запатрабаваньне пракуратараў Нямецкага ордэну ў Лівоніі Мікалая Грапіна і Маркварда фон Суворстэн, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 10 (C); У коп. у Ordensfoliant "Prussie compositio" (1413) транс., зробленага (натарыем Вульфардам фон Бурэн?) на запатрабаваньне майстра Нямецкага ордэну ў Лівоніі Госвіна фон Герыкэ ў Рызе 7 сак. 1352 з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 7, p. 41 (D); У коп. у Ordensfoliant "Aktenstücke betr. den Streit zwischen den Polen und dem DOrden 1339–1420" таго ж транс. (ад 7 сак. 1352, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 11b, f. 52 (E); У коп. невядомага транс. Памезанскага біскупа, упісанага ў Ordensfoliant "Registrum ex parte ordinis productorum..." (1421), Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 12, f 95 (F); У транс. таго ж "Registrum ex parte ordinis productorum...", зробленым на загад кардынала Гульерма яго натарыямі Янам Мартынэцi дэ Навіяна і*

*Янам Паўлецi 10 cm. 1421, з F, Бэрлiн, GStAPK (былы KStA), Schiebl. X, nr. 38 (G); У Ordensfoliant "Privilegia des Colmischen Landes" (пач. XV cm.), з A цi з коп. A, Бэрлiн, GStAPK (былы KStA), OF 67, f. 149 (з H, у скароце); У кнізе копіяў (XV cm.?) у Ordensbriefarchiv, Бэрлiн, GStAPK (былы KStA), XI, 2 L.S. OBA 1, 14 f (з I, у скароце)* — **Выд.:** *a) Raczyński. p. 13, nr. 9; b) Bunge. I. sp. 394, nr. 308; c) Lites. I.2. p. 40; d) Lites (2). II. p. 111* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 125, nr. 497; Bunge. I. Reg. s. 86, nr. 345; Bonnell. s. 72; Strehlke. s. 138; Potthast. II. p. 1384, nr. 16923; Paszkiewicz. I. p. 67, nr. 338* — **Літ.:** *Philippi. Brief. s. 2; Seraphim. I.2. s. 10, nr. 16.*

*A напісаны прыгожым і выразным канцылярскім гатычным курсівам. Пашкоджаньні пэргаміну: дзьве невялікія дзіркі зьлева ўверсе, якія не закранаюць тэксту, некалькі цёмных плямаў, дзьве зь якіх закранаюць тэкст. Тэкст моцна выцерты, таму ў некаторых месцах цяжка чытэльны. Фарбы, якімі быў аздоблены ініцыял, пабляклі. Круглая алавяная двухбаковая була. На адным баку ў ніжняй частцы выявы дзьвюх галоваў з крыжам паміж імі, у верхняй частцы над галовамі надпіс:* SPASPE *(Sanctus Paulus Sanctus Petrus – Сьвяты Павел Сьвяты Пётар); выявы галоваў і акружына булы аточаныя каймою рэльефных кропак. Такі ж арнамэнт па акружыне і на другім баку булы, унутры якога надпіс у тры радкі:* ALEXANDER PP IIII (Аляксандар Папа IV). *Д – 3,8. На правым краі загіну пазнака:* a. s. *На адг. аркуша: уверсе справа* Sancta Maria; *ніжэй рукою XIII cm.* Istam confirmationem mittit frater Otto in Livoniam; *ніжэй выява крыжа ў форме* T, *яшчэ ніжэй каля цэнтру аркуша рукою XV cm.* hanc bullam portavit dominus Syfridus Lander, magister Lyvonie feria IVante dominicam Reminiscere anno XXII°; *над гэтай пазначкаю іншай рукою* de anno 1257; *унізе аркуша па цэнтры ў перавернутым на 180° выглядзе* Confirmatio terrarum ordini in Livonia datarum per regem Littovie; *над гэтай пазначкаю іншай рукою* Middowin; *на ніжнім краі аркуша справа ад ніцяў пячаці* fr(...) Re; *на правым ніжнім ражку ў перавернутым на 180° выглядзе* Confirmatio bonorum datorum *і далей тэкст неразб. У транс. ад 26 жн. 1386 (Schiebl. 4, nr. 38a) сьцьвярджаецца цэласьць і непашкоджанасьць A, а пра пячаць гаворыцца:* cum filis de serico glauco et rubeo (з шаўковымі ніцямі блакітнага і чырвонага колераў). *У транс. ад 18 тр. 1393 (L.S. Schiebl. XI, nr. 10):* bullatam... eius vera bulla plumbea cum filis sericis rubei glaucique coloris pendente (апячатаны... ягонай сапраўднаю алавянай булаю, прывешанаю на шаўковых ніцях чырвонага і блакітнага колераў).

Тэкст з *A*

Alexander episcopus, servus servorum Dei, dilectis filiis ..[2] magistro et fratribus hospitalis sancte Marie Theutonicorum[a)] in Lyvonia[b)] salutem et apostolicam benedictionem.

Cum a nobis petitur, quod iustum est et honestum, tam vigor equitatis, quam[c)] ordo exigit rationis, ut id per sollicitudinem[d)] officii nostri ad debitum perducatur effectum. Exhibita siquidem nobis vestra petitio continebat, quod carissimus in Christo filius noster, M(indowe), rex Lettowie[e)] illustris, terras Selen, videlicet Meddene[f)], Pelone, Maleysine[g)] et Theuraxe[h)3], cum suis pertinentiis, prout spectabat ad eum, vobis pia et provida liberalitate contulit perpetuo possidendas, prout in patentibus litteris eius, confectis exinde ac suo sigillo signatis, plenius continetur. Nos itaque, vestris supplicationibus inclinati, quod super hoc ab eodem rege pie ac provide factum est, ratum et firmum habentes, id auctoritate apostolica confirmamus et presentis scripti patrocinio communimus[i)]. Tenorem autem litterarum ipsarum de verbo ad verbum presentibus fecimus annotari, qui talis est:

Sanctissimo patri ac domino sacrosancte Romane sedis, summo pontifici Alexandro[4], Mindowe[k], Dei gratia rex Lettowie[e)], filialem obedientiam et constantissimam in Domino caritatem ac devota pedum oscula beatorum. Cum dilecti nobis in Christo ..[5] magister et fratres domus sancte Marie Theutonicorum[a)] in Livonia sua fideli ac diligenti persuasione de tenebris gentium nos vocarint, ut cum ceteris Christi fidelibus veritatis lumen eo levius agnoscere valeamus, ut, eorum auxilio mediante, apostolicus I(nnocentius) IIII, predecessor vester felicis memorie, nos renasci fecerit per unde gratiam baptismalis, et de sua solita clementia nos in regem totius Lettowie[e)] fecerit coronari, ut idem regnum a nobis et nostris successoribus pacifice valeat gubernari, vidimus nobis fore valde necessarium ac proficuum fidei Christiane, ut circa quoslibet[l)]

donationes regias faceremus. Cum itaque memorati magister et fratres in Lyvonia[b], nostri constantissimi cooperatores et fidelissimi promotores, suum ferre nobis auxilium sint parati, ut in auxilio nobis ferendo eo fore valeant fortiores, et ad hoc explendum eis etiam suppetant facultates, de consensu heredum nostrorum eisdem magistro et fratribus terram, que Selen dicitur, videlicet Meddene, Pelone, Maleysine[m], Thouraxe[3], cum suis attinentiis, contulimus perpetuo possidendam. Supplicamus igitur benignitati vestre, quatinus eandem donationem, circa predictos magistrum et fratres a nobis provide factam, ratam et gratam habentes, eam patentibus papalibus litteris dignemini confirmare, et magistro et[n] fratribus domus Theutonicorum in Lyvonia[o] per exhibitorem presentium destinantes. Datum anno Domini M°CC°L°V°[p], mense[q] octobris.

Nulli ergo omnino hominum liceat hanc paginam nostre confirmationis infringere vel ei ausu temerario contraire. Si quis autem hoc attemptare presumpserit indignationem omnipotentis Dei et beatorum Petri et Pauli apostolorum eius se noverit incursurum.

Datum Viterbii, III idus[r] iulii[s], pontificatus nostri anno tertio.

**19.** [a]) Teuth(onicorum) *B* [b]) Livonia *C* [c]) quam et *C* [d]) solicitudinem *C* [e]) Lethowie *B*, Littowie *C* [f]) Medone *C* [g]) Malesine *C* [h]) Thouraxe *B*, Themaxe *C* [i]) comunimus *C* [k]) Myndowe *C* [l]) quaslibet *C* [m]) Maleisine *C* [n]) ac *B* [o]) Livonia *B*, *C* [p]) MCC[mo]LV[to] *B*, millesimo ducentesimo quinquagesimo quinto *C* [q]) mensis *C* [r]) ydus *C* [s]) iullii *C*

[1]) *гл. дак. I.5. Міндаў, кароль Літовіі, просіць папу Аляксандра IV зацьвердзіць дарэньне Селёніі, учыненае ім Ордэну* [2]) Burchardo – *Бурхард фон Горнгузэн, Лівонскі майстар (1257–1260 – Toll.-Schwartz s. 17–19)* [3]) *наконт лякалізацыі гэтых земляў гл. заўв. 2 да дак. I.4* [4]) *Аляксандар IV, папа Рымскі* [5]) Andreas – *Андрэй фон Вэльбэн (Штырлянд), Лівонскі майстар*

Аляксандар, біскуп, слуга слугаў Божых, умілаваным сыном [Бурхарду] майстру і братом шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне.

Калі ад нас просяць справядлівасьці і дабра, то праўда і розум вымагаюць, каб на моцы нашага абавязку мы іх належным чынам зьдзейсьнілі. Паколькі ў пададзеным вамі прашэньні да нас паведамлялася, што найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш М(індаў), найясьнейшы кароль Летовіі, з пабожнай і мудрай шчодрасьцю даў вам у вечнае валоданьне належныя да яго землі Селы, а менавіта Медэн, Пелён, Малейшы і Тэўрагі зь іх прыналежнасьцямі, як больш поўна падаецца ў яго адкрытым лісьце, дзеля гэтага вырабленым і апячатаным ягонай пячацьцю. Мы, схіленыя вашымі просьбамі, прызнаючы сапраўдным і правамоцным тое, што пабожна і мудра ўчыніў той жа кароль, апостальскаю ўладаю гэта завяраем і моцаю дадзенага ліста зацьвярджаем. Зьмест жа яго ліста мы наказалі даслоўна ўпісаць у наш. Зьмест гэты такі:

Найсьвяцейшаму айцу і пану сьвятога Рымскага пасаду, найвышэйшаму пантыфіку Аляксандру, Міндаў, з ласкі Божае кароль Літовіі, [выказвае] сыноўнюю паслухмянасьць і нязьменную любоў, пабожна цалуючы блаславёныя стопы. Калі любыя нам у Хрысьце майстар [Андрэй] і браты Нямецкага дому сьвятой Марыі ў Лівоніі, угаворваючы шчыра і настойліва, паклікалі нас зь цемры паганства, каб разам зь іншымі вернымі Хрыстовымі мы маглі лягчэй спазнаць сьвятло праўды, і дзякуючы іхнай дапамозе слаўнай памяці папа І(нацэнт) IIII, ваш папярэднік, даў адрадзіцца нам праз ласку хроснай купелі і з уласьцівай яму зычлівасьцю наказаў каранаваць нас на караля ўсяе Літовіі, каб мы і нашыя наступнікі

маглі мірна кіраваць гэтым самым каралеўствам, мы ўбачылі, што неабходным для нас і карысным для хрысьціянскай веры будзе зрабіць для [гэтых братоў] нейкія каралеўскія дарэньні. І паколькі памянёныя майстар і браты ў Лівоніі, нашыя нязьменныя паплечнікі і найвярнейшыя абаронцы, гатовыя несьці нам сваю дапамогу, дзеля таго каб яны маглі больш дзейсна дапамагаць нам і каб для выкананьня гэтага ім хапала сродкаў, мы з згоды нашых дзедзічаў далі гэтым жа майстру і братом на вечнае валоданьне зямлю, якая называецца Селы, а менавіта Медэн, Пелён, Малейшы, Тоўрагі з [усім да] іх належным. Пакорна просім вашую міласьць, каб гэтае дарэньне, прадбачліва зробленае намі для названых майстра і братоў, палічыўшы яго зьдзейсьненым, сапраўдным і прымальным, вы мелі ласку зацьвердзіць адкрытым папскім лістом, прызначаючы праз падавальніка гэтага [нашага] ліста майстру і братом Нямецкага дому ў Лівоніі. Дадзена ў год Пана тысяча дзьвесьце пяцьдзясят пяты, у месяцы кастрычніку.

Ніводнаму ўвогуле чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст нашага зацьвярджэньня або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць. Калі ж хто наважыцца нападаць на гэта, то няхай спасьцігне яго кара ўсемагутнага Бога ды яго бласлаўлёных апосталаў Пятра і Паўла.

Дадзена ў Вітэрбо, у III дзень [перад] ліпеньскімі ідамі, у трэці год нашага пантыфікату.

## 20.

**1260 ст. 25. — Ананьі**

*Папа Аляксандар IV зацьвярджае Нямецкаму ордэну ў Лівоніі дзесяціну, саступленую біскупам Хрысьціянам.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У транс., зробленым 7 сак. 1352 у Рызе клерыкам Падэрборнскай дыяцэзіі натарыем Вульфардам фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Госвіна фон Герыкэ, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XI, nr. 7 (B); У транс., зробленым 26 тр. 1388 у Рызе клерыкам Вармійскай дыяцэзіі натарыем Мікалаем Глецэры на запатрабаваньне Лівонскага майстра Нямецкага ордэну Робіна фон Эльч, з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), Schiebl. 17, nr. 18 (C)* — **Выд.:** *a) Dreger. I. s. 429, nr. 315; b) Raczynski. p. 18, nr. 11; c) Bunge. I. sp. 442, nr. 347; d) Narbutt. Pisma. s. 42; e) Seraphim. I.2. s. 77, nr. 87* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 41, nr. 160. s. 116, nr. 454; Bunge. I. Reg. s. 96, nr. 388; Bonnell. s. 73; Strehlke. s. 138; Potthast. II. p. 1446, nr. 17771; Paszkiewicz. I. p. 74, nr. 370* — **Літ.:** *Daniłowicz. I. s. 100, nr. 185.*

Тэкст з *B*

Alexander episcopus, servus servorum Dei, dilectis filiis .. [1] preceptori et .. fratribus hospitalis sancte Marie Theutonicorum [a)] in Lyvonia [b)] salutem et apostolicam benedictionem.

Solet annuere sedes apostolica piis votis et honestis petencium precibus favorem benivolum impartiri [c)]. Exhibita si quidem nobis vestra peticio continebat, quod cum carissimus in Cristo filius noster illustris rex Lettowie [d)] considerans, se de spurciciis paganorum per inspiracionis divine graciam et studium vestre sollicitudinis venisse ad cultum catholice [e)] puritatis ac propter hoc vos prosequens pie benignitatis affectu quasdam terras tunc ad eum pertinentes vobis pia liberalitate donasset, venerabilis frater noster .. [2] episcopus Lettowie [d)] loci dyocesanus [f)], qui nullum capitulum obtinet [g)], diligenter attendens partes illas, que sunt novella plantacio, sine vestre defensionis subsidio non posse subsistere contra impetus paganorum, omnes decimas proventuras in terris eisdem vobis, prout spectabant [h)] ad ipsum,

diligenti prehabita deliberacione concessit, sicut[i] in patentibus litteris confectis exinde plenius dicitur contineri. Nos itaque vestris supplicacionibus inclinati, quod ab eisdem ..[3] rege ac ..[4] episcopo super premissis provide factum est, ratum et firmum habentes id auctoritate apostolica confirmamus et presentis scripti patrocinio communimus. Nulli ergo omnino hominum liceat hanc paginam nostre confirmacionis infringere vel[k] ausu temerario contraire. Si quis autem hoc attemptare presumpserit, indignacionem omnipotentis Dei et beatorum Petri et Pauli apostolorum eius se noverit incursurum.

Datum Anagnie, VIII[l] kalendas februarii, pontificatus nostri anno sexto.

---

20. [a]) Teuthunicorum *C* [b]) Livonia *C* [c]) *так у B,* impertiri *C* [d]) Lettovie *C* [e]) katholice *C* [f]) diocesanus *C* [g]) optinet *C* [h]) spectabat *C* [i]) sicud *C* [k]) vel ei *C* [l]) octavo *C*

[1]) Burchardo – *Бурхард фон Горнгузэн, Лівонскі майстар* [2]) Christianus – *Хрысьціян, біскуп Літовіі* [3]) Mindowe – *Міндаў, кароль Літовіі* [4]) Christiano – *Хрысьціян, біскуп Літовіі*

Аляксандар, біскуп, слуга слугаў Божых, умілаваным сыном [Бурхарду] прэцэптару і .. братом шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі збаўленьне і апостальскае баслаўленьне.

Апостальскі пасад звычайна з прыхільнасьцю і зычлівасьцю прымае пабожныя жаданьні і дастойныя просьбы хадайнікаў. Вось жа ў пададзеным вамі прашэньні паведамлялася пра тое, што найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш, найясьнейшы кароль Летовіі, усьведамляючы, што ад брыдоты паганства праз ласку Божага натхненьня і дзякуючы вашай руплівасьці прыйшоў да шанаваньня каталіцкай чысьціні, і дзеля гэтага адчуваючы да вас шчырую прыхільнасьць, ён з пабожнай зычлівасьцю падараваў вам некаторыя землі, якія ў той час належалі яму. Вялебны ж брат наш [Хрысьціян] біскуп Летовіі, мясцовы дыяцэзіяльны біскуп, які ня мае капітулу, добра бачачы, што тыя краі, якія зьяўляюцца новай пасадкаю, бяз вашай дапамогі і абароны ня могуць выстаяць супроць нападаў паганцаў, пасьля сталага разважаньня саступіў вам, наколькі гэта адносілася да яго, усе дзесяціны, якія будуць пастуpаць з тых жа земляў, гэтак як нібыта падаецца ў ягоным адкрытым лісьце, дзеля гэтага складзеным. Таму мы, схіліўшыся да вашых просьбаў, прызнаючы сапраўдным і прымальным прадбачліва ўчыненае тым жа каралём [Міндавам] і біскупам [Хрысьціянам] у дачыненьні да папярэдняга, нашай апостальскай уладаю гэта завяраем і моцаю гэтага ліста зацьвярджаем. Ніводнаму ўвогуле чалавеку не дазволена парушаць гэты ліст нашага зацьвярджэньня або зь легкадумнай зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць. Калі ж хто наважыцца нападаць на гэта, то няхай спасьцігне яго кара ўсемагутнага Бога ды яго бласлаўлёных апосталаў Пятра і Паўла.

Дадзена ў Ананьі, у VIII дзень перад лютаўскімі календамі, у шосты год нашага пантыфікату.

# 1.

**1268 ст. 20. — Вітэрбо**

*Папа Клімэнт IV дазваляе каралю Багеміі аднавіць каралеўскі пасад у зямлі Летовіі, які быў там пры жыцьці слаўнай памяці караля Міндоты, калі ўдасца вырваць яе з рук паганцаў.*

**Ар.:** — **Коп.:** *У рэг. Клімэнта IV, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 32, f. 189, ep. 139 (R); У Ordensfoliant з XIX ст., Бэрлін, GStAPK (былы KStA), OF 323, nr. 357 (B)* — **Выд.:** *a) Balbinus. VIII. p. 16, nr. 17; b) Lambacher. s. 48; c) Naruszewicz. V. s. 79 (у скароце); d) Voigt. I. p. 161, nr. 156; e) Palacky. nr. 312; f) Boczek. V (Supplementa). p. 249, nr. 35 (з a, пад 1264 г.); g) Theiner. I. p. 79, nr. 151; h) Emler. II, p. 170, nr. 438 (з f, пад 1264 г.). p. 228, nr. 593 (з g); i) Seraphim. I.2. s. 197, nr. 279 (з B)* — **Рг.:** *Bonnell. s. 78; Potthast. II. p. 1629, nr. 20229; Perlbach. s. 209, nr. 769; Jordan. IV. nr. 57; Paszkiewicz. I. p. 96, nr. 468* — **Літ.:** *Voigt. Geschichte. III. 286; Daniłowicz. I. s. 113, nr. 217.*

Тэкст з *R*

.. [1], regi Boemie illustri [2].

In tui magnificentia culminis mater ecclesia quamplurimum delectatur, dum intentis et devotis studiis elaboras statum magnificare fidelium et procurare christiane religionis augmentum. Hoc igitur providentia sedis apostolice digne considerans, tibi per suas litteras olim dicitur concessisse, ut terras, quas de manibus Lituanorum et aliorum infidelium, si tamen Tartaris vel aliis christiani nominis inimicis se, prout ferebatur, dampnabiliter copularant, eriperes, illis dumtaxat exceptis, que ad dilectos filios .. [3] magistrum et fratres hospitalis sancte Marie Teutonicorum vel ad alios Christi fideles pertinebant, ad manus tuas libere posses ac licite retinere. Unde cum, sicut asseris, signo vivifice crucis assumpto, proponas in brevi, favente divina clementia, extento potentie tue brachio procedere contra illos, ac tandem in finibus locorum, que predictis infidelibus remanere contigerit, magnum constituere presidium bellatorum, ad infidelium eorumdem locorum populum saltem per vexationis angustias ad caulam Domini reducendum, nos zelum tue devotionis, qua circa cultum orthodoxe fidei ampliandum fervere dinosceris, tuumque pium in hac parte propositum, utpote laude dignum, multipliciter in Domino commendantes et intendentes te prosequi favoris gratia plenioris, regiis supplicationibus inclinati, de fratrum nostrorum consilio presentium tibi auctoritate concedimus, ut si terram Letowie, de qua predicte sedis auctoritate regnum extitit constitutum, presidente illi clare memorie Mindota [4], qui post receptum baptismatis sacramentum auctoritate apostolica coronatus in regem fuit, tandem a quibusdam perditionis filiis crudeliter interfectus, de manibus inimicorum tuo ministerio eripi, Domino prestante, contigerit, in illa regni solium, sicut prius, erigere libere valeas, ac illius regimini personam fidelem et ecclesie Romane devotam preficere, prout bono statui fidelium et augmento catholice fidei videris utilius expedire. Nolumus tamen per hoc predictis magistro et fratribus hospitalis sancte Marie Teutonicorum, quoad terras, bona et iura spectantia ad eosdem, sive ea teneant, sive ab aliis etiam infidelibus teneantur, in aliquo preiudicium generari. Nulli ergo [5] nostre concessionis etc. [6]

Datum Viterbii, XIII kalendas februarii [7], anno III°.

---

1.

[1]) Přemyslo Otakaro II – *Атакар Пжэмысл II, кароль Багеміі (1253–1278)* [2]) *скар. пачатк. пратаколу (гл. заўв. 2 да дак. II. 1), павінна быць:* Clemens episcopus, servus servorum Dei, carissimo in Christo filio .., regi Boemie

illustri, salutem et apostolicam benedictionem. [3]) Ottonem? – *магчыма, Лівонскі майстар Ота зь Лютэленбэргу (1267–1270 – Toll.-Schwartz. s. 21–22)* [4]) Mindota – *Міндота, іншая форма (з фармантам* -ota*) імя караля Літовіі* [5]) *пасьля* ergo *прапушчаны выраз, які звычайна скарачаецца (гл. заўв. 4 да дак. II.2):* omnino hominum liceat hanc paginam [6]) *праз* etc. *скар. станд. формула пратаколу (гл. заўв. 5 да дак. II.2):* infringere vel ei ausu temerario contraire. [7]) *прапушчана* pontificatus nostri

[Клімэнт, біскуп, слуга слугаў Божых, найдаражэйшаму ў Хрысьце сыну нашаму Атакару], найясьнейшаму каралю Багеміі, [збаўленьне і апостальскае бласлаўленьне].

Маці Касьцёл радуецца тваёй вялікай славе, калі рупліва і пабожна стараешся палепшыць стан вернікаў і паспрыяць узрастаньню хрысьціянскае веры. Вось жа апостальскі пасад, з належнай прадбачлівасьцю зважаючы на гэта, некалі, як кажуць, дазволіў табе сваім лістом вольна і законна затрымаць у сваіх руках землі, якія вырваў бы з рук літвянаў ды іншых няверных, калі толькі яны, згодна з паведамленьнямі, падступна аб'ядноўваюцца з татарамі ці іншымі ворагамі хрысьціянаў, але з выняткам земляў, якія належалі ўмілаваным братом [Ота?] майстру і братом шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну або іншым верным Хрыстовым. Таму калі ты, як сьцьвярджаеш, зьбіраешся неўзабаве, прыняўшы знак жыватворнага крыжа і прасьцягнуўшы руку сваёй магутнасьці, з дапамогаю ласкі Божае вырушыць супроць іх і нарэшце паставіць вялікую заставу з ваярамі на межах мясцовасьцяў, якім выпала застацца ў памянёных няверных, каб прывесьці няверны народ тых месцаў хоць бы і праз нягоды ды пакуты да аўчарні Пана, то мы, ведаючы тваю руплівасьць і адданасьць, зь якімі прагнеш пашыраць вызнаньне сапраўднай веры, і горача падтрымліваючы ў Пану твой пабожны намер у гэтай справе, варты ўсялякай пахвалы, а таксама зьбіраючыся ўдастоіць цябе ласкаю большага спрыяньня, схіліўшыся да [тваіх] каралеўскіх просьбаў і параіўшыся з нашымі братамі, дазваляем табе моцаю гэтага ліста, калі ўдасца тваімі намаганьнямі і з дапамогаю Пана вырваць з рук ворагаў зямлю Летовіі, дзе існавала ўстаноўленае ўладаю памянёнага пасаду каралеўства і на чале яго быў слаўнай памяці Міндота, які пасьля прыняцьця сакрамэнту хросту апостальскай уладаю быў каранаваны на караля, а затым люта забіты нейкімі сынамі здрады, вольна ўстанавіць у ёй каралеўскі пасад, як [было] раней, і паставіць там на каралеўскую годнасьць асобу верную і адданую Рымскаму Касьцёлу, як было б карысьней, на тваё меркаваньне, для дабра вернікаў і ўзрастаньня каталіцкае веры. Аднак мы ня хочам чыніць гэтым нейкую шкоду згаданым майстру і братом шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў дачыненьні да земляў, маёмасьцяў і правоў, ім належных, ці яны самы дзяржаць іх, ці іншыя, нават няверныя. Ніводнаму чалавеку [не дазволена парушаць гэты ліст] нашага дазволу [або зь легкадумнаю зухваласьцю яму супрацьдзейнічаць].

Дадзена ў Вітэрбо, у XIII [дзень перад] лютаўскімі календамі, у III год [нашага пантыфікату].

## 2.

**1298 сак. 30. — Рыга**

*Рыская рада, рыскі капітул ды іншыя сьведчаць пра намер літвінаў навярнуцца ў хрысьціянства.*

**Ар.:** *Пэрг. (31,0 × 12,6 + 2,7), да загіну якога на пэрг. стужках былі прывешаныя 10 васковых пячацяў: ад 5 зь іх захаваліся толькі фрагмэнты, ад 4 іншых – рэшткі пэрг. стужак, ад адной – толькі прорзі ў загіне для прадзяваньня стужкі, Рыга, LVVA, 8. f., 3. apr., kaps. A, 85. l. (B)* — **Коп.:** *Коп. пап. у 4-тамовым рукапісным зборы "Diplomata Rigensia, descripta a I.Ch.Brotze". I, пач. XIX ст., з A, Рыга, LVVA, 8. f., 1. apr., 42. l., 191 lp.*— **Выд.:** *a) SRL. I. s. 753; b) Bunge. I. sp. 714, nr. 570* — **Факс.:** *Факс. з A у 4-тамовым рукапісным зборы "Diplomata Rigensia, descripta a I.Ch.Brotze". I, пач. XIX ст., Рыга, LVVA, 8. f., 1. apr., 42. l., 189 lp.; Фатазд. з B у часопісе Latvijas Arhīvi. 2003. Nr. 2. 14 lp.* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 63, nr. 253; Bunge. I. Reg. s. 169, nr. 652; Bonnell. s. 92; Paszkiewicz. I. p. 151, nr. 738.*

*A напісаны выразным гатычным курсівам, крыху пабляклым, але добра чытэльным. Плямы ад вільгаці, у асноўным вакол згінаў пэргаміну, не зьніжаюць чытэльнасьці тэксту. На адг. пазначкі пазьнейшага часу – зьлева:* Testimonia de baptismo et coronatione Mendowii regis Lithuaniae 1298 3. Cal. Apr., *справа іншаю рукою:* Relatio de baptismo Mendosii (!) et libertate negotiandi in Lithuania, *унізе пад гэтай пазначкаю іншай рукою:* De rege Mindow. *Пячаці былі апісаныя J.Ch.Brotze, які падаў таксама іх выявы ў факсыміле арыгіналу. Пры параўнаньні з гэтым факсыміле выяўляецца, што з таго часу пячаці падвергліся далейшаму разбурэньню і фрагмэнтацыі. Паводле факсыміле і апісаньня J.Ch.Brotze: 1) круглая пячаць Рыскага катэдральнага капітулу зялёнага і белага колераў з выяваю Багародзіцы зь дзіцем у левай руцэ і жазлом у правай на пасадзе паміж дзьвюх зубчастых раманскіх вежаў у небе з зоркамі і надпісам па акружыне, ад якога заставаліся фрагмэнты паасобных літараў. Была абламаная зьнізу і з правага боку на 40%, сёньня абламаная з усіх бакоў на 70%. Ад выявы Багародзіцы бачныя толькі частка тулава і галавы ды ніжняя частка пасаду; 2) круглая пячаць места Рыгі на жоўтым і зялёным воску з выяваю зубчастай гарадзкой сьцяны зь дзьвюма вежамі, паміж якімі крыж і два ключы, разьвернутыя адзін ад аднаго ў бок вежаў, з надпісам па акружыне:* [S]IGILLV[M] BVRGEN. CIV[…]. *Рэшта надпісу і невялікая частка левага боку пячаці былі абламаныя на 5%, сёньня пячаць абламаная зьлева на 10%. Надпіс і выява захаваліся, але больш сьцёртыя; 3) прадаўгаватая пячаць (магчыма, абата Дзюнамюндэ), абламаная зьверху на 70%, на якой была выява духовай асобы з пастырскім посахам, з надпісам па краі. Сёньня пячаці ўжо няма; 4), 5), 7) тады і цяпер застаюцца толькі рэшткі пэрг. стужак, прадзетых у прорзі на загіне; 6) як у той час, так і цяпер наяўная толькі прорзь у загіне; 8) прадаўгаватая пячаць Рыскага канвэнту дамініканцаў белага і зялёнага колераў з выяваю дзьвюх чалавечых постацяў: левая з аголеным торсам і завінутая зьнізу ў покрыва і зь німбам вакол галавы, правая ў плашчы і з аголенымі нагамі, з рукамі, працягнутымі да галавы першай постаці, у правай руцэ прадмет, падобны да келіха, па краі пячаці надпіс, ад якога заставалася толькі:* FRM. PRED. IN RIGA, *правая частка пячаці і верхні рог з працягам надпісу былі абламаныя на 15%. Сёньня ад пячаці захаваліся толькі рэшткі ніжняй часткі і надпісу:* PRE[D], *уся верхняя частка і правы бок абламаныя на 70%. Паводле захаваных экзэмпляраў пячаці поўны надпіс быў гэткі:* S. CONVENTUS FRM. PRED. IN RIGA *(Sigillum fratrum predicatorum in Riga – пячаць канвэнту братоў прапаведнікаў у Рызе); 9) прадаўгаватая пячаць рыскіх францішканцаў зялёнага і белага колераў з выяваю дзьвюх чалавечых постацяў: левая на каленях, паказны палец выпрастанай правай рукі кранаецца аголенага боку постаці, якая стаіць справа, гэтая постаць зь німбам вакол галавы і рукою, працягнутаю як для бласлаўленьня над чалом першай постаці (Паводле J.Ch.Brotze, на фігуры паказаны няверны Тамаш, які ўкладае палец у рану Хрыста), з надпісам па краі пячаці, частка якога была сьцёртая, а частка абламаная разам зь верхнім і ніжнім рогам пячаці на 5%, чыталася толькі:* S. FRATRVM […] [I]N RIGA. *Сёньня захавалася толькі верхняя палова пячаці, а ад надпісу прачытваецца толькі* S. FRA… *Поўны надпіс, паводле J.Ch.Brotze, быў гэткі:* S. FRATRVM MINOR. IN RIGA *(sigillum fratrum minorum in Riga – пячаць братоў меншых у Рызе); 10) круглая пячаць старэйшага пілігрымаў зялёнага і жоўтага колераў з выяваю лацінскага роўнаканцовага крыжа ў цэнтры з надпісам па акружыне:* S. PEREGRINO…, *рэшта надпісу разам зь леваю часткаю пячаці былі абламаныя на 40%. Сёньня пячаць амаль у гэткім жа стане, прачытваецца тая ж частка надпісу, абламана каля 40%. Поўны надпіс, на нашую думку, можа быць гэткі:* S. PEREGRINO[RUM IN RIGA] *(sigillum peregrinorum in Riga – пячаць пілігрымаў у Рызе).*

Тэкст з *A*

Universis Christi fidelibus, presentis pagine receptoribus, consules civitatis Rygensis, pariter et universitas, prior [1] totusque conventus sancte Rigensis ecclesie, abbas Dunemundensis [2], fratres maiores et minores, capitaneus peregrinorum, nec non ipsi peregrini, nuncii civitatum, inibi existentium, in eo, qui neminem vult perire, salutem.

Quoniam secundum theologum: Nichil est summe malum vel tale malum, de quo infinite bonitatis et potentie Deus bonum non eliceat, cuius est exprimere mel de petra oleumque de saxo durissimo; sicut in presenti inter densas tenebras et turbidam eclipsim miseriarum misere ac miserabiliter desolate ecclesie et civitatis Rygensis, per fratres domus Theutonicorum immaniter irrogatas, iubar sancti spiritus erronee secte gentiles, habitantes in regione umbre mortis, limpidius illustravit, ac eorum archana, per astutias et tirannides obducta, hactenus propalavit. Quum diebus istis diversa nuntiorum genera ad dominum nostrum archiepiscopum Rigensem [3], qui per suos nuntios circa eosdem gentiles pro fidei sacramento et pacis federe laboravit, propensius destinarunt, quidam tamen nuntii, licet non vocati, nec sine vite discrimine ad civitatem Rygensem usque pervenerunt, quamvis semper prepediti per sepedictos fratres, quin suos conatus antea nunquam effectui manciparent. Nunc autem, rota versatilis mundi spreta, cupiunt, ad sancte ad [a] matris ecclesie consilia, ritus superstitiosos abdicare, contractus matrimoniales vicissim cum fidelibus inire, et, ut summarie perstringatur, ortodoxe fidei cultu ac pacis vinculo, ut quondam eorundem paganorum rex, nomine Mindou, ab ecclesia coronatus et unctus, qui clericos et religiosos assumpserat, insolubili copula federari, qui etiam gentiles prelibata sensibilibus argumentis ac sacramentis, secundum eorum morem ac pactis inconcusse servandis, coram nobis omnibus supra nominatis ac aliis diversarum nationum, qui ad insigne effluxerant spectaculum, vallaverunt, quibus letanter peractis dicebant iidem nuntii: O quanto excessivo mentis tripudio rex noster hec, cum ista perceperit, amplectetur! In huius rei et facti testimonium presens scriptum sigillorum nostrorum ac religiosorum et omnium suprapositorum munimine roboramus.

Datum anno dominice incarnationis M°CC°XC°VIII°, tercio calendas aprilis.

---

**2.** [a]) *памылкова паўторана A*

[1]) Io(annes)? – *магчыма, прыёрам яшчэ заставаўся Ёган, згаданы ў ліку сьведкаў ліста Рыскага арцыбіскупа Ёгана II фон Фэхтэн ад 5 лют. 1294 (Bunge. I. sp. 689, nr. 550)* [2]) Alexander? – *магчыма, абатам быў Аляксандар, згаданы ў лісьце Рыскага арцыбіскупа Ёгана III з Швэрыну і Дорпацкага біскупа Бэрнарда да папы ад 16 вер. 1297 (Bunge. I. sp. 712, nr. 568)* [3]) Johannem – *Ёган III, граф з Швэрыну, Рыскі арцыбіскуп (1295–1300)*

Усім верным Хрыстовым, атрымальнікам гэтага ліста, райцы места Рыскага, а таксама ўся супольнасьць, прыёр і ўвесь канвэнт сьвятога Рыскага касьцёлу, Дзюнамюндзкі абат, браты большыя і меншыя, старэйшы пілігрымаў і самы пілігрымы, прысутныя там паслы местаў, збаўленьне ў Тым, Які не жадае, каб хтосьці загінуў.

Паколькі згодна з тэолягамі няма нічога, што было б найбольшым злом або гэткім злом, зь якога Бог бязьмежнае дабрыні і магутнасьці не здабыў бы добрага, бо ён можа выціснуць мёд з скалы і алей з найцьвярдзейшага каменю, гэтак і цяпер у непрагляднай цемры ды ў бурлівай зацьме няшчасьцяў гаротнага і бязьлітасна спустошанага касьцёлу і места Рыскага, акрутна спрычыненых братамі Нямецкага дому, зьзяньне Духа Сьвятога ясьней асьвятліла паганцаў аблуднае сэкты, што жывуць

у краіне сьмяротнага ценю, і ўжо раскрыла іх таямніцы, схаваныя хітрасьцю і тыраніяй. Бо ў гэтыя дні ахвотней выправіліся розныя паслы да нашага пана Рыскага арцыбіскупа, які праз сваіх пасланьнікаў працаваў з тымі ж паганцамі дзеля [прыняцьця] таемстваў веры і мірнай дамовы, але тыя ж паслы, нават не закліканыя, і зь небясьпекаю для жыцьця прыйшлі да самага места Рыскага, хоць ім заўсёды перашкаджалі часта згадваныя браты, якія ніколі раней не давалі зьдзейсьніцца іхным намерам. А цяпер, пагардзіўшы зьменлівым лёсам сьвету, яны хочуць з парады сьвятой маці Касьцёлу адмовіцца ад забабонных абрадаў, пабрацца сужэнскімі шлюбамі зь вернымі і, згодна з абавязацельствам, паяднацца зь імі непарыўнай повязьзю дамовы, вызнаючы сапраўдную веру і захоўваючы ўмовы міру, як некалі кароль тых жа паганцаў імем Міндаў, які быў каранаваны і памазаны Касьцёлам ды прыняў [да сябе] духоўных асобаў і мніхаў. Гэтыя ж паганцы пацьвердзілі раней сказанае відавочнымі доказамі і сакрамэнтамі, якія паводле іхнага звычаю і дзеля непарушнага захаваньня дамоваў [яны ўчынілі] перад усімі намі, памянёнымі вышэй, ды іншымі асобамі з розных краінаў, што сабраліся на незвычайнае відовішча. З радасьцю справіўшы гэта, тыя ж паслы казалі: "О як моцна цешылася б душа караля нашага, калі б ён гэта бачыў". На сьведчаньне пра гэтую справу і чын зацьвярджаем дадзены ліст моцаю пячацяў нашых, а таксама пячацямі мніхаў і ўсіх памянёных вышэй.

Дадзена ў год уцелаўленьня Панскага MCCXCVIII, у трэці дзень перад красавіцкімі календамі.

# 3.

**[пач. 1310]**

*З мэмарыялу пракуратара Нямецкага ордэну (хутчэй за ўсё, Конрада Бруэля), дадзенага ў адказ на абвінавачваньні з боку Рыскага арцыбіскупа Фрыдэрыка ды інш.*

**Ар.:** — **Коп.:** *На пэрг. сувоі з XIV ст., з A, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. VI, nr. 1 (B)* — **Выд.:** *a) Hennig. VII. s. 145 (гэты ж урывак); b) Voigt. Geschichte. IV. s. 240 (гэты ж урывак і іншыя месцы дак.); c) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 32 (гэты ж урывак); d) SRL. I. 753 (гэты ж урывак); e) Seraphim. Zeugenverhor. s. 179 (увесь дак.); f) Hein.-Maschke. II.1. s. 1, nr. 1(іншыя месцы дак.)* — **Рг.:** *Napiersky. I. s. 67, nr. 264; Bunge. II. Reg. s. 15, nr. 714, VI. Reg. s. 32; Paszkiewicz. I. p. 163, nr. 790.*

*B на пэрг. сувоі 253×24, які складаецца з чатырох разрэзаных уздоўж і склееных разам у няправільнай пасьлядоўнасьці пэрг. аркушаў, сьпісаных з аднаго боку адною рукою выразным гатычным курсівам XIV ст. Пачатак дак. адсутнічае, стары архіўны нумар* II *на адг. пэрг. можа паказваць, як лічыў Napiersky. I. s. 67, nr. 264, на тое, што гэта другая частка дак., а першая павінна была мець нумар* I. *Дак. ня мае даты. Захаваная частка дакумэнту зьмяшчае 307 артыкулаў. Нумарацыя артыкулаў, якой трымаемся і мы, зроблена ў публікацыі Seraphim. Zeugenverhor. Прыблізна датаваны Hein.-Maschke. II.1. s. 1, nr. 1 на падставе дадзеных у тэксьце.*

Тэкст з *B*

... [241] Item ponit et probare intendit dictus procurator nomine quo supra, quod Mindaw olim rex Lytovie venit ad curiam Romanam et quod in Romana curia baptisatus est cum quibusdam suis familiaribus.

[242] Item quod dictus rex reddiit [a] ad regnum Lytovie.

[243] Item quod Lytuini statim dicto rege reverso pro eo, quod baptismum receperat ipsum regem et omnes, qui cum eo facti sunt christiani occiderunt.

[244] Item quod in dicto regno cessaverunt esse episcopi, presbyteri, fratres minores et predicatores.

[245] Item quod preceptor et fratres dicti ordinis per Lyvoniam et Prussiam constituti nunquam prohibuerunt fratribus predicatoribus, minoribus et aliis clericis ne ipsi irent ad predicandum fidem catholicam infidelibus. ...

---

**3.** [a]) *так у B, трэба чытаць* rediit

... [241] Таксама сьцьвярджае і намерваецца давесьці памянёны пракуратар зь імем як вышэй, што Міндаў, колішні кароль Літовіі, прыбыў да Рымскай курыі і ў Рымскай курыі быў ахрышчаны зь некаторымі сваімі блізкімі.

[242] Таксама, што памянёны кароль вярнуўся на каралеўства ў Літовіі.

[243] Таксама, што літвіны адразу ж, калі памянёны кароль вярнуўся, за тое, што ён прыняў хрост, забілі самога караля і ўсіх, якія разам зь ім сталіся хрысьціянамі.

[244] Таксама, што ў згаданым каралеўстве ня стала біскупаў, прэзьбітэраў, братоў меншых і братоў прапаведнікаў.

[245] Таксама, што прэцэптар і браты памянёнага ордэну, пастаўленыя ў Лівоніі і Прусіі, ніколі не перашкаджалі братом прапаведнікам, [братом] меншым ды іншым духоўным асобам ісьці прапаведваць каталіцкую веру няверным. ...

## 4.

**1310 чэрв. 19. — Авіньён**

*Папа Клімэнт V даручае Брэмэнскаму арцыбіскупу Ёгану і Равэнскаму каноніку майстру Альбэрту зь Міляну правесьці расьследваньне цяжкіх правінаў ды іншых злачынстваў Нямецкага ордэну супроць Касьцёлу.*

**Ар.:** *Пэрг. (78,5 × 53,5 + 6,5), алавяная (plumbea) була Клімэнта V, прывешаная на канапляным шнурку, Кракаў, BCz, sz. 2, nr. 85* — **Коп.:** *У рэг. Клімэнта V, Ватыкан, ASV, Reg.Vat. 57, f. 113v, ep. 412 (R)* — **Выд.:** *a) Długosz. Lib. 9. p. 62; b) Dogiel. V. p. 33, nr. 37; c) Napiersky. Commentarius. s. 8; d) Bunge. II. sp. 47, nr. 630; e) Theiner. I. p. 119, nr. 204; f) Perlbach. Pommerellisches Urkundenbuch. s. 605, nr. 687; g) Regestum Clementis V. s. 169, nr. 5544; h) Seraphim. Zeugenverhör. s. 167; i) Simson. IV. s. 28, nr. 64; k) Hein.-Maschke. II. s. 6, nr. 13* — **Рг.:** *Bunge. II. Reg. s. 24, nr. 728. VI. Reg. s. 33; Bonnell. s. 102; Lemmens. Franciskanerkustodie. s. 111, nr. 408; Paszkiewicz. I. s. 168, nr 813* — **Літ.:** *Wadding. VI. s. 174; Voigt. Geschichte. IV. s. 245, 612; Caro. II. s. 61; Perlbach. Vorgeschichte. s. 555; Abraham. I. s. 150; Haller. s. 131; Seraphim. Zeugenverhör. Einleitung. s. II; Lemmens. Geschichte. s. 61; Lemmens. Franciskanerkustodie. s. 405, 408; Simson. I. s. 45; Friedrich. s. 33; Tymieniecki. s. 82; Roth. s. 100, 140.*

*A напісаны выразным каліграфічным канцылярскім гатычным курсівам. Сьляды разьліноўкі. Пазначкі і надпісы: пад тэкстам* LXXX, *на загіне справа* pro Io[anne] et A[lberto] de [...] non bene sano *і ніжэй* Io[anni] de [...]. *На адгорце* Transsumpta est per aud. [...] *і пазьнейшыя пазначкі* Clementis V annos *далей* Pontificatus 5-o *затым* Livoniae No 57 *і* No 43, Revisum 1730. *Да сярэдзіны загіну пэргаміну на канапляным шнурку прывешаная алавяная була.*

Тэкст з *A*

Clemens [a)] [1] episcopus, servus servorum Dei [a)], venerabili fratri Iohanni, archiepiscopo Bremensi [2], et dilecto filio magistro Alberto de Mediolano, canonico Ravennatensi, capellano nostro, salutem [b)] et apostolicam benedictionem [b)].

In vinea domini licet immeriti cultores positi et custodes, sic in ipsius culture salubrisque custodie nos debemus ministeriis exercere, ut in ipsa infatigabiliter operantes, extirpandis vitiorum spinis et peccatorum tribulis, que superficiem eius interdum obumbrare conantur, necnon plantandis virtutum germinibus, in quibus altissimus delectatur, fervore spiritus et diligenti sollicitudine intendendo, ipsam ab illis presertim offensionum discriminibus tueamur, que sub pietatis specie cautius subintrantes difficilius precaventur. Sane tam predecessorum nostrorum Romanorum pontificum, quam nostris continuatis successive temporibus ex clamore valido et insinuatione famosa ad audientiam sedis apostolice est deductum, quod preceptores et fratres hospitalis sancte Marie Theotonicorum, ad hec solum per sedem eandem in Rigensi, Livonie et Pruscie provinciis constituti, ut ecclesias ac personas ecclesiasticas aliosve catholice fidei professores vallo fortitudinis munientes, ipsos a paganorum et scismaticorum tueantur incursibus, et ad dilatandum ibi catholice fidei nomen et cultum iugiter elaborent, in gravem proth dolor nostri Redemptoris iniuriam, fidelium cunctorum obprobrium et eiusdem fidei detrimentum facti sunt hostes domestici et familiares sunt redditi inimici, non insurgentes pro Christi nomine adversus hostes fidei, sed in eorundem favorem, quod stupet auditus, variis calliditatum generibus dimicantes potius contra Christum, ad id precipue, prout evidentia facti ostendere dicitur, intendentes, ut ecclesiis omnibus earumque facultatibus aliisque bonis fidelium dictarum partium eorum usibus applicatis, in rerum amplitudine contabescant, propter quod, dimissa Christi militia, immo [c)] contra Christi fideles armis nequitie bellum miserabile conserentes [d)], nonnullos archiepiscopos, qui fuerunt pro tempore, aliosque prelatos et personas ecclesiasticas in dignitatibus constitutas illarum partium, non absque iniectione manuum in ipsos, Dei timore postposito, temere, violenta, detestabili et sacrilego ausu capere, diris mancipare carceribus, et alias eis graves corporales afflictiones inferre dampnabiliter presumpserunt, ac de quatuordecim ecclesiis suffraganeis, quas Rigensis ecclesia metropolis partium earundem habere consueverat, septem totaliter deleverunt, septem aliis in tali statu dimissis, ut plus sint dedecori et pudori decentie pastoralis, quam si penitus non adessent. Nam de quatuor earum eiectis canonicis, in eis canonice institutis, fratres sui ordinis pro canonicis in dictis ecclesiis locaverunt, quos in eisdem de facto instituunt et destituunt sicut volunt, et tales eorum confratres pro canonicis se gerentes eligunt in episcopos, quos iidem preceptores et fratres mandant de suis confratribus eligendos, electi vero taliter falsa, immo verius, confirmatione [e)] aliqua non [e)] obtenta [f)] in episcopos se faciunt consecrari, nullam obedientiam eidem Rigensi ecclesie locorum metropoli facientes. In residuis autem tribus cathedralibus ecclesiis vacantibus intrudunt personas, quas volunt, etiam minus dignas, de quibus per potentie sue abusum electionem faciunt celebrari, ac de modo et forma electionum huiusmodi, nulla examinatione premissa, per antedictos fratres sui ordinis pro episcopis se gerentes [g)] electos huiusmodi in episcopos faciunt consecrari. Omnia bona earundem ecclesiarum, que insignes consueverant habere pontifices cum solennibus capitulis, latis et magnis facultatibus et redditibus habundantes, propriis usibus non absque pernitioso earundem ecclesiarum dispendio enormiter applicando, seque, ut liberius in predictam metropolim et ecclesias, ceterosve prelatos et fideles provinciarum et partium predictarum valeant desevire, eorumque munitiones, castra, terras, iurisdictiones et iura proprie subicere [h)] dicioni, eisdem

paganis nequam amicitie federe unientes [j], ac publicum eis adversus dictos fideles impendentes auxilium, consilium et favorem, ferrum, arma, equos et alia mercimoniorum genera, per que dicti pagani fideles eosdem possint acerbius impugnare, vendunt et per alios ipsis vendi permittunt, quodque gravius est, iidem preceptores et fratres non solum a confinibus eorundem paganorum, in quibus contra illorum incursus debuissent se murum defensionis opponere, in detrimentum fidelium recesserunt, sed quoddam castrum eiusdem Rigensis ecclesie eisdem paganis pro certa quantitate pecunie venundantes. Regnum Plochech [k], quod quondam rex Plochensis [l] ad fidem Christi conversus, prolem non habens legitimam, eidem ecclesie Rigensi contulerat pro anime sue salute, dictis paganis non absque iactura multitudinis innumerose fidelium dimiserunt, cuius occasione due solennes cathedrales, Zeloviensis [m] [3] videlicet et Rutheniensis [n] [4] ecclesie consistentes in regno predicto totaliter sunt delete, quibus castro et regno ad manus dictorum infidelium taliter devolutis, dicti pagani, a locis confinium repulsis fidelibus, magnam partem dictarum provinciarum tunc fidelium multitudine populosam [o] in solitudinem redegerunt, eisdem fidelibus partim peremptis gladio, partim eorundem paganorum miserabili iugo suppositis perpetue servitutis, quodque detestabilius est, si quando iidem preceptores et fratres offendendi paganos sub cuiusdam umbre pallio velint ostendere se gerere voluntatem, illos fraudulenter impugnant, ut ex eorum facto fideles atrocius impugnentur, eosdem paganos ex tenuis prede dampno modico ad destruendum reliqua castra eiusdem Rigensis provincie pravis nocendi artibus irritantes. Fertur etiam de ipsis execrabile facinus, dirum nephas, quod cum rex paganorum [5] cum suis subditis fuisset ad fidem Christi conversus, ac diversos episcopos successive et presbyteros seculares ac fratres predicatorum et minorum ordinum in toto regno suo ordinasset ad extirpationem errorum et illuminationem ac plantationem orthodoxe fidei permansuros, iidem preceptores et fratres, pro pudor! velut eiusdem fidei subversores quosdam eorundem episcoporum, presbyterorum et fratrum exinde deici, quosdam vero interfici latentibus et occultis studiis procurarunt, et taliter pagani etiam ad fidem conversi, lumine veritatis abiecto, errores, proth dolor! pristinos resumpserunt, et sic quondam Lechoniensis [p] ecclesia cathedralis, in dicto regno consistens, cum sua civitate et diocesi non absque multorum fidelium animarum et corporum deplorando periculo miserabiliter fuit deleta. Populum etiam christianum terre Semigallie habentem episcopum et presbyteros orthodoxos, qui eis sacramenta ecclesiastica ministrabant, iidem preceptores et fratres totaliter deleverunt, nobiliores eiusdem terre, quos ad convivium invitarant, proditionis infande sevitia mutilatione capitum perimentes, reliquam multitudinem populi dicte terre, ultra quam centum milia fidelium utriusque sexus, ad terras paganorum crudeliter profugarunt, dictique fideles eorundem paganorum in depressionem fidei perpetue sunt redditi servituti, propter quod episcopatus Semigallie, qui per septem dietas amplam diocesim obtinebat, totaliter de medio fuit sublatus, et ut omnino impediatur ampliatio fidei in partibus prelibatis, et proponendi verbum Dei facultas quelibet subducatur, ex eo, quod fratres ordinis minorum castri Brunsberg eiusdem Rigensis provincie predicationi dictorum paganorum instantes verbum Dei continue diffundebant, ac quidam frater dicti ordinis iugiter per paganos discurrens, virtute verborum et operum coruscando, die quolibet multos paganos cognitione vere fidei illustratos sacre regenerationis lavacro innovabat, eisdem fratribus minoribus de dicto loco ignominiose deiectis, eundem locum funditus destruxerunt, nullos omnino eiusdem verbi predicationi insistere permittentes, ecclesias quoque, oratoria et capellas edificari pro neophitis non permittunt, ita quod dicti neophiti in rudimentis fidei non instructi, ac in ecclesiis cum orthodoxis participium non habentes, nec in fide, nec in moribus fidelibus sunt conformes. Pessimum etiam ritum eorundem paganorum sectantes,

confratres suos, si quos contingit interdum in hostili congressu vel conflictu aliquo vulneribus sauciari, contra morem eiusdem fidei orthodoxe, priusquam expirent, impietate quadam sevissime feritatis extingunt, eorum corpora flammarum incendio concremando. Ac ut premissa et alia eorum detestabilia scelera eiusdem sedis effugiant notionem, universos fideles, clericos et laicos, cuiuscunque dignitatis aut status existant, ad exponendum querelas de ipsis, tantarum persecutionum necessitate cogente, ad sedem apostolicam accedentes crudeliter persecuntur, mortem eis per se et alios inferendo, sicut hec in personis quondam magistri Alesii[q], doctoris decretorum, plebani plebis Thorunensis, et aliorum quam plurium, quos redeuntes de Romana curia, ad quam venerant contra eos, crudeliter occiderunt, dicuntur liquido apparere. Nec dum finem premissis enormitatibus imponentes, sed mali esse et boni credi sub pallio ignorate nequitie cupientes, passus et itinera debita, per que de civitate Rigensi exitus et reditus ad eandem quadam necessitate inevitabili peraguntur, sub ea faciunt custodia detineri, ut non nisi personis, quas volunt, gressus ex ea pateat vel regressus, sicque dicta civitas exitum et reditum liberum non habendo, cuiusdam obsidionis anguste dispendia cogitur deplorare, ad quam quidem obsidionem, preclusis itinerum quorumcunque vestigiis, fortius angustandam quoddam castrum a superiori parte, ac portum monasterii Dunamundensis Cisterciensis ordinis eiusdem Rigensis diocesis, in quo eadem Rigensis ecclesia ius obtinet patronatus, ab inferiori parte eiusdem civitatis consistentia, absque quibus civitatem eandem nec per terre, nec per maris vestigia nullus potest ingredi vel exire, quoddam[r] illicito emptionis titulo, cum monasteriorum alienatio sacris prohibita sit canonibus, et etiam ipsius monasterii Dunamundensis per pie memorie Gregorii pape VIIII predecessoris nostri privilegium speciale cuiuslibet alienationis contractus foret specialiter interdictus, temeritate propria occuparunt et detinent occupata, propter que in eisdem provinciis, in quibus ecclesiam suam fetu nove prolis ad fidem converse Dominus ampliabat, familiari peste intestinam exercente sevitiam, non solum fides radicata et fundata non proficit, sed ex persecutione domestica deficit et, nisi celeri occurratur remedio, nomen ibi deperit christianum. Novissime vero ad nostrum pervenit auditum, quod dicti preceptores et fratres hospitalis eiusdem dilecti filii nobilis viri Wladislai Cacrovie[s] et Sandomirie ducis terram hostiliter subintrantes, in civitate Gdansco ultra decem milia hominum gladio peremerunt, infantibus vagientibus in cunis mortis exitium inferentes, quibus etiam hostis fidei pepercisset. Iidem quoque preceptores et fratres quam plura alia detestanda dicuntur committere, quorum series se nimis extenderet, si singulariter singula presentibus clauderentur. Nos igitur, qui disponente Domino eiusdem dominice vinee regimini[t] presidemus, desiderantes, ut in ea virtutum palmites convalescant, succisis tribulis vitiorum, attendentes quoque, quod premissa, que de dictis preceptoribus et fratribus referuntur, utpote perniciosa et fidei nostre contraria, immo cunctorum Christi fidelium cordibus inimica, sub dissimulatione transire salva conscientia nequeamus, considerantes etiam, quod in talibus debite correctionis differre remedium nichil esset aliud, quam licentiam sceleribus indulgere, discretionem vestram, de quorum circumspectionis industria plenam in Domino fiduciam obtinemus, hortandam attente duximus et monendam, vobis per apostolica scripta districte precipiendo mandantes, quatinus ad partes illas, seu ad loca illarum partium, que vobis pro executione huiusmodi negotii videri poterunt magis apta, vos personaliter conferentes et habentes pre oculis solum Deum, contra predictos preceptores et fratres eiusdem hospitalis in dictis provinciis et partibus consistentes super premissis omnibus et singulis, necnon super articulis, quos sub bulla nostra vobis destinamus inclusos, ac super aliis criminibus et excessibus, super quibus eos inveneritis publice diffamatos, inquiratis diligentius veritatem, eaque diligenter et sollicite inquisita, quecunque inveneritis,

in scriptis redacta ac sufficienter instructa nobis sub sigillis vestris procuretis fideliter intimare. Ceterum castrum et monasterium Dunamundense, quod dicti preceptores et fratres, ut premittitur, sub cuiusdam emptionis colore detinent occupatum, per eosdem preceptores et fratres facientes expeditum et liberum omnino dimitti, ipsum usque ad eiusdem sedis beneplacitum prefate sedis nomine teneri, ac per personas ydoneas et fideles, quas ad hoc eligendas industria vestra perspexerit, faciatis cum diligentia custodiri. Ut autem ad premissorum executionem eo liberius intendere valeatis, quo maiori fueritis per nos [u] auctoritate muniti, vobis invocandi ad premissa omnia et singula exequenda, ubi et quando expedire cognoveritis, tam prelatorum, quam etiam principum et aliorum secularium, cuiuscunque conditionis vel status existant, vel quacunque dignitate prefulgeant, auxilium et succursum. Contradictores quoque et rebelles, necnon testes, quos ad hoc duxeritis convocandos, per excommunicationis, suspensionis et interdicti, necnon privationis privilegiorum eisdem concessorum a sede predicta, sententias compescendi tam de duabus dietis in concilio generali quam de aliquo extra suam civitatem et diocesim, nisi in certis exceptis casibus, et [v] illis ultra unam dietam a fine sue diocesis ad iudicium non vocando, et aliis quibuscunque constitutionibus, que vestre possent in hac parte iurisdictioni vel potestati, eiusque libero exercitio quomodolibet obviare, aut si testes, quos ad hec evocari contigerit, fuerint predicatorum vel minorum aut aliorum ordinum quorumcunque, vel si predictis ordinibus a predicta sede indultum existat, quod predictorum ordinum fratres ad perhibendum testimonium in quibuscunque causis vel negotiis compelli non possint, seu si dictis preceptori [x] et fratribus ab eadem sit sede indultum, quod excommunicari, suspendi vel interdici non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam, ac de verbo ad verbum de indulto huiusmodi mentionem, et quibuslibet aliis indulgentiis, privilegiis et litteris apostolicis quibuscunque in quacunque forma verborum concessis, per que presentibus non expressa vel totaliter non inserta premissorum executio possit quomodolibet impediri, nequaquam obstantibus, plenam vobis concedimus tenore presentium facultatem. Quod si non ambo hiis exequendis potueritis interesse, alter vestrum ea nichilominus exequatur.

Datum Avinione, XIII kalendas iulii, pontificatus nostri anno quinto.

---

**4.** [a-a]) *адс. R* [b-b]) *адс. R* [c]) nunc *R* [d]) conferentes *R* [e-e]) *нап. па сьцертым інш. поч., цёмна-карычн. атр. A* [f]) obt *нап. па сьцёртым інш. поч., цёмна-карычн. атр. A* [g]) gerentibus et *R* [h]) *далей памылкова ўстаўлена* servituti *R* [i]) inientes *R* [k]) Plothech *R* [l]) Plothensis *R* [m]) *відаць, трэба чытаць* Zeloniensis. *Гл. Abraham. I. s. 151, хоць Seraphim. Zeugenverhör. s. 169 прапануе чытаньне* Czeloviensis. *Дзьве першыя літары слова ў A напісаныя па сьцертым, відаць замест* Go, Goloviensis *R,* Zeloviensis *a* [n]) Pucheniensis *R,* Ruthenensis *a* [o]) copiosam *R* [p]) Lethoviensis *R, a* [q]) Alexii *R* [r]) quodam *R* [s]) *так у A, R, трэба чытаць* Cracovie [t]) *адс. R* [u]) per nos fueritis *R* [v]) et in *R* [x]) preceptoribus *R*

[1]) *Клімэнт V, Рымскі папа (1305–1314)* [2]) *Ёган I Гранд, Брэмэнскі арцыбіскуп (1308–1327)* [3]) *Селёнскае біскупства, якое было заснаванае ў 1218 г. на тэрыторыі зямлі Селёніі, падпарадкаванай Полацкаму княству. Першым яго біскупам стаў Бэрнард. Гл. Bender. p. 11–12* [4]) *Русінскае біскупства, якое існавала на тэрыторыі Полацкага княства ў 1240–1250-х гг. і ў 1255 г. было ўключанае ў склад настворанай Рыскай мэтраполіі. Гл. Theiner. I. p. 61, nr. 124* [2]) Mindowe – *відавочна, Міндаў, кароль Літовіі*

Пераклад двух урыўкаў, датычных каралеўства П(о)лотэк і караля Міндава

...Каралеўства П(о)лотэк, якое П(о)лоцкі кароль, навернуты да хрысьціянскае веры, ня маючы законных нашчадкаў, калісьці перадаў таму ж Рыскаму касьцёлу дзеля збаўленьня сваёй душы, яны [браты Нямецкага ордэну] пакінулі памянёным паганцам, і з гэтай прычыны два выдатныя катэдральныя касьцёлы, а менавіта Зелёнскі і Русінскі, якія існавалі

ў згаданым каралеўстве, былі цалкам зьнішчаныя. А пасьля таго як гэты замак і каралеўства такім чынам перайшлі ў рукі паганцаў, названыя паганцы, выгнаўшы з памежных мясьцінаў верных, абярнулі ў пустку большую частку тых краёў, заселеную ў той час вялікай колькасьцю верных, а самых гэтых верных часткова перабілі мечам, а часткова аддалі пад ганебнае ярмо вечнай няволі...

Апавядаюць таксама пра іхнае гнюснае злачынства, страшны грэх, што калі кароль паганцаў разам з сваімі падданымі быў навернуты да веры Хрыстовае, і затым паставіў ва ўсім сваім каралеўстве асобных біскупаў і сьвецкіх прэзьбітэраў, а таксама братоў Ордэну прапаведнікаў і меншых братоў, якія павінны былі застацца там на выкараненьне аблудаў, прасьвятленьне і насаджэньне сапраўднай веры, тыя ж прэцэптары і браты [Нямецкага ордэну], о ганьба, як руйнавальнікі той жа веры пастараліся некаторых з гэтых біскупаў, прэзьбітэраў і братоў схаванымі, таемнымі захадамі адтуль выгнаць, а некаторых нават забіць. І такім чынам паганцы, нават навернутыя да веры, адкінуўшы сьвятло праўды, о гора, зноў прынялі даўнія аблуды, а былы Летоўскі катэдральны касьцёл, які існаваў некалі ў памянёным каралеўстве, разам з сваім местам і дыяцэзіяй з годнаю шкадаваньня небясьпекаю для душаў і целаў многіх вернікаў быў акрутна зруйнаваны. ...

## 5.

**[1312 лют.–ліп. — Рыга]**

*З пратаколу допыту сьведкаў, учыненага папскім інквізытарам Францішкам дэ Маліяна ў справе злоўжываньняў Нямецкага ордэну.*

**Ар.:** — **Коп.:** *На пэрг. сувоі з XIV ст., з А, Бэрлін, GStAPK (былы KStA), L.S. Schiebl. XLI, nr. 7 (B)* — **Выд.:** *a) Voigt. Geschichte. III. s. 179 (урыўкі); b) Narbutt. Dzieje. IV. Dodatki. s. 32 (урыўкі), c) Bunge. II. sp. 63, nr. 638 (урывак); d) Seraphim. Zeugenverhör. s. 1 (увесь дак.); e) Hein -Maschke. II.1. s. 54, nr. 86 (урыўкі)* – **Рг.:** *Napiersky. I s. 71, nr. 277; Bunge. II. Reg. s. 28, nr. 737; Bonnell. s. 103; Lemmens. Franciskanerkustodie. s. 79, nr. 45; Paszkiewicz. I. p. 172, nr 829.*

*В гэта няпоўная копія, сьпісаная, на доўгім пэрг. сувоі 2490 × 28,3, сшытым з пэрг. аркушаў рознай даўжыні, які затым распаўся на некалькі частак; з пачатку, з канца і зь іншых частак сувою былі адарваныя і страчаныя асобныя аркушы. Захаваная рэшта з 34 пэрг. аркушаў утрымлівае адказы 16 сьведкаў на 230 абвінавачых артыкулаў супроць Нямецкага ордэну. Адказы 9 сьведкаў (VI, VII, XVII, XVIII, XIX, XX, XXI, XII, XXIII) дайшлі цалкам, 7 іншых((I), V, VIII, XII, XIII, XVI, XXIV) – у фрагмэнтах. Артыкулы I–XXV абвінавачваньняў супроць Ордэну перагукаюцца з закідамі, выкладзенымі ў дак. III.4. Напісаны выразным гатычным курсівам. Нумары сьведкаў выпісаныя на левым полі рукапісу. Аркушы на адгорце пазначаныя вялікімі літарамі лацінскага альфабэту і рымскімі лічбамі. На адгорце аркуша V рукою XV ст. напісана:* Dicta testium super iniuriis illatis archiepiscopis et ceteris prelatis ecclesiarum necnon supra depredacione bonorum ecclesiasticorum a fratribus ordinis in Livonia.

Тэкст з *B*, урыўкі

...Die XIIII eiusdem mensis martii

VI testis. Discretus vir dominus Henricus Langueman capellanus Osiliensis...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item, quod cum rex" dixit, quod fuit et est publica fama in Lyvonia de hiis, que in articulo continentur, scilicet, quod rex in articulo nominatus

fuit christianus et habuit clericos et modo errores pristinos servat, sed de aliis contentis in articulo nescit. ...

Die XX eiusdem mensis martii

VII testis. Religiosus vir frater Henricus prior monasterii in Wilchenna [1] ordinis Cisterciensis...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici a pueritia sua et usque nunc, et fama fuit et est in provincia Lyvonie de hiis, que in articulo continentur, et dixit, quod ille rex, de quo in articulo fit mentio, vocabatur Mindo. ...

Item super XXXI articulo, qui sic incipit: "Item quod rex", dixit, quod nichil aliud sciebat de hiis, que in articulo continentur, nisi quod rex Lyvonie [a)] et regnum eius fuerunt ad fidem conversi et habuerunt prelatos, sed postea apostarunt a fide et in huiusmodi errore persistunt, et hoc dixit, quod sciebat, quia audiverat dici ab antiquioribus de provincia Lyvonie. ...

Die IIII[ta] mensis aprilis

VIII testis. Frater Iacobus de Wasfalia [2] monachus monasterii de Walchenna [1] ordinis Cisterciensis diocesis Tarbatensis...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici, quod rex paganorum fuit a [b)] fide [b] conversus et coronatus per dominum papam et quod propter iniurias eidem regi et subditis suis illatas per fratres apostatavit a fide, sed de aliis, que in articulo continentur, dixit se nescire. ...

Die XXIII eiusdem mensis maii

XIII testis. Religiosus vir frater Daniel prior ordinis predicatorum in Tarbato...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici quod rex Lethovie quondam Mindo nomine fuit conversus ad fidem catholicam et quod fratres hospitalis predicti quedam dampna fecerunt cuidam ipsius regis nepoti, et quia noluerunt satisfacere pro dampnis huiusmodi ipsi regi seu nepoti eius, ipse rex apostatavit a fide, de aliis vero que in huiusmodi articulo continentur dixit se nescire. ...

Die XIIII eiusdem mensis iunii

XVII testis. Religiosus vir frater Bertholdus ordinis fratrum predicatorum in Riga...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici, quod quidam rex fuit in Lethovia, qui fuit christianus nomine Mindo et quod vidit quendam clericum, qui fuit magister ipsius testis, qui clericus fuerat clericus regis predicti et quod audivit dici a quodam mercatore, quod rex ille apostatavit a fide ob istam causam, videlicet, quod cum dictus rex haberet quendam suum avunculum strenuum in armis et ille mitteret familiam suam cum quibusdam mercibus versus partes fidelium, quod fratres predicti illas merces predictas familie abstulerunt, unde dictus avunculus regis audito quod bona sua sibi fuissent ablata, dixit regi predicto: tu es christianus factus et cum eis pacem fecisti, videas qualem amicitiam faciunt nobis. Quo rex audito dixit: ego mittam ibi nuncios meos et faciam omnia restitui tibi; et missis nuntiis suis ad fratres rogans de restitutione rerum predictarum,

et fratres nollent restituere, voluit dictus rex esse contentus, quod solummodo dimidium eorum, que ablata fuerant, restituerent, quod cum dicti fratres nollent hoc facere, dictus avunculus regis intravit terram christianorum cum magno exercitu et fecit ibidem magna dampna, ex quibus postea potentiores Lythovie opposuerunt se regi predicto ita quod ipse postmodum apostatavit a fide, de aliis vero, que in huiusmodi articulo continentur dixit se nescire. ...

Die XVII eiusdem mensis iunii

XVIII testis. Religiosus vir frater Henricus de Chochenus[3] ordinis minorum in Riga...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod de hiis, que in huiusmodi articulo continentur, erat publica fama in Lyvonia, et dixit, quod vidit illum fratrem, qui fuerat tunc temporis, videlicet quando predicta fuerunt, que in articulo dicuntur, apud regem paganorum.

Die XX eiusdem mensis iunii

XIX testis. Religiosus vir frater Nicolaus Berca de Riga ordinis fratrum predicatorum...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici, quod cum rex paganorum fuisset ad fidem conversus et haberet secum aliquos presbyteros seculares et aliquos canonicos Rigenses et misisset nuntios suos ad magistrum hospitalis, quia dictus magister invitatis nunciis dicti regis ad prandium eisdem nuntiis fecit capita absidi[c)], dictus rex eiectis dictis presbyteris extra regnum suum et canonicis ac aliquibus ex eisdem trucidatis errores pristinos reassumpsit, de aliis vero, que in huiusmodi articulo continentur, dixit se nescire. ...

Die V eiusdem mensis iulii

XXIIII testis. Religiosus vir frater Wesserus de Torreyda[4] ordinis fratrum predicatorum in Riga...

Item super XVI articulo, qui sic incipit: "Item quod cum rex", dixit, quod audivit dici, quod quidam rex nomine Mindo fuit conversus ad fidem catholicam et vidit quendam presbyterum ipse testis, qui fuit plebanus in terra dicti regis, sed de aliis, que in huiusmodi articulo continentur, dixit se nescire. ...

---

**5.** [a]) *так у B, трэба чытаць* Lythovie [b-b]) *так у B, трэба чытаць* ad fidem [c]) *так у B, трэба чытаць* abscidi

[1]) *Walkena, суч. ням. Falkenau разьмяшчалася на паўн. зах. ад Дорпату (сёньня Тарту ў Эстоніі)* [2]) *напэўна, Вэстфалія ў Нямеччыне* [3]) *у лац. дак. таксама ў формах Kokenois, Kokenes, у ням. Kokenhausen, Kokenhusen (латыск. Koknese) – былы полацкі ўдзел Кукенойс ці Кукенос на р. Дзьвіне (сёньня ў Латвіі)* [4]) *Torejda (латыск. Turaida) – замак Рыскіх біскупаў Тарэйда на р. Аа (сёньня Gauja ў Латвіі) на паўн. усх. ад Рыгі*

... XIIII дня таго ж месяца сакавіка

VI сьведка. Разважлівы муж пан Генрык Лянгвэман, эзэльскі капэлян...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што была і ёсьць сярод людзей погаласка ў правінцыі Лівоніі пра тое, што зьмяшчаецца

ў артыкуле, а менавіта, што названы ў артыкуле кароль быў хрысьціянінам і меў духоўных ды неўзабаве застаўся пры ранейшых аблудах; пра іншае ж, зьмешчанае ў артыкуле, ён ня ведае.

...XX дня таго ж месяца сакавіка

VII сьведка. Пабожны муж брат Генрык, прыёр кляштару ў Валкене, з Ордэну прапаведнікаў...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі яшчэ ў часы ягонага маленства і [кажуць] аж дагэтуль, ды што была і ёсьць погаласка ў правінцыі Лівоніі пра тое, што зьмяшчаецца ў артыкуле, а таксама сказаў, што той кароль, пра якога ёсьць згадка ў артыкуле, зваўся Мінда. ...

Таксама на XXXI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што кароль...", сказаў, што нічога іншага ня ведае пра тое, пра што апавядаецца ў артыкуле, хіба толькі, што кароль Літовіі і яго каралеўства былі навернутыя да веры і мелі прэлятаў, але пасьля адступіліся ад веры і застаюцца ў гэтай аблудзе, а таксама сказаў, што ведае гэта, бо чуў ад старэйшых [людзей] з правінцыі Лівоніі. ...

IIII-га дня месяца красавіка

VIII сьведка. Брат Якаб з Вэстфаліі, мніх кляштару з Валкены, з Ордэну цыстэрцыянцаў Дорпацкай дыяцэзіі...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі, што кароль паганцаў быў навернуты да веры і каранаваны панам папам і што дзеля крыўдаў, учыненых братамі таму ж каралю і ягоным падданым, адступіўся ад веры, але пра іншае, зьмешчанае ў артыкуле, ён сказаў, што ня ведае. ...

XXIII дня таго ж месяца траўня

XIII сьведка. Пабожны муж брат Даніэль, прыёр Ордэну прапаведнікаў у Дорпаце...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі, што калісьці кароль Летовіі на імя Мінда быў навернуты да каталіцкай веры і што памянёныя шпітальныя браты ўчынілі нейкую шкоду аднаму пляменьніку караля, і паколькі не захацелі адплаціць за гэтую шкоду самому каралю ці ягонаму пляменьніку, гэты кароль адступіўся ад веры. Пра іншае, зьмешчанае ў гэтым артыкуле, ён сказаў, што ня ведае. ...

XIIII дня таго ж месяца чэрвеня

XVII сьведка. Пабожны муж брат Бэртольд з Ордэну братоў прапаведнікаў у Рызе...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі, што быў у Летовіі кароль на імя Мінда, які быў хрысьціянінам, і што бачыў аднаго духоўнага, які быў настаўнікам самога сьведкі, і што гэты духоўны быў раней духоўным памянёнага караля, і што чуў, як казаў адзін купец, што гэты кароль адступіўся ад веры менавіта з тае прычыны, што ў названага караля быў калісьці дзядзька выдатны ваяр і той паслаў сваю чэлядзь з таварамі ў краі верных і што памянёныя браты адабралі гэтыя тавары ў чэлядзі. Таму памянёны дзядзька, пачуўшы, што ў яго была адабраная ягоная маёмасьць, сказаў гэтаму каралю: ты стаўся

хрысьціянінам і ўчыніў зь імі мір, паглядзі ж, якое сяброўства нясуць яны нам. Кароль, пачуўшы гэта, сказаў: я пашлю туды сваіх паслоў і зраблю так, каб яны ўсё вярнулі табе, ды, паслаўшы сваіх паслоў да братоў, прасіў іх вярнуць памянёныя рэчы, але браты не захацелі вярнуць, хоць кароль быў бы задаволены, калі б яны вярнулі толькі палову таго, што было адабрана. Калі ж названыя браты не пажадалі рабіць гэтага, памянёны дзядзька караля ўвайшоў у зямлю хрысьціянаў зь вялікім войскам і ўчыніў там вялікую шкоду. З таго часу вяльможы Літовіі ўзьняліся супроць памянёнага караля гэтак, што ён пазьней адступіўся ад веры. Пра іншае, зьмешчанае ў гэтым артыкуле, ён сказаў, што ня ведае. ...

XVII дня таго ж месяца чэрвеня

XVIII сьведка. Пабожны муж брат Генрык з Кукеносу, з Ордэну меншых [братоў] у Рызе...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што кароль...", ён сказаў, што пра зьмешчанае ў гэтым артыкуле была пагаласка сярод людзей у Лівоніі, а таксама сказаў, што бачыў таго брата, які быў у той час, а менавіта калі адбывалася сказанае ў артыкуле, у караля паганцаў. ...

XX дня таго ж месяца чэрвеня

XIX сьведка. Пабожны муж брат Мікалай Берка з Рыгі, з Ордэну братоў прапаведнікаў...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі, што калі кароль паганцаў быў навернуты да веры і меў у сябе сьвецкіх прэзьбітэраў ды рыскіх канонікаў, і паслаў сваіх паслоў да майстра шпіталю, а названы майстар, запрасіўшы паслоў на абед, загадаў сьцяць тым жа паслом галовы. Тады памянёны кароль, выгнаўшы названых прэзьбітэраў і канонікаў з свайго каралеўства, а некаторых зь іх забіўшы, зноў вярнуўся да старых аблудаў. Пра іншае, зьмешчанае ў гэтым артыкуле, ён сказаў, што ня ведае. ...

V дня таго ж месяца ліпеня

XXIIII сьведка. Пабожны муж брат Вэсэр з Тарэйды, з Ордэну братоў прапаведнікаў у Рызе...

Таксама на XVI артыкул, які пачынаецца гэтак: "Таксама, што калі кароль...", ён сказаў, што чуў, як казалі, што кароль на імя Мінда быў навернуты да каталіцкае веры і сам сьведка бачыў аднаго прэзьбітэра, які быў пробашчам у зямлі названага караля, але пра іншае, зьмешчанае ў гэтым артыкуле, ён сказаў, што ня ведае. ...

## Commentarii

## Камэнтары

Дзеля таго што ў ранейшых публікацыях і дасьледваньнях дакумэнтаў Міндава недастаткова быў асьветлены цікавы і адметны анамастычны матэрыял, які зьмяшчаецца ў гэтых актах, у камэнтарох яго разгляду адводзіцца больш месца. Такі разгляд і першасная лінгвістычная інтэрпрэтацыя неабходныя, на нашую думку, для хутчэйшага ўвядзеньня гэтага матэрыялу ў навуковы ўжытак, што можа быць карысным для больш глыбокага вывучэньня пытаньняў, зьвязаных з этымалёгіяй назову дзяржавы Міндава і з паходжаньнем імёнаў караля, яго родных і прыбліжаных. Звычайна гэты назоў і імёны тлумачылі як балцкія, але аналіз іх формаў, зафіксаваных у лацінскіх дакумэнтах, дае падставы казаць пра магчымасьць іншай этымалёгіі.

**Дак. І.1**

**Mindowe**

Імя караля найперш згадваецца ў лацінскіх дакумэнтах, нямецкіх і польскіх кроніках, кірылічных запісах усходнеславянскіх летапісаў. У большасьці публікаваных тут лацінскіх дакумэнтаў яно пішацца як *Mindowe* ці *Myndowe*, дзе літара *y* і літара *i* абазначаюць адзін і той жа гук [і]. Падмена гэтых літараў адна другой была звычайнай зьяваю ў тагачасным лацінскім пісьме. Наяўнасьць варыянтаў *Mindou* (дак. ІІІ.2) і *Mindaw* (дак. ІІІ.3)[3], у якіх адсутнічае канцавое *e*, дазваляе меркаваць, што гэтае *e* ў дадзеным выпадку выконвала такую ж функцыю, як і літары ь, ъ (ер, ёр), якія ўжываліся ў тагачасных усходнеславянскіх кірылічных тэкстах і ў XIII ст. у канцавой пазыцыі ўжо ня мелі фанэтычнай вартасьці, абазначаючы нулявы гук з папярэднім цьвёрдым ці мяккім зычным. Кірылічным адпаведнікам да *Mindowe (Myndowe)* была б форма *Миндовъ*. Такая форма засьведчаная ў “Кроніцы Літоўскай і Жамойцкай”[4], але ў вінавальным склоне – *Миндова* і ў дачыненьні да іншай асобы – сына гальшанскага князя Гольшы[5]. Дарэчы, гэтую форму – *Миндовъ* (*Миндова, Миндову* ды г.д.) – пасьлядоўна выкарыстоўваў у сваёй працы расейскі гісторык XIX ст. А. Энгельман[6]. Яе ж, але ў лацінскім напісаньні *Myndow (Mindow)* ужываў, напр., у навуковым апараце да выданьня дакумэнтаў караля адзін зь першых іх публікатараў Ф.Дрэгер[7], а таксама гісторыкі Ё.Арндт[8], Ф.Шварц[9], Э.Бонэль[10], К.Віль[11] ды інш. Астатнія аддавалі перавагу варыянту *Mindowe (Myndowe)*, які фігуруе ў большасьці лацінскіх дакумэнтаў.

---

[3] Гл. таксама варыянт *Myndaw* у: Codex epistolaris Vitoldi. Collectus opera A.Prochaska. Cracoviae, 1882. S. 996.

[4] ПСРЛ. Т. 32. С. 33.

[5] Без увагі на праўдзівасьць самога летапіснага паведамленьня імя *Гольша* – славянскага паходжаньня. Пар. з поўным лужыцкім адпаведнікам *Holša*: Muka. III. S. 39.

[6] Энгельман А. Хронологические исследования в области русской и ливонской истории в XIII и XIV столетиях. Спб., 1858. С. 144–146, 158–167 ды інш.

[7] Гл: Dreger. I. S. 352, nr. 243; s. 355, nr. 247 et passim.

[8] Der Liefländischen Chronik andrer Theil von Liefland unter seinen Herren Meistern, welche die alte Geschichte des Ordens und der benachbarten Völker erleutert ... von J.G.Arndt. Halle im Magdeburgischen, 1753. S. 51, 56, 58 usw.

[9] Гл.: Schwartz. S. 51, 70, 88 usw.

[10] Bonnell. Ereignisse. S. 284, 285 usw.

[11] Will. S. 374, 375, 377 usw.

У дакумэнтах зафіксаваныя яшчэ тры формы імя: *Mindowin* (дак. II.4), *Mindota* (дак. III.1) і *Mindo* (дак. III.5). Усходнеславянскія і польскія наратыўныя крыніцы падаюць таксама формы *Миндогъ*[12], *Mindog*[13], *Мендогъ*[14], *Мендокъ*[15], *Mendog*[16], *Mendok*[17], *Миндовгъ*, *Мендовгъ*[18], *Mindowk*[19]. У пададзеных варыянтах фіналь *-гъ (-g)* чаргуецца з *-къ (-k)*, прычым часам гэтае чаргаваньне можа адбывацца ў межах аднаго тэксту. Такое ж чаргаваньне назіраецца і ў варыянтах імя каралевіча Войшалка: *Воишелгъ / Воишелкъ* ды інш. (гл. ніжэй), толькі там дамінуюць напісаньні зь фінальлю *-къ (-k)*. Напісаньні гэтага імя з *-ко, -ок* на канцы: *Воишелко, Войселок* дазваляюць меркаваць, што тут, як і ў выпадку зь імем караля, мы маем справу з славянскім антрапонімным фармантам *-к-*, але пашыраным адпаведнымі галоснымі. Пар.: ст.-польск. *Dobk, Dobak, Dobko; Mirk, Mirak, Mirko*[20], ст.-бел. *Минко, Минкъ*[21] ды інш. Прычым у суфіксальных варыянтах антрапоніму, утвораных ад таго ж самага двухчленнага імя, фармант з суфіксальным элемэнтам *-к-* мог выступаць на розных ступенях. Пар.: ст.-польск. *Wojk, Wojdak, Wojszak; Wyszk, Wyszotk; Dobrk, Dobryłko*[22]. Напісаньне з *-гъ (-g)*: *Мендогъ, Воишелгъ* можа сьведчыць пра тое, што марфэмная будова нязвычнага паганскага імя была не зусім "празрыстая" для пісца зь іншай тэрыторыі (Украіна, Вялікі Ноўгарад, Пскоў), дзе хрысьціянскія імёны ўжо досыць трывала замацаваліся ва ўжытку. Таму, асабліва ў тых выпадках, дзе вымаўленьне літараў *г,к* было аднолькавым (напр., на канцы слова), яны маглі блытацца.

Калі прыгледзецца да структуры формаў імя караля, кідаецца ў вочы іх фармальная тоеснасьць заходне- і паўднёваславянскім гіпакарыстыкам з адпаведнымі суфіксамі. Гэта асабліва бачна пры супастаўленьні словаўтваральных парадыгмаў антрапонімаў. Параўнайма: *Mindo, Mindota, Mindok, Mindow, Mindowk, Mindowin* і, напр., *Jar, Jaro, Jark, Jardo, Jardow; Jan, Jank, Jando, Jandak, Jandow, Jandowk*[23]; *Драгота*[24], *Драговъ*[25], *Драговин*[26]; *Радота, Радов, Радовин*[27] ды інш. Зробленае супастаўленьне дае падставы лічыць і самую кароткую з формаў імя – *Mindo* суфіксальным дэрыватам ад каранёвай асновы *Min-*, утвораным як *Jardo* ад *Jar*, ці *Jando* ад *Jan*. Гэтая аснова атрыманая ад першай часткі двухчленных славянскіх іменаў тыпу *M(i)nislav, Minigniew*, як *Jar* ад *Jaroslaw*. Яна выводзіцца ад праславянскіх *mьněti / *mьniti ці *měniti з значэньнем "думаць, лічыць, меркаваць"[28]. У пісьмовых крыніцах зафіксаваныя як формы, прадстаўленыя чыстай каранёвай асноваю, гэтак і дэрываты ад яе з

---

[12] ПСРЛ. Т. 2. М., 1968. Ст. 815, 817, 818 и др.
[13] ПСРЛ. Т. 32. С. 133.
[14] ПСРЛ. Т. 2. М., 1843. С. 343; ПСРЛ. Т. 32. С. 26–30, 207–209.
[15] ПСРЛ. Т. 32. С. 17, 26–27, 206–207.
[16] MPH. T. 2. Lwów, 1872. S. 808, 840.
[17] MPH. T. 3. Lwów, 1878. S. 132–133.
[18] ПСРЛ. Т. 2. М., 1843. С. 343; Т. 24. С. 99; Т. 27. С. 49.
[19] ПСРЛ. Т. 32. С. 132.
[20] Malec. S. 105, 116–118.
[21] Литовская метрика. Отдел первый. Часть третья: Книги публичных дел. Переписи войска Литовского // Русская историческая библиотека. Т. 33. Петроград, 1915. С. 189.
[22] Malec. S. 95, 98, 116, 132, 157.
[23] Muka. III. S. 44.
[24] Грковић. С. 82.
[25] Худаш М.Л., Демчук М.О. Походження українських карпатських і прикарпатських назв населених пунктів (відантропонімні утворення). Київ, 1991. С. 27.
[26] Грковић. С. 81.
[27] Тамсама. С. 166–167.
[28] Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. Вып. 18. М., 1992. С. 174–175; Вып. 21. М., 1994. С. 113–114.

фармантамі першай і другой ступені: *Min, Myn, Myen*[29], *Mina*[30], *Mena*[31], *Minko, Mynko*[32], *Menko*[33], *Миндо, Минда*[34], *Minda*[35], *Menda*[36], *Миндов*[37]. Ст.-бел. тэксты падаюць формы *Минко, Минкъ*, засьведчаныя і формы з суфіксальным элемэнтам *-d-* : *Міндзюль, Міндзюкевіч, Мендык, Мендзіла*[38].

Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што ўсе формы імя караля вытворныя ад першага члена двухчленных імёнаў тыпу *M(i)n-i-slav, Min-i-gniew > Min-do (-a), *Men-do (-a), Min-d-ok, Men-d-ok, Min-d-ota, Min-d-ow, Min-d-ow-k, *Men-d-ow-k, Min-d-ow-in.* Разнастайнасьць суфіксаў у варыянтах імя адной і той жа асобы – звычайная зьява для славянскай антрапаніміі, што добра патлумачыў вядомы дасьледнік анамастыкі А.М.Селішчаў: "Характэрнай рысаю ва ўтварэньні асабовых імёнаў фэўдальнага часу ёсьць разнастайнасьць словаўтваральных сродкаў – суфіксаў, якія надавалі імёнам ласкальнае, памяншальнае ці прыніжальнае значэньне. Адно і тое ж імя ўжывалася з рознымі суфіксамі без асаблівай дыфэрэнцыяцыі ў значэньні... На разнастайнасьці суфіксаў аднолькавага значэньня адбівалася зацямненьне значэньня некаторых зь іх, якія страцілі сваю эмацыйную значнасьць..."[39] Паводле меркаваньня В.Ластоўскага, суфіксы ў варыянтах імя маглі розьніцца ў залежнасьці ад веку асобы і яе сацыяльнага статусу[40].

Формы імя, ужытыя ў дакумэнтах, у сучаснай беларускай артаграфіі павінны перадавацца як: *Мінда, Міндаў* (пар. *Mindaw* у дак. III.3) ці (з націскам на апошнім складзе) *Міндоў, Міндота, Міндовін.*

**Letthowia**

У тэкстах лацінскіх дакумэнтаў, якія ўвайшлі ў гэтае выданьне, назоў краіны падаецца ў варыянтах: *Let(t)owia, Let(t)howia, Lethovia, Lettovia* (у рукапісах: *Lethouia, Lettouia*), *Lectovia, Lit(t)owia, Lithowia, Luthowia, Luthawia.* Як вынікае з гэтых напісаньняў, гук [t] перадаваўся на пісьме як *t, th, tt, tth*, а гук [v] – як *v (u)* ці *w*. Напісаньне *ct* узьнікла, магчыма, у выніку даволі частага для лацінскіх актаў XIII–XIV стст. зьмешваньня пры пісьме і адчытаньні літараў *c* і *t,* якія былі вельмі падобныя і дзеля гэтага блыталіся. Таму ўсю разнастайнасьць варыянтаў назову ў нашых дакумэнтах можна зьвесьці да чатырох асноўных: *Letovia, Litovia, Lutovia* і *Lutavia.* Яны адрозьніваюцца агаласоўкай кораню *Let-, Lit-* і *Lut-*, а два апошнія – агаласоўкаю фарманту *-ov-* ці *-av-*.

Варыянты з *-u-* тыпу *Luthowia, Luthawia* ня могуць быць выпадковымі. Яны ўжытыя ў лістох, якія пісаліся пад час знаходжаньня на папскім двары пасольства Міндава, і маглі быць успрынятыя беспасярэдне ад яго прыбліжаных. Формы тыпу *Lutovia, Lutwani (Lutwania)*

---

[29] SSNO. T. 3. Zesz. 2. S. 474, 517.
[30] Šimundić. S. 235.
[31] MSM. Vol. I. P. 17.
[32] SSNO. T. 3. Zesz. 2. S. 517.
[33] MSM. Vol. I. P. 17.
[34] Заимов. С. 153.
[35] Šimundić. S. 235.
[36] Beneš J. O českých příjmeních. Praha, 1962. S. 83.
[37] Илчев С. Речник на личните и фамилни имена у Българите. София, 1969. С. 335.
[38] Бірыла. 2. Мн., 1969. С. 283, 285.
[39] Селищев А.М. Происхождение русских фамилий, личных имен и прозвищ // Селищев А.М. Избранные труды. М., 1968. С. 116.
[40] Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 761–762.

знаходзім і ў пазьнейшых папскіх лістох[41]. Гэткая ж агаласоўка сустракаецца таксама ў тытулах абодвух біскупаў, прызначаных для дзяржавы Міндава, – Хрысьціяна і Віта: *(Christanus episcopus) Lutwinensis*[42], *(Vitus...) Luthomiriensis (episcopus)*[43].

Але часьцей тытулы гэтых біскупаў пішуцца як *Littoviensis, Lithoviensis, Litoviensis, Lythoviensis, Lithiviensis*[44]. Лацінскі фармант *-(i)ensis* звычайна ўжываецца ў прыметніках, утвораных ад назоваў мясцовасьцяў і населеных пунктаў. Адкінуўшы яго, атрымаем тую ж аснову, якая застаецца пасьля адкіданьня фіналі *-ia* ў назове дзяржавы і якая завяршаецца канцавым элемэнтам *-ov- (-ow-, -ou-)*. Пар.: *Litov-iensis, Litov-ia, Lutov-ia, Letov-ia.* Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што *-ov-* у гэтых варыянтах фармальна ідэнтычнае прыналежнаму суфіксу славянскіх тапонімаў. Да таго ж, як і ў славянскіх топаасновах, тут адзначаецца альтэрнацыя галоснага ў суфіксе *-ov- / -av-* (у дадзеным выпадку, магчыма, пад уплывам характэрнага для рэгіёну аканьня). Шмат якія дасьледнікі зьвярталі ўвагу на тое, што ў выразе *Datum in Lettowia (Lettowie) in curia nostra* (дак. I.2, I.9) хаваецца назоў населенага пункту, аднолькавы з назовам дзяржавы. Усё гэта дае падставы для супастаўленьня назову дзяржавы з тапонімамі. Вялікая колькасьць населеных пунктаў з гэткаю ж асноваю разьмяшчаецца на тэрыторыі славянскіх краінаў. Больш за тое, назіраецца тая ж зьмена на пісьме галосных у корані і суфіксе. Параўнайма, напр., назоў чэскага гораду *Litovel*, які ў сярэднявечных крыніцах пішацца як *Lutouia* (1251)[45], *Luthouia* (1272), *oppidum... Luthow* (1327, безь фіналі *-ia*!), *civitatis Luthoviensis* (1359, прыметнікавая форма), *Luthovia* (1394), затым зь *i* ў корані – *Lithovia* (1410), ізноў *Luthouia* (1430), *u Lithowle* (1458, у ст.-чэск. напісаньні), *Luthouia* (1465), *na Lithowli* (1475, у ст.-чэск. напісаньні), *Luthaw* (1488, у нямецкім напісаньні), *Littavia* (1592), *Littovia* (1656), *Littau* (1718, у нямецкім напісаньні)[46]. Як можна бачыць, лацінскія напісаньні найменьня гэтага гораду і дзяржавы Міндава – ідэнтычныя. Чэскія тапаністы выводзяць назоў гораду ад утваральнай асновы **L'utov-*, узятай ад аднакарэннага славянскага антрапоніму, да якой быў дададзены прыналежны фармант *-ja*: **L'utov-ja* (Ljutovja vьsь – Лютава вёска), з наступным **L'utovja > L'utově*, перагаласоўкаю *'u > i* і разьвіцьцём фінальнага *-l* – *Litovel*[47]. У такім выпадку славянская форма **L'utovja* цалкам адпавядае лацінскаму напісаньню тыпу *Luthouia, Luthovia*. Можна прывесьці ўсходнеславянскія адпаведнікі да гэтай формы, напр. рака *Лютовья*[48] або населеныя пункты *Лютивля*[49] і *Литивля*[50] (пар. таксама: рака *Туровья*[51] каля Полацку, на месцы якой сёньня знаходзіцца воз. *Туроўля* і аднайменны населены пункт).

Але фіналь *-ia* зьявілася ў назове дзяржавы Міндава хутчэй за ўсё з лацінскай мовы, дзе ўжывалася сярод іншага і для афармленьня назоваў населеных пунктаў і краінаў, у тым ліку

---

[41] Гл., напр.: Theiner. I. P. 81, nr. 155, p. 558, nr. 742.

[42] Geschichtliche Notizen über Reichenau, Breisgau, Ortenau, Erfurt vom 9–16 Jahrh. // Zeitschrift für die Geschichte des Oberrheins. Hrsg. von dem Landesarchive zu Karlsruhe durch den Direktor desselben F.J.Mone. Bd. 4. Karlsruhe, 1853. S. 254.

[43] MPH. Ser. 2. T. 8. Warszawa, 1970. S. 101.

[44] MPH. T. 3. Lwów, 1878. S. 22–23, 34; Grünhagen C. Regesten zur schlesischen Geschichte. Th. II. (Codex diplomaticus Silesiae. Bd. 16). Breslau, 1875. S. P. 95–96, 116; Zeissberg H. Kleinere Geschichtsquellen Polens im Mittelalter // Archiv für österreichische Geschichte. T. 55. 1877. S. 150.

[45] Erben. I. P. 589.

[46] Hosák.-Šrámek. T. I. S. 542.

[47] Ibidem. S. 543.

[48] Смолицкая Г.П. Гидронимия бассейна Оки. М., 1976. С. 90.

[49] СНМР. Т. 43. Тверская губерния. Спб., 1862. С. 131.

[50] СНМР. Т. 40. Смоленская губерния. Спб., 1868. С. 273.

[51] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. I. Спб., 1863. С. 39.

нярымскага паходжаньня. На карысьць гэтага сьведчаць лацінскія запісы іншага чэскага тапоніму *Litava*, сярод якіх сустракаем формы *Litawa, Lytava, Lythaua, Littawa, Litowa, Lytowa, Lytauia, Lytawia*[52]. Тут назіраем тую ж альтэрнацыю на пісьме галоснага ў суфіксе, а таксама суіснаваньне славянскага канчатку *-a* і лацінскай фіналі *-ia*[53]. У памянёных запісах сустракаюцца таксама гэткія формы таго ж тапоніму як *Litawan, Litowan*[54] і *Litwa*[55], якія адпавядаюць пазьнейшаму лацінскаму (Litwania) і ўсходнеславянскаму (Литва) назову дзяржавы. Назоў самога населенага пункту *Litava* тлумачаць як суфіксальнае ўтварэньне ад славянскага кораню *l'ut-* (люты)[56].

Згаданая вышэй сярод іншых форма *Litwa* не выпадковасьць або нейкі вынятак, бо аднайменны населены пункт *Litva* існаваў таксама на тэрыторыі Славаччыны[57], а паблізу яго да сёньня захавалася сяло *Litava*. Яно ўпершыню згадваецца ў лацінскіх дакумэнтах у 1135 г. як *villa (веска, сяло) Lytua*[58], затым як *terra seu possesio (зямля ці ўладаньне) Lytwa* (1305), *Lytua* (1306)[59]. Сяло і прыналежнае да яго зямельнае ўладаньне ляжалі на аднайменнай рацэ, якая таксама згадваецца ў дакумэнце з 1135 г. як *Lyttua*[60], а потым як *Lytua* (1270), *Lytova* (1279), *Lytoua, Lytaua, Lytowa* (1281), *Litwa* (1349)[61]. На той жа рацэ, але ў іншым месцы разьмяшчаўся *castrum (замак) Lytua, Lythwa* (1285), *Litva* (1307)[62]. Пры азначэньнях дзяржаўцаў уладаньня *Litava* ўжываліся таксама формы *Litoua* (1337, 1338), *Lytoua* (1338), *Lythawa* (1467), *Litava* (1471)[63]. Славацкія лінгвісты выводзяць назоў ракі і населеных пунктаў на ёй ад таго ж славянскага кораню *l'ut-*[64]. Сюды ж выпадае аднесьці таксама славацкі тапонім *Lietava*, які фігуруе ў дакумэнтах з 1300 г. як *Lytwa (provincia Lytwa* – 1314, *Litwa* – 1318[65]), а пазьней як *Lethawa* (1321), *Liptua* (sic!, 1332), *Letavia* (1392), *Lytwa* (1393), *Lietawa* (1397), *Lethawa* (1474), *Lethavka* (1598), *Lietava* (1773)[66]. Гэтыя запісы цікавыя тым, што ў іх фіксуецца альтэрнацыя *i/e* ў аснове гэтага тапоніму (як і ў назове дзяржавы Міндава). Пар. яшчэ запісы тапоніму *L'utina*: *Lyutune* (1330), *Lethenya* (1341), *Lithine* (1427)[67]. Дарэчы, група населеных пунктаў з назовам *Літва* фіксуецца і на абшарах Цэнтральнай Беларусі паміж Наваградкам і Менскам[68].

---

[52] Die Landtafel des Markgrafthumes Mähren. Hsgb. von Chlumecky P., Chytil J., Demuth K., A. Wolfskron. II–XXI Lieferung (I–XIV Bücher der Brünner Cuda). Brünn, 1855–1861. B. VI. S. 55, nr. 214. S. 115, nr. 271. S. 146, nr. 811. S. 150, nr. 896; B. XII. S. 335, nr. 131. S. 356, nr. 440; B. XIII. S. 398, nr. 59.

[53] Пар. надпісы на пячацях Міндава, Ягайлы і Вітаўтавай жонкі Ганны: Myndouwe... rex *Litowie*; Iagal ... rex in *Lettow*; Anna ducissa de *Littav* – Gumowski M. Pieczęcie książat Litewskich // Ateneum Wileńskie. Rocz. VII. Zesz. 3–4. S. 693, 700, 706.

[54] Die Landtafel des Markgrafthumes Mähren. B. XII. S. 350, nr. 338. S. 373, nr. 650.

[55] Ibidem. B. XII. S. 344, nr. 253.

[56] Černý F., Váša P. Moravská jména místní. Výklady filologické. Brno, 1907. S. 216; Hosák.-Šrámek. S. 539.

[57] Chytil A. Místopis Československe Republiky. Vyd. 3. Praha, 1930. S. 655.

[58] Marsina. P. 72, nr. 74.

[59] Regesta diplomatica nec non epistolaria Slovaciae. Ed. Sedlák V. T. 1. ( 1301–1314). Bratislavae, 1980. P. 169, nr. 354–355. P. 197, nr. 426.

[60] Marsina. T. 1. P. 71, nr. 74.

[61] Varsik. S. 63.

[62] Ibidem. S. 64.

[63] Ibidem.

[64] Ibidem; Пар. таксама: Dickenmann E. Studien zur Hydronymie des Savessystems. T. II. Heidelberg, 1966. S. 25–26.

[65] Marsina. T. 2. P. 84, nr. 146; p. 154, nr. 312.

[66] Vlastivedný slovník. T. 2. S. 157.

[67] Ibidem. S. 206.

[68] Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мн., 1982. С. 139; Слоўнік населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981. С. 155.

Адначасна зь дзяржаваю Міндава існавала таксама тэрытарыяльна-палітычнае ўтварэньне *terra Lytua* ў правінцыі Алтэнія ў Румыніі, згаданае ў прывілеі вугорскага караля Бэлы IV ад 2 чэрвеня 1247 г.[69] У прывілеі згадваецца *terra Lytua* – "зямля Літва". Як вынікае з кантэксту дакумэнту, названая тэрыторыя – гэта terra *kenezatus Lytuoy wojavode* – "зямля княства ваяводы Літвоя (Літавоя)". У самым прывілеі *terra Lytua* сустракаецца яшчэ два разы. Зьвяртае на сябе ўвагу славянская палітычная тэрміналёгія, выкарыстаная ў дакумэнце. *Kenezatus* – гэта безумоўна лацінізаваная форма славянскага тэрміну, які можна ўзнавіць прыкладна як "кнезат" – княства, а *wojavoda* – гэта ня што іншае, як адпаведнік беларускаму слову "ваявода". Вядома, што ў этнагенэзе румынаў вялікую ролю адыгралі славяне, якія цягам стагодзьдзяў узаемадзейнічалі з раманізаваным дака-гецкім насельніцтвам. У румынскую мову трапіла вялікая колькасьць славянскіх лексычных пазычаньняў. Славянскімі тэрмінамі, напр., называліся дзяржаўныя пасады і станы: гаспадар, князь, баярын, стольнік ды шэраг іншых. Славянская мова на румынскіх землях была моваю царквы і дзяржаўнага справаводзтва да сярэдзіны XVIII ст. Пісьмовыя крыніцы фіксуюць значную колькасьць славянскіх імёнаў у гэтым рэгіёне. Гэткімі, напр., былі імёны першых румынскіх ваяводаў і гаспадароў: Богдан, Дан, Мушата, Драгош, Радо, Уладзіслаў ды інш.[70] Безумоўна славянскія й імёны ваяводаў Сенеслава і Літавоя, прыведзеныя ў памянёным прывілеі Бэлы IV. Апошняе імя сустракаецца, напр., у Баўгарыі (XIII ст.) і выводзіцца дасьледнікамі ад больш старажытнага *Лютовой* (XI ст.)[71]. Ваявода Літавой фігуруе яшчэ ў чатырох дакумэнтах. У лісьце ад 5 студзеня 1285 г. яго імя падаецца крыху інакш – *Lythway wayuoda*[72]. Цікава, што ў другім дакумэнце, выдадзеным пад той жа датаю, антрапонім пададзены ў іншай форме, а менавіта: *Litua (al. Lythen) waiuodam* – Літва (інакш Літэн(ь)) ваявода[73], дзе абодва варыянты імя зьяўляюцца гіпакарыстыкамі ад двухчленнага славянскага імя *Літавой (Lytuoy)*. Першы варыянт імя ваяводы *Litua* фармальна супадае з назовам падданай яму зямлі. Такі варыянт антрапоніму фіксуецца таксама ў чэскай, славацкай і польскай мовах[74].

Зробленыя супастаўленьні дазваляюць канстатаваць фармальную ідэнтычнасьць назову дзяржавы Міндава з назовамі населеных пунктаў і зямельных уладаньняў на славянскіх тэрыторыях, аддаленых ад балцкага арэалу. Як і ў назове дзяржавы, у адпаведных славянскіх тапонімах назіраецца ваганьне агаласоўкі *u/i/e* ў корані і *o/a* ў суфіксе. Зьмену галоснага ў корані тапонімаў лінгвісты тлумачаць працэсам перагаласоўкі *u* ў пазыцыі пасьля палятальнага зычнага (асабліва пасьля *l'*) у *i*. Гэты працэс складаўся з двух этапаў: зьмяшчэньня *u* ў пярэдні рад (*u* > *ü*), а затым страчваньня лябіялізацыі (*ü* > *i*). Як адзначаў А.М.Селішчаў: "Працэс зрушэньня *u* ў пярэдні рад пасьля палятальнага галоснага і затым працэс страты лябіялізацыі *ü* пераӂываўся рознымі славянскімі групамі ў розныя пэрыяды іх жыцьця"[75]. Неабходна зазначыць, што названая перагаласоўка адбывалася з рознай ступеньню пасьлядоўнасьці і паўнаты, асабліва ў тапонімах, магчыма, як больш кансэрватыўнай частцы лексыкі, што бачна на прыкладзе пададзеных вышэй запісаў чэскага гораду Litovel, дзе на працягу

[69] DRH. B. Ţară Românească. Vol. 1. (1247–1500). Bucureşti, 1966. P. 3–7.

[70] Чертков А.Ф. О переселении Фракийских племен за Дунай и далее на Север к Балтийскому морю и к нам на Русь // Временник (Чтения) Императорского Московского общества истории и древностей Российских. Кн. 10. 1851. С. 115–116.

[71] Заимов. С. 140, 144.

[72] DRH. D. Relaţii între ţările Române. Vol. 1. (1222–1456). Bucureşti, 1977. P. 30–32.

[73] Hurmuzaki de E. Documente privitore la Istoria Românilor. Vol.1. 1199–1345. Bucureşti, 1887. P. 483–484.

[74] Svoboda. S. 179; Gołębiowska T. Antroponimia Orawy // Zeszyty naukowe Uniwersytetu Jagellońskiego. CCLVI. Prace językoznawcze. Zesz. 34. Kraków, 1971. S. 105; SSNO. T. 3. Zesz. 2. S. 271.

[75] Селищев А.М. Славянское языкознание. Т. 1. М., 1941. С. 96.

стагодзьдзя назіраюцца ваганьні *u/i*. У некаторых тапонімах з тым жа коранем пасьля перагаласоўкі, засьведчанай дакумэнтамі, адбылося вяртаньне да першапачатковай формы, і сёньня гэтыя назовы пішуцца як: *Lutonina* (*Luthonin* – XIV ст., але: *Litonina* – 1531), *Lutotin* (*Lutotine* – 1131, але: *Litotin* – 1560)[76] ды інш.

Праявы непасьлядоўнай перагаласоўкі ў корані *lut-* можна выявіць і на іншых славянскіх тэрыторыях, у тым ліку і на ўсходнеславянскіх, як у апэлятывах, гэтак і ва ўласных назовах. Пар., напр., у ст.-бел.: *лютовати, литовати; лютость, литость; лютостивый, литостивый* з тым жа значэньнем ды інш.[77] Знаходзім яе адзнакі таксама ў гідраніміі, тапаніміі і антрапаніміі. Пар. запісы р. *Лютенька, Litenka* (каля Міргарада)[78]; г. Літавіж (каля г. Уладзімера Валынскага ва Ўкраіне): *Lutowicz, Litowicz* (1434–1437)[79]; в. *Litowisko, Lutowisko* (у былым Бродзкім павеце); в. *Litohoszcze, Lutohoszcze* (у былым Ковельскім павеце)[80]; імя *Лютавор* (1500)[81] і *Литавор* (1486)[82] ды інш. Сьведчаньнем перагаласоўкі можа быць таксама наяўнасьць паралельных формаў з аднолькавымі фармантамі: *Лютовец*[83] і *Литовец*[84], *Люцвины*[85] і *Ліцьвіны*[86], *Лютивля* і *Литивля*[87], р. *Лютвинка*[88] і в. *Литвинка*[89] ды шэраг інш. Дасьледнікамі засьведчаная таксама форма "лютвин" замест "літвін"[90]. А этнограф В. Дабравольскі запісаў на Смаленшчыне два старажытныя паданьні, адно зь якіх сягае да XIII ст., дзе Літва названая "Лютвою"[91].

Такім чынам, прыведзеныя анімічныя адпаведнікі дазваляюць атаясаміць корань з варыятыўнай агаласоўкай *lut- / lit- / let-* у назове дзяржавы Міндава з каранёвай асновай *l'ut- > lit-* у славянскіх тапонімах з значэньнем "люты", якая была ўзятая ад аднакарэнных двухчленных антрапонімаў. Назоў дзяржавы ад гіпакарыстыкаў тыпу *Litvo, Litvan* выводзілі пачынаючы яшчэ ад "Кронікі Прусіі", магчыма складзенай прускім біскупам XIII ст. Хрысьціянам, фрагмэнт якой пададзены ў працы Ё.Фогта[92]. Гэтай вэрсіі трымаліся ў сваіх творах і пазьнейшыя аўтары М.Бельскі[93], М.Стрыйкоўскі[94] і Ф.Сафановіч[95]. Агаласоўка *let-* апрача фанэтычных і графічных падставаў магла ўзьнікнуць ва ўмовах зацямненьня першаснага значэньня кораню

---

[76] Hosák.-Šrámek. T. I. S. 569.

[77] Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 17. Мн., 1998. С. 68, 70, 197–198.

[78] Маштаков П.Л. Список рек Днепровского бассейна. Спб., 1918. С. 70.

[79] Акты Литовско-Русского государства / Изд. М.Довнар-Запольским. Вып. 1 // Чтения в Императорском обществе истории и древностей Российских при Московском университете. 1899. Кн. 4. С. 12–13.

[80] SGKP. T. 5. S. 328; T. 15. Cz. 2. S. 237.

[81] ПСРЛ. Т. 24. С. 214.

[82] Акты Литовской метрики. Т. 1. Вып. 1. 1413–1498 гг. Собр. О.Н.Леонтовичем. Варшава, 1896. С. 24.

[83] СНМР. Т. 34. Псковская губерния. Спб., 1885. С. 42; Список населенных мест Витебской губернии. Витебск, 1906. С. 130.

[84] Список населенных мест Минской губернии. Сост. В.С.Ярмолович. Мн., 1909. С. 108.

[85] Указатель населенным местностям Гродненской губернии. Гродно, 1905. С. 144.

[86] Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мн., 1980. С. 76.

[87] СНМР. Т. 43. Тверская губерния. Спб., 1862. С. 131; СНМР. Т. 40. Смоленская губерния. Спб., 1868. С. 273.

[88] Маштаков П.Л. Список рек Днепровского бассейна. Спб., 1918. С. 228.

[89] Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910. С. 161.

[90] Малевич С. Белорусские народные песни // Сборник отделения русского языка и словесности императорской АН. Спб., 1907. Т. 32, № 5. С. 180.

[91] Добровольский В.Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. 1. // Записки Императорского русского географического общества по отделению этнографии. Т. XX. Спб., 1891. С. 379.

[92] Voigt. Geschichte. Bd. 1. S. 621.

[93] Bielski M. Kronika Polska. Sanok, 1856. T.1. S. 252.

[94] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 1. S. 46, 54.

[95] Сафонович Ф. Кройника о початку и назвиску Литвы... собраная... 1673 року. Київ, 1992. С. 170–171.

ў працэсе перагаласоўкі і наступнага яго пераасэнсаваньня. Гэтаму спрыяла наяўнасьць паралельных антрапонімаў, скарочаных і двухчленных, тыпу *Luta, -o*[96] / *Leta, -o*[97], *Лютко*[98] / *Letko*[99], *Лютек*[100] / *Летек*[101], *Лютослав*[102] / *Летослав*[103], *Лютимир*[104] / *Летимир*[105], а таксама вытворных ад іх тапонімаў тыпу *Litovice* (< **Lutovice*)[106] / *Letovice*[107] ды інш.

У назове дзяржавы да каранёвай асновы дададзены фармант *-ov-*, ідэнтычны адмыслова славянскаму прыналежнаму суфіксу, якім звычайна афармляюцца адантрапонімныя назовы населеных пунктаў і зямельных уладаньняў. Замена яго варыянтам таго ж фарманту зь іншай агаласоўкай *-av-* мае адпаведнікі і ў славянскіх тапонімах[108], а ў назове дзяржавы магла адбывацца таксама пад уплывам характэрнага для рэгіёну аканьня[109] або пад узьдзеяньнем нямецкіх напісаньняў. Форма з варыянтам *-v-*: *Литва, Litua (Litva, Litwa)* узьнікла ў выніку спрашчэньня, хутчэй за ўсё пад уплывам аднакарэнных антрапонімаў тыпу згаданага ўжо *Lytuoy, Lythway* (поўная форма *Литовой*[110]) або *Litvo (Litva)*[111]. Пар. таксама: *Luthomir, Lutmir, Litmir*[112]; *Лютослав, Litoslav*[113], *Lutslav*[114].

Разгледжаны гістарычны і лінгвістычны матэрыял дазваляе ўявіць гэткую пасьлядоўнасьць паходжаньня і разьвіцьця назову:

антрапонім *L'ut-o, -a* (<*Luto-voj, Luto-slav, Luto-mir*) > тапонім (харонім) **L'ut-ov-a* > **Lit(o)va* (весь, земля)[115] > палітонім (з канфэсійным і этнічным напаўненьнем).

Першапачатковым тэрытарыяльным ядром зямлі, а потым і дзяржавы Літва маглі стаць абшары між Наваградкам і Менскам, маркіраваныя аднайменнымі тапонімамі. З узьнікненьнем дзяржавы назоў стаў пашырацца і на прылеглыя тэрыторыі, заселеныя, як і Літва, пераважна славянскім насельніцтвам (спачатку паганскім, пазьней – схільным да заходняга абраду хрысьціянства) і падуладныя каралю, а затым – вялікім князям. У час існаваньня Вялікага Княства Літоўскага гэты назоў перадусім азначаў землі цэнтральнай і заходняй Беларусі, займаныя ліцвінамі-беларусамі. Пасьля далучэньня да Расейскай імпэрыі назоў пачаў

[96] Malec. S. 70; Šimundić. S. 198.
[97] Hosák.-Šrámek. T. I. S. 504; Svoboda. S. 204; Заимов. C. 138.
[98] Морошкин. C. 116.
[99] Тамсама. C. 114.
[100] Тамсама. C. 116.
[101] Тамсама. C. 111, 114.
[102] Пачичъ. C. 58.
[103] Тамсама. C. 55.
[104] Тамсама. C. 58.
[105] Морошкин. C. 111.
[106] Místní jmena v Čechách, jejich vznik, původní vyznam a změny. Napsal dr. Antonín Profous. Díl II. Praha, 1949. S. 642.
[107] Hosák.-Šrámek. T. I. S. 503–504.
[108] Гл., напр.: Kosyl Cz. Nazwy miejscowe dawnego województwa Lubielskiego // PAN. Prace onamastyczne. Nr. 27. Wrocław i in. 1978. S. 22.
[109] Пар.: Лемцюгова В.П. Беларуская айканімія. Лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1970. C. 111–114.
[110] Заимов. C. 140, 144.
[111] SSNO. T. 3. Zesz. 2. S. 301; Svoboda. S. 179; Krištof Š. Osobné mená bývalej Tekovskej stolice. Bratislava, 1969. S. 35; Davídek V. O nazvech a jménech Těšínska. Opava, 1949. S. 115.
[112] Морошкин. C. 116.
[113] Пачичъ. C. 58; Морошкин. C. 116.
[114] Морошкин. C. 116.
[115] Пар. летапісныя назовы *Лютова гора* на шляху з Ноўгарада ў Маскву і *Литово урочище* ў Суздальскай зямлі: ПСРЛ. T. 3. C. 168; T. 7. C. 116.

зьмяшчацца на тэрыторыю суседняй балцкай краіны і, паступова напаўняючыся іншаэтнічным зьместам, канчаткова замацаваўся за ёй на працягу першай паловы XX ст.

У перакладах дакумэнтаў і ў навуковым апараце да іх мы ўжываем адэкватныя лацінскім беларускія варыянты назову дзяржавы *Літовія, Лютовія, Лютавія, Летовія,* перадаючы лацінскую фіналь *-ia* (з увагі на дваякую магчымасьць яе інтэрпрэтацыі) беларускім адпаведнікам *-ія* і захоўваючы варыятыўнае напісаньне кораню.

**regni suscepimus dyadema**

Каранацыя адбылася, паводле Густынскага летапісу, у Наваградку[116] або, згодна зь зьвесткамі А.В.Каяловіча, які мог абапірацца на страчаныя летапісныя крыніцы, in campis Novogrodensibus (neque enim Novogrodeci tam amplae aedes haberi poterant)[117] – "на наваградзкіх палёх (бо ў Наваградку немагчыма было знайсьці такога вялікага будынку)". На Наваградку як месцы каранацыі Міндава спыніўся ў сваёй "Кроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі" М.Стрыйкоўскі[118], у якога, паводле меркаваньня асобных дасьледнікаў, гэты сюжэт мог быць пераняты дзьвюма вышэй згаданымі крыніцамі.

Але паколькі пісьмовыя помнікі не называюць іншага месца, каранацыю ў Наваградку ці ў яго ваколіцах выпадае лічыць адзіна засьведчанай крыніцамі. Спробы навукова абгрунтаваць альтэрнатыўнае месца каранацыі нельга прызнаць удалымі[119].

Зь зьместу дак. І.1 вынікае, што сама падзея адбылася ў ліпені 1253 г. Прысутнасьць сьведкі выдадзенага адначасна дак. І.2 у іншым месцы і пры іншым юрыдычным акце 20 ліпеня дазваляе яшчэ болей звузіць часавыя рамкі каранацыі (гл. заўв. 4 да дак. І.2). Некаторыя гісторыкі спрабуюць назваць дакладную дату – 6 ліпеня[120].

**Дак. І.3**

**Christianus**

Хрысьціян, біскуп Літовіі (*Christianus, Cristianus episcopus Lettowie, Lethovie, Lettovie* – дак. І.7-9, І.11; ІІ.8, ІІ.10, ІІ.13, ІІ.18) згадваецца ў іншых дакумэнтальных крыніцах таксама як *episcopus Lithowiensis*[121], *Lithoviensis, Leoteviensis, Lithociensis*[122], *Lecowiensis*[123], *Lutwinensis*[124],

---

[116] ПСРЛ. Т. 2. М., 1843. С. 342.

[117] Historiae Litvanae pars prior... Auctore P. A.W.Kojałowicz Soc. Jesu. Dantisci, 1650. P. 97.

[118] Stryjkowski M. Kronika Polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. Warszawa, 1846. S. 289.

[119] Вэрсію Э.Вальтэра, разьвітую далей Т.Баранаўскасам, паводле якой каранацыя павінна была адбыцца ў Латаве на тэрыторыі Летувы, як і дапушчэньне Н.Кіткаўскаса – В.Урбанавічуса пра каранацыю ў Вільні, недастатковасьць аргумэнтацыі змушае прызнаць занадта гіпатэтычнымі. Гл.: Вольтер Э.А. Город Мендовга, или где искать Летовию 13 века? СПб., 1910; Баранаўскас Т. Месца каранацыі Міндоўга // Спадчына. № 5-6. 2002 (150). С. 26–31; Baranauskas T., Zabiela G. Mindaugo dvaras Latava // Lietuvos istorijos metraštis. 1997 metai. Vilnius, 1998. P. 21–40.

[120] Gudavičius E. Polityczny problem Królestwa Litewskiego w połowie XIII w. // Ekspansja zakonów rycerskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XIV wieku. Toruń, 1990. S. 69; idem. Mindaugas. Vilnius, 1998. S. 237; idem. Lietuvos istorija. T. 1. Vilnius, 1999. S. 55.

[121] Urkundenbuch der ehemals freien Reichsstadt Mühlhausen in Thüringen / Bearb. Von K.Herquet. Halle, 1874. S. 63. Nr. 170.

[122] Thuringia sacra sive historia monasteriorum, quae olim in Thuringia floruerunt... Francoforti, 1737. P. 896–897.

[123] Monumenta Germaniae historica. Scriptores. T. 23. 1874. P. 547.

[124] Anzeiger für Kunde der teutschen Vorzeit / Hrsg. von F.J.Mone. 4-er Jahrgang. 1835. Sp. 141.

*Licovie*[125], *de Lecovie ou Luccorie* (sic!)[126], *de Lytouga*[127]. Вядомы дасьледнік гісторыі асобаў Нямецкага ордэну Д.Вайтэцкі на падставе вывучэньня тагачасных дакумэнтаў атаесамляе яго з ордэнскім прэзьбітэрам Хрысьціянам фон Кірхбэрг, які ў 1246 г. засьведчаны ў Мюльгаўзэне (Турынгія), і лічыць, што ён паходзіў з старэйшай галіны трэцяга пакаленьня зьбяднелага графскага роду фон Кірхбэрг, быў адным зь сямі сыноў графа Госмара I фон Кірхбэрг. Родавым гняздом Кірхбэргаў быў аднайменны замак на схілах гораў Гайнляйтэ ў Турынгіі, які ўжо ў 1230-х гадох перайшоў да іншых уладальнікаў. Да Нямецкага ордэну належаў таксама брат Хрысьціяна Герман, які ўлучаны ў лік сьведкаў дак. I.11. Астатнія сыны – Фрыдрых III, Генрых II, Зігфрыд, Рудольф і Вэрнэр займалі розныя сьвецкія і духовыя (два апошнія) пасады. Дзядзька Хрысьціяна Фрыдрых II быў біскупам Гальбэрштадту (1209–1236)[128]. Нямецкі навуковец К. Віль даводзіць на падставе актаў Майнцкага капітулу сьв. Пятра, што Хрысьціян мог выхоўвацца ў Майнцы, і лічыць яго аўтарам Майнцкай кронікі (Chronicon Maguntinum)[129]. Пра тое, што будучы біскуп меў неабходныя для гэтага талент і адукацыю, сьведчыць адзін з папскіх лістоў (дак. II.8), дзе ён характарызуецца як "муж вельмі адукаваны, разважлівы і дасьведчаны".

Як вынікае з дак. II.8, II.18, прэзьбітэр Нямецкага ордэну Хрысьціян увайшоў у дачыненьні зь Міндавам яшчэ да ягонага хросту і актыўна спрыяў навяртаньню караля. Гэта дазваляе вызначыць час прыбыцьця прэзьбітэра ў Літовію прыблізна пэрыядам паміж 1249 і 1251 гадамі. У 1253 г. Хрысьціян быў афіцыйна пастаўлены папам Інацэнтам IV і кансэкраваны на біскупа. Але ўжо ў 1254–1255 гадох ён сутыкнуўся з пэўнымі праблемамі: супрацьдзеяньнем з боку незычліўцаў сярод падданых караля і варажнечаю паганцаў (дак. II.8). Сярод іншых, магчыма, і гэтыя прычыны змусілі біскупа саступіць у красавіку 1254 г. дзесяціну з падараваных каралём земляў у Жамойці Нямецкаму ордэну (дак. I.11). Складаныя нутраныя і вонкавыя ўмовы не спрыялі разьвіцьцю касьцельных структураў. Тым ня менш Хрысьціян рабіў пэўныя захады ў гэтым кірунку. У сваёй дыяцэзіі ен ужо меў ці зьбіраўся мець не названага па імю архідыякана і капэляна Яна Базо, былога каноніка Курляндзкага біскупа. Наяўнасьць Яна Базо можа сьведчыць пра пляны заснаваньня капітулу, якога, паводле дак. II.20, яшчэ не было. Ня выключана, што пад прыведзеным вышэй выразам *de Lytouga* хаваецца назоў населенага пункту, дзе разьмяшчалася біскупская сядзіба Хрысьціяна, а магчыма, і рэзыдэнцыя караля, менавіта в. Літоўка (за 4 км на поўнач ад Наваградку), якая фіксуецца ў самых раньніх кірылічных дакумэнтах Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага[130].

Рэалізаваць свае задумы біскуп Хрысьціян, відаць, ня змог, бо ўжо ў 1257 г. вярнуўся ў Нямеччыну, спачатку ў якасьці дапаможнага біскупа Кёльнскай архідыяцэзіі. У 1259 г. ён выконваў тыя ж абавязкі ў Мюнстэры, а затым з 1260 г. у Майнцкай архідыяцэзіі, дзе дакумэнтальна фіксуецца таксама ў 1262, 1267, 1269 гг. У гэты час ён не забываецца і на сваю

---

[125] Codex diplomaticus Moenofrancofurtanus. Urkundenbuch der Reichsstadt Frankfurt / Hrsg. Von J.F.Boemer. Theil 1. Frankfurt am Main, 1836. S. 127.

[126] Histoire ecclesiastique d'Allemagne. T. 1. Bruxelles, 1724. P. 361.

[127] Koch A. Die Erfurter Weihbischöfe // Zeitschrift des Vereins für thüringische Geschichte und Altertumskunde. Nr. 6. 1865. S. 65.

[128] Wojtecki. S. 148–150.

[129] Will. S. 367–387. Гл. таксама бел. пер.: Віль К. Пра аўтара Майнцкай хронікі // Наша вера. 2003. № 2 (24). С. 45–49; № 3 (25). С. 22–25.

[130] НГАБ. Мэтрыка. Спр. 6. Арк. 135; Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21: Книги Литовской метрики. М., 1915. С. 44. Падрабязьней гл.: Жлутка А. Кароль Міндоўг і яго дзяржава ў дакумэнтах папскай курыі XIII ст. // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 4. Мн., 2003. С. 199.

"малую радзіму" ля Эрфурту, а дакладней – у Грос-Рудэштэдце. 30 чэрвеня 1260 г. Хрысьціян фундуе ў эрфурцкім кляштары Найсьвяцейшай Панны Марыі свой штогадовы ўспамін з сродкаў ад уласнай маёмасьці ў Грос-Рудэштэдце. Яго асоба засьведчаная ў Эрфурце таксама ў 1263 г., а ў 1267 г. – у кляштары Георгенталь (на паўднёвы ўсход ад Эрфурту). Памёр біскуп Хрысьціян, згодна з Нэкралёгам эрфурцкага кляштару Найсьвяцейшай Панны Марыі, 9 лютага, найверагодней, у 1270 г., бо 3 сьнежня 1271 г. згадваецца ўжо з дадаткам bone memorie (добрай памяці)[131].

**Replen, Gerstuthen, Parbsen**

Параўнаньне формаў, пададзеных у лісьце іменаў з формамі тых жа іменаў у летапісах (*Репекья* – Іпацеўскі летапіс) і кроніках (*Parnus* – Лівонская рыфмаваная кроніка), а таксама ў іншым лісьце Міндава (*Parbusse* – дак. 1.9), у якіх адсутнічае канцавы элемэнт *-n*, дазваляе меркаваць, што гэтае *-n* зьявілася тут, магчыма, пад уплывам нямецкай графіі. Пар. ст.-ням. і лацінскія напісаньні славянскіх іменаў, ужываных у нямецкіх уладаньнях: Boreš: *Borsen* (1348), *Borso* (1350); Telek: *Telken* (1354); Boris, Vęcemysł: *Borisen et Vezemuisclen* (1012)[132]. Таму ў лацінскім напісаньні выпадае ўзнавіць формы іменаў, прыведзеных у дакумэнце, адкінуўшы канцавое *-(e)n*, прыкладна як *Rep(e)l(e), Gerstutth(e), Parb(u)s(se)* або ў тагачасным кірылічным напісаньні як *Реп(е)ль* ці *Репля, Герстутъ, Парб(у)сь.*

Першае імя можа быць з суфіксальным элемэнтам *-k-* (*Репекья*) ці *-l-* (*Repl(en)*) і мае поўныя і частковыя (зь іншымі фармантамі, але ад той жа асновы) адпаведнікі ў славянскіх іменасловах. Пар., напр., дольналуж. *Rěpik*[133], усходнеслав. *Репа, Репня, Репуй, Репич, Реповичъ*[134]. Фіксуюцца і ўласнабеларускія формы: *Рэпа, Рэпік, Рэпікаў, Рэпчык, Рэпіч*[135]. На тэрыторыі Беларусі засьведчаныя таксама тапонімы з той жа асноваю: фальварак і ўладаньне *Рэпля (Repla)*[136] у Ваўкавыскім павеце і вёска *Рэпічы* ў сёньняшнім Баранавіцкім раёне. Т.Нарбут згадваў яшчэ ўладаньне *Рэпікаў (Repikow)* у Наваградзкім павеце[137].

Усе гэтыя формы тлумачаць як вытворныя ад асновы апэлятыву "рэпа" (прасл. rěpa) з дапамогаю адпаведных антрапонімных суфіксаў. Такім чынам, словаўтваральную структуру імя каралевіча можна ўявіць як: *Rep-ek, Rep-(i)k* ці *Rep-l(a), Rep-(e)l.*

Імя *Gerstutth(e) (Герстут* ці *Ерстут)* мае адпаведнікі з гледзішча матывавальнай асновы, напр., у польск. і дольналуж. антрапонімах тыпу: *Jeresz, Jerasz / Jarasz, Jerost / Jarost, Jerusz / Jarusz, Jerota / Jarota*[138]; *Jěrš: Jersch, Jiersch, Giersch*[139]. Пар. яшчэ запісы тых жа формаў на славянскіх тэрыторыях Нямеччыны: *Jeruš: Gerus* (1304), *Jerus* (1353), *Jerusz* (1359); *Jereš: Geres* (1196)[140]. Усе гэтыя формы – гіпакарыстыкі ад двухчленнага славянскага імя тыпу *Jaro-slaw, Jaro-mir*. Пар. нямецкія запісы гэтага імя: *Gerozlaus* (1244), *Jerezlaus* (1249), *Gerzlaus* (1249)[141].

[131] Wojtecki. S. 151.
[132] Schlimpert. S. 11, 49, 51.
[133] Muka. III. S. 90.
[134] Тупиков. С. 346, 723.
[135] Бірыла. 2. С. 359.
[136] SGKP. T. IX. S. 620.
[137] Narbutt. Dzieje. T. IV. S. 217.
[138] Malec. S. 69.
[139] Muka. III. S. 46.
[140] Schlimpert. S. 26, 69.
[141] Ibidem. S. 25.

Беручы пад увагу гэтыя адпаведнікі, імя ў дакумэнце можна тлумачыць як форму, утвораную ад першага члена двухчленнага славянскага імя з дапамогаю антрапонімных суфіксаў першай і другой ступені: *Jer(o)- (slav) > Jer-st-ut (Gerstut)*. Як вынікае зь зьместу дакумэнту, гэта імя аднаго з сыноў Міндава. Антрапонім выконваў хутчэй за ўсё функцыю першага імя, а другое было, відаць, адапэлятыўным утварэньнем, зафіксаваным у Іпацеўскім летапісе ў форме *Рукля*. Другое імя мае поўныя адпаведнікі сярод славянскіх антрапонімаў. Пар. рас. *Рукуля* (1495)[142], бел. *Рукля Іван* (1580–1588)[143]. Засьведчаныя крыніцамі і беларускія прозьвішчы з той жа асноваю: *Рукаль, Руколь, Руклец, Руклянскі*[144]. Усе гэтыя варыянты ўтвораныя ад апэлятыву "рука" з дапамогаю суфіксу з зычным элемэнтам *-l-*, пашыранага адпаведнымі галоснымі. Ад таго ж апэлятыву і з тым жа суфіксам утворанае і імя каралеўскага сына: *Ruka > Ruk-(a, -e)l(a)*. Каранёвая аснова антрапоніму прысутнічае таксама ў імёнах *Рука* (1609, Слонімшчына) і *Ручка* (1665)[145]. Такім чынам, сын Міндава мог мець падвойнае імя, якое ў сучасным беларускім напісаньні належала б перадаваць як *Ерстут (Герстут) Рукля (Рукель, Рукаль)*.

Няпэўнасьць формы (*Parbus(se)* ці *Parnus*) апошняга імя змушае ўстрымацца на дадзеным этапе ад яго інтэрпрэтацыі, хоць можна назваць магчымыя славянскія адпаведнікі да другога яго варыянту, гэткія як: *Parnach, Parnak*[146], *Пара, Parech, Паричикъ*[147].

**Дак. I.9**

**Langwinus**

Гэтая ж асоба згадваецца ў Іпацеўскім летапісе пад 1247 г. як *Лонъкогвени* (*Лонъкгвени*)[148], а ў Лівонскай рыфмаванай кроніцы як *Lengewin*[149]. Пазьней такое імя, але ў крыху іншым напісаньні, сустракаецца ў летапісных паведамленьнях, якія датычаць асобаў зь вялікакняскага роду. Пісаліся яны як *Лугвеній*[150] ці *Лугвень*[151]. Апошнія формы супастаўныя з імёнамі людзей зь іншых усходнеславянскіх земляў: *Лугота* (*Овъстратов* – ноўгарадзец, 1215)[152], *Луготинич* (*Костянтин* – ноўгарадзец, 1240), *Лугвица* (*Андрей Васильевич* – суздальскі князь, 1445)[153], *Луговка* (XV ст.)[154], *Луговец* (*Иван Микитич* – магілевец, 1655)[155]. Усе гэтыя формы выпадае лічыць суфіксальнымі дэрыватамі ад апэлятыўнай асновы луг- (*lugъ* < прасл. **lǫgъ*). Імя, прыведзенае ў дакумэнце Міндава, у Іпацеўскім летапісе і Лівонскай рыфмаванай кроніцы, пішацца з *-n- (-н-)* у аснове. Гэта можа сьведчыць пра рудымэнтарнае захаваньне ў часы

---

142 Тупиков. С. 311.
143 Беларусь у актавых кнігах XVI–XVIII ст. Магілёўскі магістрат 1580–1581, 1588. Вып. I. Мн., 1999. С. 98.
144 Бірыла. 2. С. 354.
145 Тупиков. С. 311, 343.
146 Muka. III. S. 80.
147 Морошкин. С. 148.
148 ПСРЛ. Т. 2. М. 1968. Ст. 798.
149 LR. S. 63, v. 2721 et passim.
150 ПСРЛ. Т. 7. С. 256.
151 ПСРЛ. Т. 4. С. 92; Т. 5. С. 239; Т. 8. С. 51 ды інш.
152 ПСРЛ. Т. 3. С. 33; Т. 4. С. 20.
153 ПСРЛ. Т. 5. С. 268; Т. 6. С. 170; Т. 8. С. 112.
154 Веселовский. С. 185.
155 Тупиков Н.М. Словарь... С. 232.

Міндава насавога ǫ пры вымаўленьні некаторых антрапонімаў як больш кансэрватыўнага пласта лексыкі. Апрача таго, магло ўплываць таксама ўжываньне сярод хрысьціянскай часткі насельніцтва сугучнага хроснага імя лацінскага паходжаньня *Лонгін*[156]. Пазьнейшая графія імя – *Лугвень* ужо не фіксуе сьлядоў захаваньня магчымай назалізацыі, а наадварот, сьведчыць пра страту апошняй. Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што антрапонім утвораны ад асновы апэлятыву *lugъ* (< прасл. **lǫgъ*) з дапамогаю фарманту першай ступені *-(o)v-* і фарманту другой ступені з суфіксальным элемэнтам *-n-*. Пар. яшчэ, напр., пазьнейшы беларускі антрапонім *Лугвін*[157].

### Bune

Імя мае поўныя адпаведнікі ў шэрагу славянскіх моваў: *Бун*[158], *Бунъ, Бунь, Вuno*[159]. Пар. таксама [бел.] *Бунец, Буневіч*[160]; рас. *Бунко* (1534), *Буня* (1498), *Бундо* (1498)[161]. Форма лічыцца гіпакарыстыкам ад двухчленнага імя *Бунислав*[162], *Bunislav*[163].

### Gerdine

Пад гэтым імем тут, відавочна, фігуруе будучы Полацкі князь. Ён згадваецца ў шэрагу летапісных паведамленьняў як *Гердень* (*Гердении, Гордении, Ердень*)[164]. Імя мае поўныя адпаведнікі ў славянскіх мовах. Пар., напр.: ст.-польск. *Gerdin* (1445), *Gerden* (1471), *Girden* (1460)[165]; ст.-чэск. *Gridon* (1029), *Gherdon* (1186), *Hyrdon* (1205)[166]; серб. *Gerdanus* (1278–1301)[167]. Гэтая форма – гіпакарыстык ад двухчленнага імя *Гердобор, Gerdobor*[168]. Пар. яшчэ чэск. запісы *Grdibor* (1107), *Grdebor* (1125), *Girdebor* (1140), *Hirdebor*, *Herdebor* (1212), *Hordebor* (1217)[169].

### Vesegele

Гэтую форму, магчыма, трэба суаднесьці з варыянтамі імя каралевіча Войшалка: *Вошелегъ*, *В(ъ)шелегъ*[170] у Сафійскім, а таксама *Воишеглъ*[171], *Въишеглъ*[172] – у пскоўскіх летапісах, дзе назіраем перастаноўку ў напісаньні суфіксаў *-г-* (= *-к-*) і *-л-*, тым часам як у Ноўгарадзкім першым

[156] ПСРЛ. Т. 4. С. 255, 318.
[157] Бірыла. 2. С. 257.
[158] Грковић. С. 48.
[159] Морошкин. С. 30.
[160] Бірыла. 2. С. 68.
[161] Веселовский. С. 54.
[162] Грковић. С. 48.
[163] Malec. S. 66.
[164] ПСРЛ. Т. 3. С. 59; Т. 4. С. 40; Т. 5. С. 192–193; Т. 7. С. 165–167 ды інш.
[165] SSNO. T. 2. Zesz. 1. S. 100.
[166] Bogala. S. 66.
[167] Историски споменици Дубровачког архива. Сер. 3. Св. 1. Канцelariски и нотариски списи 1278–1301. Собр. Чремошник Г. // Зборник за историју, језик и књижевност српског народа. Отд. 3. Споменици среднег века. Кн. 1. Београд, 1932. С. 18.
[168] Пачичъ. С. 42.
[169] Bogala. S. 66.
[170] ПСРЛ. Т. 5. Спб., 1851. С. 192.
[171] ПЛ. Вып. 1. С. 13.
[172] ПЛ. Вып. 2. С. 16.

летапісе ў тых жа формах захоўваецца звычайны парадак: *Воишелгъ, Въишелгъ*[173]. У Іпацеўскім летапісе таксама аднаго разу сустракаем графічны варыянт з канцавым *-гъ*: *Вышелгъ*, хоць адразу ж пасьля яго бачым і варыянт з *-къ*: *Вышелкъ*[174]. У далейшым цягу таго ж летапісу шмат разоў паўтараюцца толькі формы з *-къ*: *Воишелкъ і Вошелкъ*[175]. Форму, блізкую да прынятага ў нашай гістарычнай літаратуры напісаньня, падаюць польскія кронікі: *Voysalk, Woysalk*[176]. Летапісы Вялікага Княства Літоўскага фіксуюць яшчэ варыянты: *Войселк, Войселок, Войселко*[177]. Пар. варыянты ў розных сьпісах Ноўгарадзкага чацьвертага і пятага летапісаў: *Воишелкъ, Воишелко*[178], *Воишолкъ*[179]. У адным зь сьпісаў Ноўгарадзкага чацьвертага летапісу сустракаецца таксама форма без канцавога *-къ*: *Воишелъ*[180]. Усе пададзеныя формы антрапоніму дазваляюць сцьвярджаць яго паходжаньне ад двухчленнага імя тыпу *Воиславъ, Воитехъ* (*Voislav, Voitech*)[181] шляхам даданьня да ўтваральнай асновы *Voi-* ці *Vois-* фармантаў 1–3 ступеняў *-š-*, *-e(-o)l-*, *-(e,-o)k(o)*. Як бачым, суфіксальныя элемэнты *-l-* і *-k-* могуць пашырацца галоснымі *-e-*, *-o-*. Ад той жа асновы ўтвораныя таксама ст.-польск. *Wojsza, Wojszek*[182] і бел. *Война, Вайшэвіч*[183]. Тое, што ў імі каралевіча мы маем справу з той жа асноваю, пераконваюць ст.-польск. формы *Woslaw*, *Wociech*[184], *Votek*[185], *Wocik*[186], *Wosz*[187], дзе ў ёй засьведчанае гэткае ж выпадзеньне *-j*, як *-и-(=й)* у форме *Вошелкъ*. Варыянт з *-ы-* ў аснове: *Вышелкъ*, магчыма, трэба суаднесьці з запісамі аднаго і таго ж двухчленнага імя з той жа асновай: *Vojslav* і *Vizlaw*[188]. Апрача іншага, на гэта магла ўплываць таксама наяўнасьць гіпакарыстыкаў ад блізкага гучаньнем двухчленнага імя *Вышеславъ*, накшталт *Wyszek*, *Wyszel (*пар.: *Воишелъ)*, *Wyszotk*[189] ды інш. Імя *Воиславъ* фіксуецца ў летапісах прынамсі з 1220 г.[190] Апрача таго, згадваюцца іншыя антрапонімы з тым жа першым членам *Воигость* (1115)[191], *Воиборза* (1268)[192]. Поўнае двухчленнае імя сына Міндава падае пад 1267 г. адна з польскіх кронік у паведамленьні: Dux Leo filius Danielis regis Rusie occidit *Woyslaum* filium Mendogi ducis Lithwanorum[193] (Князь Леў, сын караля Русі Данілы, забіў *Войслава*, сына караля літвянаў Мендака).

---

[173] НПЛ. С. 84, 313.
[174] ПСРЛ. Т. 2. М., 1968. Ст. 847.
[175] Тамсама. Ст. 868 ды ў інш. месцах.
[176] MPH. Т. 2. Lwów, 1872. S. 808; Т. 3. Lwów, 1878. S. 133, 363.
[177] ПСРЛ. Т. 32. С. 26–31, 209–210.
[178] ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Вып. 1. Пг., 1915. С. 234.
[179] Тамсама. С. 225.
[180] Тамсама. С. 234.
[181] Гл.: Морошкин. С. 45–46; Malec. S. 77–78; Грковић. С. 56–57.
[182] Malec. S. 78; SSNO. T. 6. Zesz. 1. S. 178.
[183] Бірыла. 2. С. 89.
[184] SSNO. T. 6. Zesz. 1. S. 162, 176.
[185] Морошкин. С. 46.
[186] Malec. S. 78.
[187] SSNO. T. 6. Zesz. 1. S. 201.
[188] Морошкин. С. 45.
[189] Malec. S. 78.
[190] Гл., напр.: ПСРЛ. Т. 7. С. 127–128.
[191] ПСРЛ. Т. 3. С. 4, 123; Т. 4. С. 1.
[192] ПСРЛ. Т. 3. С. 60; Т. 4. С. 41.
[193] MPH. Т. 2. Lwów, 1872. S. 840.

**Дак. II.15**

**Vitus**

Віт, біскуп Літовіі (*Vitus episcopus Litovie*, у іншых крыніцах – *episcopus Littoviensis, Litoviensis, Lithoviensis, Lythoviensis, Lithiviensis, Lithomiriensis, Luthomiriensis*[194], а таксама – *episcopus Lubozanus, Lubuzanus, Lumbozanus, Lubuzensis, Lubusensis, Lubucensis, Lubecensis*[195]), з Ордэну дамініканцаў, быў пастаўлены і кансэкраваны ў адзін год з Хрысьціянам. Паходзіў хутчэй за ўсё з славянскіх краёў – Чэхіі, Маравіі, Польшчы ці Палаб'я, земляў, дзе быў пашыраны культ сьв. Віта[196]. Даўняя традыцыя Польскай дамініканскай правінцыі лічыць яго вучнем сьв. Яцка. Ня выключана, што пропаведзь Віта на беларускіх землях была працягам ці адгалінаваньнем місіі сьв. Яцка ва Украіне. Магчыма, пра неспрыяльныя акалічнасьці, зьвязаныя з гэтай дзейнасьцю, Віт паведамляў у сваім лісьце да папы: "De christianorum in Lithonia (= Lithovia) conditione deplorabili ad sanctissimum et beatissimum patrem dominum Innocentium papam quartum, fratris Viti de Ordine praedicatorum episcopi Litoniensis (=Litoviensis) epistola" (Ліст брата Віта з Ордэну прапаведнікаў, біскупа Літовіі, да найсьвяцейшага і бласлаўлёнага айца пана папы Інацэнта чацьвертага пра гаротны стан хрысьціянаў у Літовіі)[197], копія якога захоўвалася ў Кракаўскім дамініканскім кляштары да пажару 1850 г., калі згарэла кляштарная бібліятэка.

Віт быў пасьвячаны на біскупа Літовіі Гнезьненскім біскупам Пэлкам ва ўладаньні Мазавецкага князя Земавіта – вёсцы Казлове ля Сахачава ў канцы 1253 г.[198], пасьля Хрысьціяна, у кожным разе не раней за 1 лістапада 1253 г. і не пазьней за 8 траўня 1254 г.[199] Да кансэкрацыі мусіў мець дачыненьне Кульмскі біскуп Гайдэнрык, бо менавіта ён меў адпаведныя паўнамоцтвы на гэта, дадзеныя лістом папы Інацэнта IV яшчэ ў 1251 г. (дак. II.5). У памянёным лісьце, аднак, ставілася ўмова, каб кароль спачатку вызначыў неабходны надзел для заснаваньня біскупскага касьцёлу, упасажыў яго адпаведнымі дарэньнямі і дазволіў біскупу наведаць дыяцэзію. Гэтая акалічнасьць дае падставы меркаваць, што кансэкрацыя, бадай, не магла адбыцца бяз згоды караля, а тым больш безь ягонага ведама, і што біскуп мусіў мець яшчэ да пасьвячэньня калі не касьцёл, то пэўнае месца для біскупскай сядзібы. Зусім верагодна, што ў азначэньнях тыпу *Lubozanus, Lubuzensis, Lubusensis, Lubucensis, Lubecensis* хаваецца назоў населенага пункту, а менавіта мястэчка Любчы (Любеча) на Наваградчыне, дзе магла разьмяшчацца біскупская рэзыдэнцыя Віта. Лацінскае напісаньне цалкам адэкватна перадае гучаньне тапоніму: корань *люб-* (*lub-*) і суфікс *-(е)ч-*, які перадаецца лацінскімі літарамі *z, s, c*. Думка пра тое, што біскупскай рэзыдэнцыяй Віта магла быць беларуская Любча, выказвалася шэрагам навукоўцаў[200]. Толькі такое атаясамленьне памянёных азначэньняў падаецца адзіна верагодным. Ранейшыя сьцьвярджэньні, што Віт быў біскупам Любускім ці Любэцкім, ня маюць пад сабою падставаў, бо тады на чале гэтых дыяцэзіяў стаялі іншыя асобы[201]. А ў адным

[194] Paszkiewicz. T. 1. P. 55, nr. 276; p. 57, nr. 287; p. 68, nr. 343; p. 69. nr. 349; p. 76, nr. 379; p. 79, nr. 394; p. 81, nr. 404; p. 99, nr. 481, 482; MPH. Ser. II. T. 8. Kronika wielkopolska (Chronica Poloniae Maioris). Warszawa, 1970. S. 101.
[195] MPH. T. 4. Lwów, 1884. S. 808–809, 898.
[196] Kielar. S. 540–541.
[197] Wiszniewski M. Historia literatury polskiej. T. 2. Kraków, 1850. S. 158–159.
[198] MPH. T. 2. Lwów, 1872. S. 572; T. 3. Lwów, 1878. S. 22; MPH. Series nova. T. 6. Warszawa, 1962. S. 33; T. 8. Warszawa, 1970. Ser. II. S. 100.
[199] Szweda A. Problem biskupa litewskiego Wita // Komunikaty Mazursko-Warmińskie. 2002. Nr. 3 (237). S. 329.
[200] Narbutt T. Pisma. S. 32–34; Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. Petersburg, 1860. S. 3–4; Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1921. S. 21; Woroniecki J. Św. Jacek Odrowąż i wprowadzenie zakonu kaznodziejskiego do Polski. Katowice, 1947. S. 183; Dainauskas J. Vilniaus vyskupijos istorijos bruožai // Lietuvos bažnyčios. Churches of Lithuania. T. 5. Chicago, 1985. S. 23–24.
[201] Kielar. S. 547.

з дакумэнтаў тагачасны Любускі біскуп згаданы разам зь Вітам[202]. Падаецца неверагодным і меркаваньне, што названыя азначэньні ёсьць скажэньнем формы *Litoviensis*, бо яны паўтараюцца і ў творы правінцыяла Сэвэрына Любомльскага (але зь іншай графіяй суфіксу)[203], напісанага ў сувязі з працэсам кананізацыі сьв. Яцка і заснаванага на ранейшых крыніцах. Цяжка дапусьціць, каб падобнае скажэньне было прынятае дамініканскім правінцыялам Польшчы без усялякіх засьцярогаў, тым больш што ад самага пачатку супольнага культу Яцка і Віта апошні шанаваўся як апостал Літвы і яе пакутнік.

Ліст Віта да папы, які датуюць апошнім годам жыцьця Інацэнта IV – 1254-м, і яго просьба пра звальненьне з пасады біскупа Літовіі, задаволеная ўжо Аляксандрам IV 1 сакавіка 1255 г. (дак. II.5), сьведчаць пра перашкоды ў ягонай біскупскай дзейнасьці. Мяркуюць, што перашкоды чыніліся з боку Нямецкага ордэну, а магчыма і караля. Пазьнейшыя крыніцы і дамініканская традыцыя сьцьвярджаюць, што Віт быў прагнаны з сваёй дыяцэзіі і нават паранены[204]. Гэта магло здарыцца неўзабаве пасьля пасьвячэньня, калі ён выправіўся ў сваю дыяцэзію, бо 8 траўня 1254 г. ён апынуўся ў Кракаве, дзе быў прысутны на ўрачыстасьцях пераносу рэліквіяў сьв. Станіслава[205]. Пазьней, з 1257 г., ён зьяўляецца ў Чэхіі, Маравіі, Сілезіі і Польшчы. 29 верасьня 1257 г. былы Літоўскі біскуп Віт даў адпуст спачатку ў францішканскай капліцы ў Клодзку (у Сілезіі, на мяжы з Маравіяй)[206], а потым, таго ж году, – у дамініканскім кляштары ў Оламаўцы (Маравія)[207]. У 1259 г. ён даў гэткі ж прывілей у дамініканскай сьвятыні ў Брне (Маравія)[208], а ў 1260 г. – у парафіяльным касьцёле ў Шпротаве (Сілезія)[209]. 29 чэрвеня 1262 г. біскуп Віт разам зь Любускім біскупам Вільгельмам пасьвяціў новы прэзьбітэрый Пазнанскай катэдры ды даў зьвязаны з гэтым адпуст[210], і ў тым жа годзе 5 лістапада даравау адпуст таксама ў касьцёле сьв. Міхала ў Вроцлаве. Нарэшце, 20 красавіка 1263 г. ён кансэкраваў сьвятыню ў Глувнай[211]. Пасьля гэтай даты дакумэнтальныя сьведчаньні пра ягоную дзейнасьць адсутнічаюць. Рэшту жыцьця біскуп Віт правёў хутчэй за ўсё ў кракаўскім канвэнце дамініканцаў, дзе і быў пахаваны ў іхным касьцёле Сьвятой Тройцы побач зь сьв. Яцкам. Сёньня яго труна знаходзіцца ў сьценным алтары капліцы сьв. Крыжа. Кракаўскі дамініканскі нэкралёг дае дату сьмерці – 24 траўня. Год сьмерці невядомы, хоць пазьнейшыя дамініканскія гадавікі падаюць 1269 г. Прынамсі ў гэтым годзе ён згадваецца ўжо як памерлы[212].

Адразу пасьля сьмерці стаў пашырацца культ Віта ў лучнасьці з культам Яцка Адрованжа. Ужо пад 1269 г. яны называюцца ў "Жыцьці сьв. Яцка" сьвятымі, а пазьней таксама – благаславёнымі ці сьвятымі. Пасьля кананізацыі сьв. Яцка ў 1594 г. рабіліся захады і для кананізацыі Віта, але яна не адбылася з розных прычынаў [213]. Шанаваньне біскупа Віта як сьвятога пратрывала ледзь не да нашых часоў.

---

[202] MPH. T. 3. Lwów, 1878. S. 34.
[203] MPH. T. 4. Lwów, 1884. S. 888.
[204] Kielar. S. 548. Гл. таксама: Bzovius A. Propago d. Hyacinthi thaumaturgi Poloni. Venetiis, 1606. P. 16; Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticarum in Magno Litvaniae Ducatu pertinentium, collecta ab A.W.Kojałowicz. Vilnae, 1650. P. 1.
[205] MPH. Series nova. T. 6. S. 34; T. 8. S. 101.
[206] Prokop. S. 344.
[207] CDB. T. 5. Fasc. I. Pragae, 1962. P. 228, nr. 142.
[208] Ibidem. P. 325, nr. 307.
[209] Prokop. S. 345.
[210] MPH. Series nova. T. 6. S. 45–46.
[212] MPH. Series nova. T. 6. S. 46.
[213] Kielar. S. 549–550.

## Appendices
## Дадаткі

У дадатках даецца кароткі агляд выкарыстаных у выданьні транссумптаў, храналягічны сьпіс дакумэнтаў паводле адрасантаў, incipit і explicit паказальнікі папскіх лістоў.

Транссумпты пададзеныя і пранумараваныя ў храналягічным парадку, а дакумэнты, якія ўвайшлі ў іх – у парадку ўпісаньня. Пры характарыстыцы транссумпту падаюцца зьвесткі пра месца яго захаваньня і архіўны шыфр, дату складаньня, імя і пасаду натарыя і заказчыка, затым у парадку ўпісаньня разглядаюцца зьмешчаныя ў ім дакумэнты з паданьнем рэгесту, даты і парадкавага нумару ў круглых дужках.

Храналягічны сьпіс дакумэнтаў паводле адрасантаў падзяляецца на тры групы: духовыя і сьвецкія ўладцы Літовіі, Рымскія папы, іншыя. У межах кожнай групы ў храналягічным парадку пералічваюцца дакумэнты з паданьнем парадкавага нумару ў выданьні і даты.

### I. Transsumpta, in hac editione adhibita
### Транссумпты, выкарыстаныя ў гэтым выданьні

1. GStAPK, Schiebl. XI. nr. 7 – 1352 сак. 7 у Рызе, натарыя Вульфарда фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Госвіна фон Герыкэ:
   1) Біскуп Хрысьціян саступае ордэнскім братом дзесяціну зь земляў, падараваных Нямецкаму ордэну Міндавам – 1254 крас. 6 (дак. I.11)
   2) Папа Аляксандар IV зацьвярджае Нямецкаму ордэну дзесяціну, саступленую біскупам Хрысьціянам Нямецкаму ордэну – 1260 ст. 25 (дак. II.20)

   Пра пячаць біскупа Хрысьціяна сказана: integro et illeso in filis sericeis rubeis et glaucis permixtis.
   Пра булу папы Аляксандра IV: cum vera bulla plumbea in filis rubeis et glaucis sericeis.

2. GStAPK, Schiebl. XI, nr. 11 – 1352 сак. 7 у Рызе, натарыя Вульфарда фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Госвіна фон Герыкэ:
   1) Кароль Міндаў дарує Нямецкаму ордэну розныя зямельныя ўладаньні – 1257 (дак. I.6)
   2) Папа Інацэнт IV зацьвярджае дарэньне (1253) Міндавам розных земляў майстру і братом Нямецкага ордэну – 1253 жн. 21 (дак. II.9)

   Пра пячаць караля Міндава сказана: sigillo integro et illeso in filis sericeis rubeis permixtis.
   Пра булу папы Інацэнта IV: cum vera bulla plumbea in filis sericeis glaucis et rubeis

3. GStAPK, Schiebl. XI, nr. 13 – 1352 сак. 7 у Рызе, натарыя Вульфарда фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Госвіна фон Герыкэ:
   Кароль Міндаў дарує Нямецкаму ордэну розныя землі – 1259 жн. 7 (дак. I.8)

   Пра пячаць Міндава сказана: sigillo integro et illeso in filis sericeis rubeis

4. GStAPK, Schiebl. XI, nr. 8 – 1352 сак. 31 у Рызе, натарыя Вульфарда фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Госвіна фон Герыкэ:
   Кароль Міндаў уводзіць у дзяржаньне зямельнымі ўладаньнямі ў Жамойці і ўпасажвае біскупа Хрысьціяна – 1254 сак. 12 (дак. I.3)

Пра пячаць караля Міндава сказана: cum vero suo sigillo integro et illeso in pressula pergameni appendenti.

5. ASV, Reg.Vat. 311, f. 27 – Коп. транс., зробленага 1358 крас. 11 у Рызе натарыем Вульфардам фон Бурэн на запатрабаваньне Лівонскага майстра Госвіна фон Герыкэ, унесеная ў рэгістры папы Урбана VI:
1) Папа Інацэнт IV вызваляе біскупа Хрысьціяна ад прысягі арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі – 1254 вер. 3 (дак. II.11)
2) Папа Інацэнт IV даручае Наўмбурскаму біскупу ўзяць ад Хрысьціяна прысягу вернасьці папу і Касьцёлу – 1254 вер. 3 (дак. II.12)

Пра папскія булы сказана: veris bullis plumbeis.

6. GStAPK, Schiebl. IV, nr. 38a – 1386 жн. 27 у Рызе, натарыя Вальдэмара дэ Гаўэсфардэн на замову Лівонскага майстра Робіна фон Эльч:
1) Папа Інацэнт IV зацьвярджае дарэньне Міндавам (1253) розных земляў майстру і братом Нямецкага ордэну – 21 жн. 1253 (дак. II.9)
2) Папа Інацэнт IV зацьвярджае братом і майстру Нямецкага ордэну валоданьне Селёніяй ды іншымі землямі – 23 тр. 1254 (Bunge. I. sp.351, nr. 269).
3) Папа Аляксандар IV зацьвярджае дарэньне Селёніі (1255 каст.) Нямецкаму ордэну, учыненае каралём Міндавам – 1257 ліп. 13 (дак. II.19)

Пашкоджаньні пэргаміну (плямы і дзіркі).
Пра папскія булы сказана: veris et integris bullis.

7. GStAPK, Schiebl. Ш, nr. 61 – 1388 тр. 26 у Рызе, натарыя Мікалая Глецэры, клерыка Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага майстра Робіна фон Эльч:
1) Папа Інацэнт IV зацьвярджае дарэньне (1253) Міндавам розных земляў майстру і братом Нямецкага ордэну – 21 жн. 1253 (дак. II.9)
2) Папа Інацэнт IV паведамляе каралю Міндаву пра звальненьне біскупа Хрысьціяна ад прысягі, дадзенай арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі – 1254 вер. 3 (дак. II.10)
3) Папа Інацэнт IV вызваляе біскупа Хрысьціяна ад прысягі арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі – 1254 вер. 3 (дак. II.11)
4) Папа Інацэнт IV даручае Дорпацкаму біскупу паклапаціцца, каб ніхто не чыніў перашкодаў біскупу Хрысьціяну ў яго прызначэньні і юрысдыкцыі – 1254 вер. 20 (дак. II.14)

Даецца падрабязнае апісаньне булаў, прывешаных да дакумэнтаў.

8. GStAPK, Schiebl. XVII, nr. 18 – 1388 тр. 26 у Рызе, натарыя Мікалая Глецэры, клерыка Вармійскай дыяцэзіі, на запатрабаваньне Лівонскага майстра Робіна фон Эльч:
1) Папа Аляксандар IV наказвае каралю Міндаву дапамагаць біскупу Хрысьціяну і бараніць яго ад паганцаў ды іншых нападнікаў – 1255 сак. 7 (дак. II.18)
2) Папа Аляксандар IV зацьвярджае Нямецкаму ордэну дзесяціну, саступленую біскупам Хрысьціянам – 1260 ст. 25. (дак. II.20)
3) Кароль Міндаў уводзіць у дзяржаньне земельнымі ўладаньнямі ў Жамойці і ўпасажвае біскупа Хрысьціяна – 1254 сак. 12 (дак. I.3)
4) Біскуп Хрысьціян саступае ордэнскім братом дзесяціну зь земляў, падараваных Нямецкаму ордэну каралём Міндавам – 1254 крас. 6 (дак. I.11)

Пэргамін моцна пашкоджаны (плямы і дзіркі).
Даецца падрабязнае апісаньне папскіх булаў ды пячацяў караля Міндава і біскупа Хрысьціяна.

9. GStAPK, Schiebl. XI, nr. 15 – 1392 сьн. 17 у Рызе, натарыя Мікалая фон Пантэліц, клерыка дыяцэзіі Роскільдэн, на запатрабаваньне пракуратара Нямецкага ордэну Ёгана фон Вэльдэ:

Кароль Міндаў на выпадак сваёй сьмерці пры адсутнасьці дзедзічаў даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі усё сваё каралеўства – 1260 чэрв. сяр. (дак. I.9)

Даецца падрабязнае апісаньне пячаці караля Міндава.

10. GStAPK, Schiebl. XI, nr. 10 – 1393 тр. 18 у Торуні, папскага нунцыя Яна Габрыэлі, біскупа Масы, зроблены італійскім натарыем Хрыстафорам Ёганіні дэ Манфрэдыніс з Пармы на запатрабаваньне пракуратараў Нямецкага ордэну ў Лівоніі Мікалая Грапіна і Маркварда фон Суворстэн:

1) Міндаў, кароль Летовіі, даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі Селёнію – 1255 каст. (дак. I.4)
2) Папа Аляксандар IV зацьвярджае дарэньне (1255 каст.) каралём Міндавам Нямецкаму ордэну Селеніі 1257 ліп. 13. (дак. II.19)

Даецца падрабязнае апісаньне пячаці Міндава.
Пра папскую булу сказана: vera bulla plumbea cum filis sericeis rubei glaucique coloris.

11. Schiebl. XI, nr. 14 – 1393 тр. 18 у Торуні, папскага нунцыя Яна Габрыэлі, біскупа Масы, зроблены 18 тр. 1393 на запатрабаваньне пракуратараў Лівонскага майстра Мікалая Грапіна і Маркварда фон Суворстэн (не ўдалося адшукаць у GStAPK, магчыма страчаны):

Кароль Міндаў на выпадак сваёй сьмерці пры адсутнасьці дзедзічаў даруе Нямецкаму ордэну ў Лівоніі усё сваё каралеўства разам з прылеглымі землямі – 1260 чэрв. сяр. (дак. I.9)

Паводле Seraphim. I.2. s. 93, nr. 106 у транс. пра пячаць караля Міндава гаварылася:
sigillo rotundo, ut prima facie apparebat in cera alba et cordula de filis albis lineis impendente.

## II. Origo et chronologia documentorum
## Паходжаньне і храналёгія дакумэнтаў

### 1. Rex Mindowe et episcopus Christianus:

Rex Mindowe (1253–1264) – nr. I.1–10:

| | |
|---|---|
| I.1 | 1253 |
| I.2 | 1253 ліп. |
| I.3 | 1254 сак. 12 |
| I.4 | 1255 каст. |
| I.5 | 1255 каст. |
| I.6 | 1257 |
| I.7 | 1257 |
| I.8 | 1259 жн. |
| I.9 | 1260 чэрв. сяр. |
| I.10a | 1261 жн. 7 |
| I.10b | s.d. |

Episcopus Christianus (1253–1270):

| | |
|---|---|
| I.11 | 1254 крас. 6 |

## 2. Summi pontifices Romani:

Innocentius IV (1243–1254) – nr. II.1–14:

| | |
|---|---|
| II.1 | 1251 ліп. 15 |
| II.2 | 1251 ліп. 17 |
| II.3 | 1251 ліп. 17 |
| II.4 | 1251 ліп. 17 |
| II.5 | 1251 ліп. 17 |
| II.6 | 1251 ліп. 26 |
| II.7 | 1253 чэрв. 24 |
| II.8 | 1253 жн. 21 |
| II.9 | 1253 жн. 21 |
| II.10 | 1254 вер. 3 |
| II.11 | 1254 вер. 3 |
| II.12 | 1254 вер. 3 |
| II.13 | 1254 вер. 20 |
| II.14 | 1254 вер. 20 |

Alexander IV (1254–1261) – nr. II.15–20:

| | |
|---|---|
| II.15 | 1255 сак. 1 |
| II.16 | 1255 сак. 6 |
| II.17 | 1255 сак. 6 |
| II.18 | 1255 сак. 7 |
| II.19 | 1257 ліп. 13 |
| II.20 | 1260 ст. 25 |

Clemens IV (1265–1268):

| | |
|---|---|
| III.1 | 1268 ст. 20 |

Clemens VI (1305–1314):

| | |
|---|---|
| III.4 | 1310 чэрв. 19 |

## 3. Ceteri:

Consules Rigenses, universitas, conventus ecclesiae Rigensis etc.:

| | |
|---|---|
| III.2 | 1298 сак. 30 |

Procurator (Conradus Bruel) Ordinis hospitalis sanctae Mariae Theutonicorum:

| | |
|---|---|
| III.3 | [пач. 1310] |

(Franciscus de Moliano, nuntius et inquisitor papae):

| | |
|---|---|
| III.5 | [лют.–ліп. 1312] |

## III. Incipit-index litterarum pontificalium
## Паказальнік incipit папскіх лістоў

| | |
|---|---|
| Ad hec semper | II.5 |
| Carissimus in Christo | II.7 |
| Catholice fidei cultum | II.16, 17 |
| Cum a nobis | II.19 |
| Ex tenore vestre | II.9 |
| Exquisite diligentie studium | II.1 |
| In tua mente | II.18 |
| In tui magnificentia | III.1 |
| In vinea domini | III.4 |
| Inclinati precibus carissimi | II.11, 12, 13, 14 |
| Inclinati serenitatis tue | II.10 |
| Insinuavit nobis pridem | II.8 |
| Multa cor nostrum | II.2, 3, 4 |
| Olim nobis cum | II.15 |
| Solet annuere sedes | II.20 |
| Spiritu exultante percepimus | II.6 |

## IV. Explicit-index litterarum pontificalium
## Паказальнік explicit папскіх лістоў

| | |
|---|---|
| attemptari (contigerit) | II.7, 8 |
| attemptatum (fuerit). Nulli [ergo ...] | II.13 |
| communimus. Nulli [ergo ...] | II.17 |
| communimus. Nulli ergo ... | II.9, 20 |
| concedendas (litteras ...duximus) | II.15 |
| differri (valeat) | II.12 |
| exequatur | III. 4 |
| [exequatur] | II.3 |
| [generali (in concilio g.)] | II.6 |
| generari. Nulli ergo ... | III.1 |
| graciarum (proveniat actio g.) | II. 18 |
| habeatur | II.14 |
| incursurum | II.19 |
| indulgemus. Nulli [ergo ...] | II. 16 |
| memorato (transmisimus episcopo m.) | II.10, 11 |
| [mentionem (non facientes ... m.)] | II.1, 4, 5 |
| presumat (molestare). Nulli ergo ... | II.2 |



GStAPK, L.S. Schiebl. XI, nr. 9.
Арыгінал ліста караля Міндава з дарэньнем Селеніі,
кастрычнік 1255 (дак. I.4). Пэрг. 26,8 x 13.0

GStAPK, L.S. Schiebl. XI, nr. 12.
Арыгінал ліста караля Міндава з дарэньнем розных земляў Нямецкаму ордэну, 7 жніўня 1259 (дак. I.8). Пэрг. 31,2 х 19,2



GStAPK, Schiebl. IV, nr. 38.
Арыгінал ліста папы Аляксандра з зацьвярджэньнем дарэньня каралём Міндавам Селёніі, 13 ліпеня 1257 (дак. II.19). Пэрг. 50,3 x 34,8



LVVA, 8. f., 3. apr., kaps. A, 85. l.
Арыгінал сьведчаньня Рыскай рады, капітулу ды інш. пра намер літвінаў навярнуцца ў хрысьціянства ад 30 сакавіка 1298 (дак. III.2). Пэрг. 31,0 x 12,6

ASV, Reg.Vat. 22, f. 113, ep. 1–4.
Рэгістар лістоў папы Інацэнта IV ад 17 ліпеня 1251 каралю Лютавіі (дак. II.2), біскупам Эзэлю і Куроніі (дак. II.3) і двух лістоў Кульмскаму біскупу (дак. II.4, II.5 (пачатак)). Пэрг.

ASV. Reg.Vat. 23. f. 170. ep. 178.
Рэгістар ліста папы Інацэнта IV Наумбурскаму біскупу з даручэньнем узяць ад біскупа Летовії прысягу. 3 верасьня 1254 (дак. II.12). Пэрг.

ASV. Reg.Vat. 32, f. 189r-v, ep. 139.
Рэгістар ліста папы Клімэнта IV каралю Багеміі з дазволам аднавіць каралеўскі пасад у зямлі Летовіі. 20 студзеня 1268 (дак. III.1). Пэрг.

ASV. Reg.Vat. 311, f. 27v.
Копія транссумпту ад 11 красавіка 1358 у рэгістры папы Урбана VI: канец ліста папы Інацэнта IV біскупу Летовіі Хрысьціяну (дак. II.11) і пачатак яго ж ліста Наумбурскаму біскупу 3 верасьня 1254 (дак. II.12). Пэрг. 27,7 x 39,7

## PADSUMAVAŃNIE

Kniha "Mindaŭ, karoĺ Litoviji, u dakumentach i śviedčańniach" daje ŭ ruki daśliedčykam i paspalitamu čytaču dakumentaĺnyja krynicy XIII–XIV stst., dzie aśviatliajecca dziejnaść zasnavaĺnika slavutaj siaredniaviečnaj dziaržavy – karalieŭstva Litoviji, viadomaj paźniej jak Vialikaje Kniastva Litoŭskaje.

U vydańnie ŭvajšli ŭsie viadomyja dakumenty, dadzienyja pry žyćci Mindava, a taksama paźniejšyja (kanca XIII – pačatku XIV st.) akty i śviedčańni pra jaho, zasnavanyja na ŭspaminach liudziej, jakija viedali karalia. Teksty ŭdakladnienyja i vypraŭlienyja pavodlie aryhinalaŭ abo vartych davieru kopijaŭ i publikujucca zhodna z sučasnymi normami vydańnia lacinskich siaredniaviečnych dakumentaŭ. Vydańnie zabiaśpiečanaje navukovym i daviedkavym aparatam. Fotavyjavy aktaŭ dajuć mahčymaść spraŭdzić publikavanyja teksty i robiać ich boĺš dastupnymi dlia roznabakovych histaryčnych daśliedvańniaŭ.

Hetamu spryjaje taksama pieraklad dakumentaŭ na bielaruskuju movu. U kamentaroch padajucca boĺš padrabiaznyja źviestki pra niekatorych asobaŭ, jakija byli niedastatkova aśvietlienyja ŭ raniejšych publikacyjach listoŭ Mindava, a taksama pravodzicca papiaredni linhvistyčny razhliad admietnaha anamastyčnaha materyjalu dakumentaŭ. Taki razhliad daje padstavu dlia dapuščeńnia aĺternatyŭnaj interpretacyji pachodžańnia nazovu dziaržavy i ŭlasnych imionaŭ karalia i jaho blizkich.

Apošnija publikacyi šerahu materyjalaŭ, jakija ŭvajšli ŭ hety zbor, datujucca pačatkam minulaha stahodździa i ŭžo nie adpaviadajuć vymoham času, da taho ž boĺšaść ź ich stalisia rarytetami, a sami dakumenty zachoŭvajucca ŭ ciažka dasiahaĺnych dlia našych navukoŭcaŭ zamiežnych archivach. Tamu haloŭnaj metaj pracy bylo zrabić hetyja kaštoŭnyja krynicy jak maha boĺš dastupnymi dlia ajčynnych daśliedčykaŭ, padać ich va ŭsioj mahčymaj paŭnacie i tym samym pašyryć arsenal krynicaŭ, na jakich hruntujucca histaryčnyja studyi pačatkaŭ Vialikaha Kniastva Litoŭskaha.

## PRÉCIS

*Mindau, the King of Lithowia, in Documents and Records* presents documents that date from the 13th and 14th centuries and cover the activities of King Mindau, the founder of the legendary mediaeval Kingdom of Lithowia, which later became known as the Grand Duchy of Lithuania.

The book comprises all available documents, issued during Mindau's lifetime. It also contains later records, dating back to the late 13th and early 14th centuries and based on the memories of people who knew the king. The texts have been checked and corrected after the originals or veritable copies to meet the present-day standards for publishing mediaeval Latin documents. The edition has an index and reference materials. Presented in the book are also photocopies of the authentic documents in Latin, which enables researchers to check the texts with the originals and makes them easier to use for all kinds of historical research.

The Belarusian translations facilitate studies just as well. The commentary contains more detailed information about some historical figures who did not receive enough coverage in the earlier publications of Mindau's letters. Besides, the book includes a preliminary etymological study of the documents' distinctive onomastic material, which gives grounds for an alternative version as to the origin of the country's name, as well as the names of the king and his relatives.

Some of the documents, included into the corpus, were last published as early as in the 1910s. Those publications no longer meet the present-day requirements. Besides, most of them have become rarities, while the original documents are kept in foreign archives, hardly accessible to Belarusian historians. Thus, the book is meant to make the valuable sources available for Belarusian researchers. It offers a stock of sources as exhaustive as possible to provide the foundations for historical studies of the beginnings of the Grand Duchy of Lithuania.

## Index nominum
## Паказальнік

Усе ўласныя назовы ў паказальніку падаюцца у альфабэтным парадку. Адсылкі да асабовых імёнаў і геаграфічных назоваў, якія сустракаюцца ў тэксьце дакумэнтаў і ў навуковым апараце да іх, даюцца на нумары дакумэнтаў, дзе рымская лічба азначае разьдзел, а арабская – нумар дакумэнту ў разьдзеле, напр.: I.2; II.9; III.4 ды г.д. Імёны і мясцовыя назовы, якія зьмяшчаюцца ў прадмове і камэнтарох, падаюцца з адсылкамі на старонкі, якія пазначаюцца арабскімі лічбамі курсівам. Нумары дакумэнтаў аддзяляюцца ад нумароў старонак праз кропку з коскаю. Імёны аўтараў друкуюцца курсівам.
Скароты, прынятыя ў паказальніку:

arch. – archiepiscopus; eccl. – ecclesia; ep. – episcopus; fl. – fluvius; fr. – frater; lac. – lacus; mag. – magister; t. – terra; v. – vide; vil. – villa;

арц. – арцыбіскуп; б. – біскуп; бр. – брат; в. – вёска; г. – горад; р. – рака, рэчка; з. – зямля; м. – майстар; мс. – мястэчка.




Навуковае выданьне

**МІНДАЎ, КАРОЛЬ ЛІТОВІІ,**
**У ДАКУМЭНТАХ І СЬВЕДЧАНЬНЯХ**
На беларускай і лацінскай

Рэдактары
*Марыя Кавальчук, Алесь Зьмітровіч*

Мастацкае афармленьне
*Віталь Катовіч*

Макетаваньне
*Наталя Санько*

Карэктар
*Марыя Ігнаценка*




Падпісана ў друк 12.04.05. Фармат 60×84$^{1}/_{8}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,81+ 3,72 укл. на крэйд. паперы. Ул.-выд. арк. 13,6.
Наклад 250 паасобнікаў (50 паасобнікаў нумараваныя). Замова № 1391
НВК «Тэхналогія». ЛВ № 02330/0133466 ад 09.02.05. 220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, прасп. Ф.Скарыны, 79.